# РОДНЫ КРАЙ

ДРУГАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА КНІГА
ДА ЧЫТАНЬНЯ.

Злажыла **Л. ГАРЭЦКАЯ,**
вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі,

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ ШКОЛЬНАЙ КАМІСІІ
БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА Т — ВА.**

ВЫДАНЬНЕ ПЕРАРОБЛЕНАЕ і ДАПОЎНЕНАЕ.




**„ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА“ Б. КЛЕЦКІНА**
1929 БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ 1929

# РОДНЫ КРАЙ

## Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня.

Злажыла Л. **ГАРЭЦКАЯ**,
вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі,

**пад рэдакцыяй школьнай камісіі
Беларускага Навуковага Т—ва.**

ВЫДАНЬНЕ ПЕРАРОБЛЕНАЕ і ДАПОЎНЕНАЕ.

ВІЛЕНСКАЕ БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА Б. КЛЕЦКІНА.
ВІЛЬНЯ, 1929.

## Наша песьня.

Гэй-жа, песьня! Гэй-жа, наша!
Ў сьвет каціся ў кожны кут;
Хоць там нехта гоніць, страша, —
Вызваляйся з трудных пут!

Біся з хмарамі, з віхрамі,
Няпрыветы ўсе змагаї
І свабодна між людзямі
Сваё права здабывай!

Я. Купала.

## Хлопчык і плотачка.

Стаяў хлопчык на беразе й клікаў рыбачак:

— Рыбачкі, сёстрачкі, плывіце сюды да берага. Я вам нешта цікавае скажу!

Адважылася адна маленькая плотачка й падплыла.

— Што хочаш, хлопчыку? — спыталася плотачка

— Хадзі ка мне ў госьцікі! — сказаў хлопчык.

— У госьціках добра, але дома яшчэ лепей, — адказала плотачка.

— Са мною будзе весела: будзем разам гуляць, — казаў хлопчык.

— Мне й тут у рэчцы весела: маю з кім гуляць!— адказала плотачка.

— Тут у рэчцы ты пастаянна баішся шчупакоў і цярпіш голад. А ў мяне ў шкляной скрыначцы, у крынічнай вадзе нікога баяцца ня будзеш і шукаць яды ня трэба. Буду цябе сытна карміць, — казаў хлопчык.

— Лепей буду жыць у небясьпецы й голадзе, але на волі! — адказала плотачка, махнула залатым хвосьцікам і паплыла.

С. П.

# Старана мая.

(Народная песьня).

Ой, ель мая дый зялёная,
Старана мая вясёлая,
Я па табе не нахаджуся,
Я на цябе не нагляджуся,
У начы сплючы, а ў дзень ходзячы,
З салаўямі размаўляючы!

# Зоркі.

Жыла на сьвеце маленькая дзяўчынка. Бацькі яе даўно памёрлі, і ня мела яна кутка, дзе магла-б жыць. А з адзежы былі ў яе толькі адна сукеначка і хустачка.

Далі ёй добрыя людзі кусок хлёба. Пайшла дзяўчынка ў поле і сустрэлася там з старцам. Старац сказаў ёй: „Я хачу есьці, дай мне кусок хлеба“. Дзяўчынка аддала яму ўвесь свой хлеб і пашла далей. На дарозе стрэла яна маленькага хлопчыка, каторы і просіць яе: „Дай мне чым прыкрыць галоўку, бо мне ў галаву вельмі сьцюдзена“. Дзяўчынка зьняла з сябе хустачку і аддала яе хлопчыку. Раптам сталі валіцца на яе з неба зоркі і зваліўшыся на зямлю сталі срэбранымі.

Старцаў называюць яшчэ жабракамі.

# Дзеці.

Ішоў я раз па лесе і сустрэў там трое дзяцей. Дзьве маленькія дзяўчынкі зьбіралі гальлё і вязалі яго. Пад

дрэвам сядзеў худзенькі хлопчык і еў скарынку хлеба. Я папытаўся ў дзяўчатак:

— Што вы тут робіце?

Большая дзяўчынка сказала:

— А мы тут гальлё зьбіраем.

— А хлапец гэта брат ваш?

— Не, чужы.

— Ён сірата — дадала малодшая дзяўчынка, — матка ў яго памёрла, бацька бедны, і нічога няма. Вось мы шкадуем яго, прыносім яму чаго-небудзь зьесьці і памагаем яму зьбіраць гальлё.

Як хлопчык зьеў хлеб, дзяўчынкі памаглі яму падняць вязанку гальля і пайшлі з ім разам у вёску.

— Трэба яго прапусьціць дамоў, каб яго вясковыя хлопцы ня скрыўдзілі,—сказала старэйшая дзяўчынка.



**Нянька.**

# Храмы.

Па вуліцы ішоў, кульгаючы, апіраючыся на палку, храмы чалавек. Ззаду яго ішло некалькі дзяцей, яны дражнілі храмога і сьмяяліся з яго. Храмы нічога не адказаваў і моўчкі ішоў далей; відаць было, што яму

баліць у сэрцы ад зьдзеку дзяцей. Якісь стары задзяржаў вясёлую чараду. „Пастойце, хлопцы, — сказаў ён, — ці ня хочаце, каб вам расказаць гісторыю гэтага храмога? Я яе добра ведаю: мы—суседзі. Быў гэты храмы харошым дзяцюком. Здарыўся на нашай вуліцы пажар. У адным доме забыліся дзіцяці. Маці крычала і плакала, малістувала, каб выратавалі яе хлопчыка. Хлопчык астаўся ў хаце на другім паверсе, а дом ужо быў у вагні, і вось гэты чалавек схапіў лесьвіцу і палез у вагонь. Праз некалькі мінут ён спусьціў на вяроўцы каробку з сынам, а потым стаў спушчацца сам, але абгарэлая лесьвіца зламілася. Ён зваліўся з вышыні і зламіў сабе нагу, і адгэтуль ён храмы. Вось і ўся гісторыя. Ну, цяпер даганяйце храмога, мо' яшчэ пасьмяіцёся з яго“. Дзеці застыдаліся і маўчалі. На вачох у іх былі сьлёзы.

## Гэй наперад!

Гэй наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй да сонца! гэй да зор!

Хай бацькі стагналі ўчора,
Йшлі на той сьвет без пары;
Сяньня ў нашай моцы гора,
Мы жыцьця гаспадары!

Думка ў думку, дружна, сьмела
Ўсе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду крэпка стой!

К новаї долі шлях нам ляжа,
Як на небе млечны шлях,
Слова, дум ніхто ня зьвяжа;
Жыць, цярпець ня будзе страх!

Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор!
Годзе млеці ў паняверцы!
Гэй да сонца! гэй да зор!

Я. Купала.

## Сіла ў грамадзе.

Пад старой дуплінай у лесе працавітая мурашка ўздумала будаваць сабе хатку.

Працавала дзень, працавала два дні — нічога ня выйшла. Толькі выбілася з сіл, а не магла даць рады адна.

Паклікала яна роднага брата ў дапамогу. Так сама мала пацехі было. Хоць ты плач: не хапае сілы.

Паклікала яна кумоў, сватоў і ўсіх сваякоў у дапамогу. Праца пайшла шпарчэй, але так сама без вялікай карысьці. Гэтак марудна будаваць, дык хіба праз дзесяць год хатка будзе гатова. Гэта так сама радасьць невялікая: пакуль хата будзе гатова, дык Богу душу аддасі.

Тады паклікала мурашка вялікую грамаду знаёмых і сяброў з усяго леса. Закіпела праца, ажно люба было глядзець. Знайшліся ўсе патрэбныя майстры: цесьляры (плотнікі), муляры, кавалі, сьлесары, шкляры й чорнарабочыя. Пілавалі, будавалі, муравалі, капалі, стукалі, грукалі проста на дзіва.

Хата з кожным днём расла й расла ўверх.

Праз тыдзень хата была гатова. Ня хата, а палац. У некалькі паверхаў, з каморамі; скляпы, кладоўкі, сьвірны й розныя-розныя патрэбныя штукі.

— Калі хату будаваць грамадой добра, дык жыць у грамадзе яшчэ лепей, — падумалі мурашкі. І зажылі яны разам.

С. П.

## Рамясло корміць.

У ваднэй вёсцы каваль каваў у кузьні, а малады купец часта прыходзіў і глядзеў цэлымі гадзінамі на яго

работу. — Навучэцеся хоць цьвякі (гвазды) рабіць, — сказаў яму адноўчы каваль. — Хто ведае, можа гэта вам калі-небудзь і прыдасца.

Малады купец зарагатаў; але ня маючы чаго робіць, стаў перад кавадлам і хутка навучыўся каваць добрыя шавецкія цьвякі. Прайшло чатыры гады, і купец згалеў. Ня ведаў ён, як яму заробіць сабе на хлеб. Доўга шукаў ён работы. Вельмі гараваў, што сядзіць без занятку. Шукаючы работы, трапіў ён адноўчы ў вёску, дзе жыло шмат шаўцоў. Усе яны куплялі шавецкія цьвякі ў суседнім мястэчку, куды ім было далёка езьдзіць. Тут купец успомніў, што ён калісь навучыўся рабіць шавецкія цьвякі. Ён узяўся за работу і з таго часу жыў спакойна і не дазнаючы нястачы.



## Чаму-ж мне ня пець?

(Народная песьня).

Чаму-ж мне ня пець, чаму-ж ня гудзець?—
Калі ў маёй хатачцы парадак ідзець!

Павучок на сьценцы кросенкі снуець,
Мушка на ваконцы ў цымбалікі б'ець,
Парсючок пад лаўкаю бульбачку грызець,
Пятушок на сьметнічку зерняткі дзяўбець,
Сучка на лычку хатку сьцеражэць...

Чаму-ж мне ня пець, чаму-ж ня гудзець?—
Калі ў маёй хатачцы парадак ідзець!



# Пісьмо.

— Напішы мне, калі ласка,
Пісямко да хаты!
Піша з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты.
Охо-хо!—Пракоп ўздыхае
Ў смутку і ў кручыне;
Белы ліст ў руках трымае
І канвэрцік сіні.
Просіць шчыра грамацея,
Навет шапку скінуў;
Сам Пракоп пісаць ня ўмее, —
Гдзе-ж, ў бядноце гінуў.
— Што-ж табе пісаць, старэнькі?
— А пішы, нябога:
Жонка, сын мой дарагенькі!
Шлю паклон з вастрога.
Сэрца мне баліць, і вас я
З думак ня спускаю;
Кожны божы дзень і час я
Дом свой ўспамінаю.
Сын мой! Снасьці рыбаковы
Добра ты прыпратай, —
Згодзяцца; а венцер новы —
Маеш час — залатай;
І яшчэ, мой сын, прашу я,
Човен кінь ў адрыне,
Няхай вецер ня сьвідруе,
Няхай так ня гіне.
Ўсё, што можна захавайце,
Покуль я вярнуся.
Нераток стары дадайце
Міхалю з Габрусем.
Дарагі мой сын! прад здачай
Да мяне зайдзі ты,
Бо мо' больш і ня убачу,
Не пачую, гдзе ты.

Не маркоцьцесь, не бядуйце,—
Дасьць Бог спосаб новы.
Што-ж ты зробіш? пагаруйце.
Будзьце ўсе здаровы!

Я. Колас.

# Песьня салаўя.

У цеснай крэпкай турме вялікага места сядзеў чалавек. Злыя людзі закавалі яго ў зялезьзе і кінулі ў турму. У турме было мокра і сьцюдзена. Заместа пасьцелі ў яго была мокрая салома. Яму прынасілі толькі хлеб і ваду. Ён сядзеў там зьбялелы, хворы, маркотны. Сонца рэдка сьвяціла ў яго вузенькае ваконца, сьвежае паветра не дахадзіла ў турму. Сумна думаў ён аб сваіх любых родных, аб маленькіх дзетках сваіх і думаў, што можа даўно ўжо ўсе забыліся на яго, лічачы памершым. Што там робіцца на зямлі і ў бацькаўшчыне?



Ён падыйшоў да вакна. Быў дзіўны летні вечар. Сонца выходзіла за лес, асьвячаючы чырвоным сьвятлом яго вярхоўкі, людзі йшлі і ехалі па вуліцах. Турма была высака, і людзі здаваліся ўнізе маленькімі. Ён закрычэў ім, але ніхто не пачуў яго.

У сінім небе лёталі птушкі. Перад вакном ціха праляцеў арол.

— Арол, арол!— закрычэў яму паняволены.—Сядзь у мяне на ваконцы, раскажы, што робіцца на зямлі, запяі мне песьню.

— Не, — адказаў арол, — вакно тваё вельмі малое; мне няма дзе сесьці. Я не раскажу табе, што робіцца на зямлі, бо рэдка спускаюся на зямлю. Я вію гняздо

сваё на найвышэйшых скалах і старых дубох, далей ад благіх людзей, каб яны не разрылі майго гнязда. Я не запяю табе песьні, бо ніколі не пяю на зямлі. Я паднімаюся высака, высака, і мае песьні чуе толькі вечнае сонца.

І магутнымі ўзмахамі шырокага крыльля арол пышна падняўся да неба і схаваўся ў вобалаках.

— Лебедзь, лебедзь! Раскажы, што дзеецца на зямлі, запяі мне песьню.

— Не,—адказаў лебедзь, я не раскажу, што робіцца на зямлі. Я плаваю заўсёды па вадзе, чыстай, прахалодлівай вадзе, між зялёным чаротам. Калі вада зробіцца ружаватая раніцай, досьвіткам, я голасна крычу досьвітку: вітай! Я запяю песьню, калі ўміраць буду. І лебедзь паплыў па паветры, бліскаючы белым крыльлем.



— Верабейкі, верабейкі! Сядзьце на ваконца, раскажэце, што робіцца на зямлі, запяіце мне песьнячку.

— Чылік, чылік! Нам няма калі! Нам яшчэ трэба падзяўбаць зернятак, што мельнік зьнячэўку рассыпаў...

Але раптам пырхнула шэрая птушка, пакруцілася перад вакном і села на зялезную крату.

— Вітай, салавейка! Дзякую табе, мілая птушачка, што даведалася мяне. Раскажы, што робіцца на зямлі, запяі мне песьнячку.

— Я раскажу, што робіцца на зямлі, я запяю табе песьнячку.

І паліўся гэткі сьпеў, што бедны нявольнік заплакаў з радасьці, зваліўся на салому і ўсё плакаў, і ўсё слухаў.

— Учора раніцай, досьвіткам, — пяяў салавейка! — было гэтак сьвежа і прахалодліва! Я прыляцеў да твае хаткі, сеў на зялёны ляшчынавы куст перад расчыненым ваконцам і пяяў, і пяяў.

У калысцы спаў твой маленькі сын. Ён расплюснуў свае вялікія сьветлыя вочкі і пытаўся: „Дзе тата? Дзе тата?“ — і слухаў мае песьні... Тваё родныя плачуць, спамінаючы аб табе!

Яны цабе любяць, вельмі любяць, вельмі хочуць цябе пабачыць.

Не безнадзейся! — Усе ўбачаць, што ты нявінен: людзі выпусьцяць цябе, і ты ізноў пойдзеш на волю, на сьвятло, на паветра. І дзеці тваё будуць цябе абнімаць і цалаваць. Будзе ціхі летні вечар, даўгія цені пацягнуцца ад дрэў, на сонцы зазіхцяць абалоны ваконныя; ты будзеш на ганку расказаваць дзяцём, як ты мучыўся. Будзеш іх вучыць, каб яны, калі вырастуць, не давалі благім людзём рабіць благія справы, а навучалі-бы, каб усе людзі любілі адны адных, як брат брата... І дзеці тваё паслухаюць цябе. Калі яны вырастуць, ты ўбачыш іх добрымі і справядлівымі, убачыш, як яны будуць памагаць бедным і нешчасьлівым. Ты будзеш жыць доўга, доўга. Валасы тваё пасівеюць, але сэрца будзе радасна біцца! І калі ты памрэш, усе будуць па табе сумаваць і плакаць, і панясуць цябе на зялёныя магілкі ў сьветлы сонечны дзень. Над магілкай тваёй пасадзяць рожавы куст, і я буду досьвіткамі пяяць над тваёй магілкай.



## У школу.

| | |
|---|---|
| Ярка на камінку<br>Смольны корч пылае; | Бацька на калодцы<br>Лапаць выплятае. |

Латае халацік
На услоне матка:
Ў школу заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка.
Сын васьмёхгадовы
Корчык падкладае,
З бацькавай работы
Вочак ня спушчае.
Сьветлая галоўка
Мысьлямі занята;
Многа ўсякіх думак
У вачох Ігната!



— Ну, Ігнат, глядзі, брат,
Ня дурэй, вучыся!
Годзе жыць бяз дзела —
За буквар вазьміся.
Будзь старанным, сынку,
Станеш чалавекам,
Будзеш ты чытаць нам —
Цёмным няумекам,

Што там ў кнігах пішуць,
Што мы ў сьвеце значым,
Бо мы самі цёмны,
Сьвету мы ня ўбачым.

Слухай, што настаўнік
Гаварыць там будзе
Пра навуку, кнігі
І аб цёмным людзе.

А стараннымъ будзеш,
Да навукі здатны,
Я прадам кароўку
І кажух астатні:

Далей йдзі ў навуку,
Толькі, брат, вучыся...
Дык глядзі, сыночак,
Шчыранька вазьміся!

На гульню пустую
Плюнь, махні рукою,
Каб і я і маці
Цешыліcь табою.

Я. Колас.

## У школу па чародзе.

У ваднэй вёсцы жылі два браты-сіроткі. Аднаму з іх было дзесяць гадоў, а другому — адзінаццаць. Каб заробіць сабе кусок хлеба, яны рабілі скрыначкі да сярнічак. Абодвум вельмі хацелася вучыцца чытаць. У будні дзень ня было калі дзяцём хадзіць у школу: яны рабілі дома, а ў нядзелю яны маглі вучыцца. Вось ім пашчасьціла: узімку за тры вярсты ад вёскі адчынілі школу, у каторай вучылі па нядзелях. Але вось бяда, па сьмерці бацькі ў іх абодвух астаўся толькі адзін кажушок, а зіма была сьцюдзёная, з мяцеліцамі. Нельга было ім абодвум хадзіць у школу. Дык што-ж яны прыдумалі? Яны апраналі кажушок па чародзе: як адзін брат ішоў у школу, другі аставаўся дома. Аднойчы вучыцель папытаўся ма-

лодшага хлопчыка: „Дзе-ж твой брат? Чаму ён ня прышоў разам з табою?“ Хлопчык адказаў: „У нас толькі адзін кажушок, і мы апранаем яго па чародзе; сяньня быў мой чарод ісьці ў школу. Як я вярнуся дамоў, я раскажу брату ўсё, што я тут даведаўся. Гэта добра і



для мяне, бо я лепей навучуся лекцыі, як расказваю яе брату. У другую нядзелю брат пойдзе ў школу і раскажа мне лекцыю.

**Прыказка.** За аднаго вучанага дзесяць нявучаных даюць і то не бяруць

## Вучоны сын.

Бацька сабраў апошнія капейкі, якія меў, і за тыя грошы аддаў сына вучыцца ў места. Настала лета, прыехаў сын з места дамоў на супачынак. Бацька сказаў: „Можа надыйсьці дождж: вазьмі, сынку, граблі, пойдзем, памажы мне зграбіць сена“. А сыну не хацелася працаваць, ён і кажа бацьку: „Я ў месьце вучыўся ўсялякіх на-

вук і ўсе простыя словы забыўся. Што гэта такое граблі?" Завярнуўся і пайшоў праз панадворак. Толькі ён падыйшоў да варот, аж тут наступіў на граблі: граблі ляснулі яму па лобе. Схапіўся сын за лоб і кажа:

— Які-ж гэта дурань зубамі ўніз граблі паставіў?

А бацька: „То ты ўжо, сынку, пачынаеш прыпамінаць простыя словы?"

## Над калыскай.

Над калыскай матка ночку каратае: хворага сыночка цешыць, забаўляе. На цьвяку павешан начнічок убогі; сумна пазірае месячык двурогі; карагоды зорак ўгарэ мігаюць, а ўнізе сьняжынкі срэбрам адліваюць. Так спа-



койна ўсюды і такая ціша. Хворае дзіцятка неспакойна дыша, а пракляты кашаль не дае спакою.

— Сьпі, маё дзіцятка! Сьпі, маё любое! Ня пужайся, мілы, Бог сьвяты з табою. Вон пайшоў ты з хаты, сівы дзед з кульбою. Ось пайшоў дзед сівы, крывіцца і плача! Уцякай адгэтуль, уцякай, лядача!

Ото — дурань сіві: думаў напалохаць! Будзеш усю ночку на марозе вохаць. А ня ходзь у хату, а ня лезь сьляпіцай! Плач цяпер і мерзьні ды ня будзь дурніцай.

О! Пятрусь харошы! Любяць ўсе Пятруся: любіць яго тата, любіць і матуся! Купіць тата Пётру боцікі на ножкі. Пойдзе мой сыночак пракладаць дарожкі. Новую кашульку я табе пашыю, ў цёпленькай вадзіцы чысьценька абмыю, будзеш ты харошы! Цётка не спазнае... „А чый гэта хлопчык?“—дзядзька запытае. Ўсе дзівіцца стануць і хваліць Пятруся. — „Гэта я! — ты скажаш, — я, сынок Габруся.“

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Поўнач пракрычэлі пеўні з хаты ў хату. Ў газьніцы ўсё курыць блеск падсьлепаваты. Змучана кабета мацярынскім горам і схілілась ціха над сыночкам хворым. І калыша сына, страхі адганяе, а самой ёй сэрца нешта сьсе, сьціскае.

Я. Колас.

## Вясковыя дзеці.

Пусты ўлетку нашы сёлы,
Ўсе на полі за сярпом,
Толькі дзетак крык вясёлы
Льлецца ў вуліцах руччом.

Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар,
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле, як дар.

Я. Колас.

  

# Мікітка.

## I.

Як паехаў Кукор у заработкі ў Рыгу, дык колькі ўжо часу мінула, — ні грошы, ні пісьма дамоў ня прыслаў. Але Кукорыха дала сабе раду: і дзеткі пад'еўшы і сама не галодная. Улетку, чуць сьвяток уздымецца, кароўкі сваёй няма—гнаць у поле некага, у печы вытапіць, есьці зварыць, узбудзіць старэйшага сынка, сямёхгадовага Мікітку, і ў ягады ці ў грыбы яго выправіць або ў хаце за гаспадара пакінець: меншых, Параску і Агатку, даглядаць, парасяці ахрап'я назьбіраць і зьсячы. А сама—пашла; то ў двор на падзённую, то да суседзяў-багатыроў. Свае вясковыя лепш: хоць і працы вымагаюць, але і пакормяць палюдзку і грошы заплоцяць.

А Мікітка ў хаце парадак наводзіць. Падлогу падмяцець, — куру-дыму падымець паўнюсенькую хату, на дзяцей насварыцца, каб ня крычалі і ня біліся, у гарод споўзаець, травы назьбіраець; пакуль зьсячэць, тое-гэнае, аж і вечар ёсьць. Вернецца матка, закруціцца па хаце, зараз і гарачай стравы падрыхтуець, дзякаваць Божухну, і спаць можна класьціся.

Так і восень падышла.

Раз, пад вечар, апынуўшыся ў хаце, матка ўвідзела, як бяжыць міма іх вакон дзяцьвішча са школы, і зачапіла сына.

— Ну, Мікіта, стройся і ты ў школу. Гарасімавы дзяўчаты яшчэ і ў поле ня кінулі ганяць, а ўжо ходзяць. І табе пара.

— Няхай сабе ходзяць, — забурчэў Мікітка. — А я не пайду. Хто-ж у нас гаспадарку правіць будзець?

— Ну, можа неяк абойдзецца, — засьмяялася маці,— я ўжо тваю работу справўлю як-небудзь.

— Не, мне і бацька казаў, каб я гаспадаркі даглядаў. А вучэньне тое, Бог з ім, пасьпеецца,—хоць троху ўжо няпэўным голасам, — а ну, як матка ўсё-ж пагоніць у школу, — сьпіраўся сын.

Але тая на ўспамін аб бацьку засмуцілася, і гутарка так і зышла на пустое.

Сядзе пад вечар Мікітка ля вакна і глядзіць, як школяры бягуць дамоў. Цікаўна быць у такой кумпаніі, — што ён усё з малымі, як дзед які стары. Але там большыя скубаюць меншых, б'юцца. Ён і сам сваім малым сёстрам надта расхадзіцца не даваў, дык то ён. А яшчэ самае горшае: няма чаго апрануць Мікітцы. Матчына старая ватоўка каля дома нішто — цёпла, а ў вучылішча сорамна ў ёй ісьці, — які ён мужчына і гаспадар, калі ў бабскай адзежы пойдзець. Дзе-ж гэта зразумець матцы?

## II.

Было-было пуста, але раптам стала густа. Дастала маці з пошты павестку на грошы і на пасылку. Не пакрыўдзіў Кукор сваей бабы. А ў пасылцы што было: новае сіняе пальто з бліскучымі „залатымі“ гузікамі і новыя боты для „маладога гаспадара і майго дарагога насьледніка“.

Надуўся Мікітка ад важнасьці, як той індык. Узьдзенець боты, надзенець пальто і ходзіць, аглядаючы сябе, па хаце. Сёстрам ані дакрануцца да яго, навет калі маці, радая і гордая з бацькавага падарунку, возьмецца рукамі за сукно, каб разгледзіцца ў гатунку, нешта ўколець Мікітку: каб толькі не папсавала як-небудзь. Адабраць пальта не адбярэць, у пісьме ясна было сказана, — усе чыталі: маладому гаспадару і майму дарагому насьледніку“. Трэба адпісаць бацьку. — „Э, брат ты мой, — падумаў, — ніяк ужо ад школы не адкруцішся“.

Назаўтрае ўстаў рана-ранепька, пад'еў і ўзяўся апранаць новае пальто.

— Куды ты? — зьдзівілася маці.

— У школу, — важна адказаў сын.

— Чаго цябе так рана нясець? Зарупіла. Пальтом пахваліцца хочаш, каб парвалі там.

— Пальтом пахваліцца! — зачырванеўся і загневаўся хлапец. — Тата просіць, каб часьцей пісалі, што-ж чужых людзей прасіць, трэба самому наўчыцца.

Адчыніўшы дзьверы ў клясу, Мікітка троху прыстоіў на парозе, потым пасунуўся ў куток за дзьвярмі ля вакна, дзе заўсёды станавіліся першачкі й ждалі, пакуль увойдзе ў клясу настаўніца і ўвідзіць.

Дзяцей у клясе было няшмат. Яшчэ па вёсках у поле ганялі, іншыя з работай удаму не паўпраўляліся, дык большасьць дзяцей былі Мікітавы равесьнікі-першагоднікі.

Мікіта спакойна стаяў у куце і аглядаў свае гузікі і боты. Ён не памыліўся ў сваіх прадчуваньнях: хараство яго убора далося ў вочы.

— Глядзіце, якое пальто ў Мікіткі. Сіняе. Гузікі блішчаць. Якраз земскі.

Мікітка набраў поўныя шчокі паветра і раптам шумна выдыхнуў. Некаторыя падскочылі да Мікіткі і стаялі моўчкі з подзівам. Іншыя прыставалі да яго: „Скуль у цябе? Будзеш у ім хадзіць? Няўжо?“ А нейкі дуронік сьмела пацягнуў за жоўценькі бліскучы гузік.

Як увайшла ў клясу настаўніца, дзеці разьбегліся па сваіх лаўках. Мікітка астаўся там адзін.

— Новенькі? — адазвалася настаўніца, — граматны?

— Не! — адказаў коратка і сам дзівіўся, што ані крошачкі не баяўся.

— Фамілія і імя? — узяўшы ў рукі журнал для запісу, пыталася далей.

— Мікіта Кукор. — А потым патураючым голасам дадаў: „А можаш і Мікіткай зваць“.

Засьмяялася настаўніца, а за ёю — дзеці, навет тыя, што ня ведалі, чаго.

Ён ад гэтага сьмеху зусім не засароміўся і важна сеў на паказанае месца, шануючыся, каб не датыкнуцца да суседа.

Добрае пальто ў Мікіткі, ёсьць чым пахваліцца і пагардзіцца, але ня мог ён пахваліцца сваім вучэньнем. Сядзеў Мікітка спакойна, ня круціўся, ня дурэў, цягнуў доўга-доўга разам з другімі с-с-с-с-с, аж пакуль духу хапала, і толькі адно гэтае *с* і ведаў.

— Ці скора бацьку пісаць будзеш? — зачапляла яго маці, калі ён увечары садзіўся з кніжкай за стол і цягнуў

бліжэй да сябе лямпачку. — Усё сыкаеш ды сыкаеш...— дакарала яна,

— „Многа ты сама разумееш“, — хацелася сказаць, але ўстрымліваўся і думаў, што нядарма яго не цягнула ў школу, калі трэба так мазгамі круціць.

III.

Восень усё больш і больш насувалася, дождж, балота; трэба асьцярожна йсьці бакавой сьцежачкай, каб ня дужа запэцкаць у гразі боты. Ля школьнага будынку разьлілася вялікая шырокая лужына, — скуль і ўзялася такая? Перахадзіць цераз яе трэба было па кладачках, высьцярагаючыся ступаць моцна, каб канец дошкі ня высьлізнуў з-пад ног і ня боўтнуўся ў ваду.

Нудная шэрая ймгліца. Вышла настаўніца, акруціўшыся вялікай цёплай хусткай, на ганак, глядзіць, як зьбіраюцца ў школу дзеці. Хто шыбка бяжыць, а хто па самаму балоту нагамі плёхаець; падходзячы к ганку, скідаюць перад вучыцелькай шапкі і асьцярожна ступаюць па кладачках. Ціхім мерным ходам падыйшоў і Мікітка, узышоў на дошкі, дабраўся ўжо да палавіны лужыны і тады толькі ўгледзіў на ганках настаўніцу. Схапіўся за шапку, ногі пасьлізьнуліся, матнуўся ў адзін бок, у другі і—боўць у лужыну! Устаў мокры-мокры, брудны-брудны. І сорамна і пальта шкода! І пальто раптам абрыдла і сам ня ведаў, што рабіць, як дзяржацца; зьняў пальто, першы раз за ўвесь час у школе, кінуў недзе ў сенцах, навет не павесіў, і смутны-смутны прасядзеў усе лекцыі. Настаўніца відзела ўсю прыгоду і не чапала яго, а таварышы дакучалі, прадавалі зубы: „Земскі гузікі згубіў, у бруднай лужы ўтапіў“. Маўчаў. Як кончыліся заняткі, знайшоў сваё пальто ў сенцах пад нагамі, бруднае, надзеў з агідаю і пацягнуўся дамоў. Ну, а маці, ведама— жанчына, абабіла, не распытаўшыся, як і што было. Ды ці яна зразумеець? І што яму тое пальто, ён сам па сабе малайчына,

На другі дзень, як заняткі ў школе йшлі ўжо з добрых поўгадзіны, зьявіўся ў школу Мікітка. Ужо ў тым,

як ён адчыніў дзьверы і ўскочыў у клясу — неяк бокам-бокам, было столькі нязвычайнага для таварышаў, што тыя—глядзяць на яго, а Настася Зайчышка, яго суседка па лаўцы, калі ён сморгаючы носам, са стукам сеў за стол, голасна на ўсю клясу папыталася: „Здурнеў ты Мікітка, ці што?“.

Сіняга пальта з залатымі гузікамі на ім ня было. Старая, зашмальцаваная на лакцёх матчына ватоўка замяніла пальто. Але разам з залатымі гузікамі скінуў Мікітка і сваю важнасьць. Шчокі не надуваліся, як звычайна, вочы ажывіліся і ў мазгох з літарамі большы парадак зрабіўся. Дзень за днём кождай літары знаходзілася ў галаве сваё месца, і мусіць-ткі бацька пад вясну дачакаецъ пісьма ад свайго „маладога гаспадара“.

## Доля батрачкі.

Маці ў службу выпраўляе родную дзяціну
І украдкам выцірае горкую сьлязіну.
— Будзь паслушна ты, дачушка,—навучае матка,—
Дагаджай чужым ты, служка, ды цярпі, дзіцятка!
Не адзін раз твае вочкі заплывуць сьлязою;
Твая доля цямней ночкі, цяжка быць слугою!
Ня уважыць чужаніца ручак тваіх белых;
Поту выльлецца крыніца з шчочак загарэлых.
Леткам ўстанеш раней зоркі, перша пойдзеш ў поле...
Ох, дачушка, хлеб твой горкі, горка твая доля!
Маці дочку разважае, сябе цешыць стара;
Жаль ёй к сэрцу падступае, як-бы тая хмара.
Вось дзяўчына ўжо гатова, пакідае хатку.
— Ну, матулька, будзь здарова!—і цалуе матку.
Вышла маці ўсьлед за ёю, стала пры парогу
І, падпёршы твар рукою, глядзіць на дарогу.
Доўга матка ўсё глядзела, доўга паглядала,
Покі Ганны хустка бела з вачэй не прапала.

Я. Колас.

# Самавучка.

Даўней сялянскім дзяцём вельмі трудна было дабіцца таго, каб іх прынялі вучыцца ў школу. У школах вучыліся толькі панскія дзеці, а сяляне скрозь былі няграматныя і праз гэта цёмныя й бедныя. У варнэй школе ў тыя часы адбываліся прыймовыя экзамены. На лаўках сядзелі багата апраненыя дзеці. Неўспадзеўкі расчыніліся дзьверы і ў школу ўвайшоў просты хлопчык. Вопратка на ім была шэрая, суконная і закураная пылам, у руках была палка. Ён увайшоў і нясьмела стрымаўся каля дзьвярэй.



— Чаго табе тут трэба? — папыталіся хлапца.

— Я хацеў-бы здаць экзамен, — ціха адказаў хлопчык. Пры гэтых словах усе пачалі рагатаць. І хлопчык засароміўся яшчэ болей.

— А ці ты ведаеш, што трэба умець да экзамену? — папытаўся ў хлапца адзін з вучыцялёў.

— Ага, я вучыўся ўсё тое, што трэба, каб паступіць у школу.

— Ну, то сядзь, пажджы.

І хлопчык сеў на лаўку і пачаў прыслухацца, чаго пыталіся ў дзяцей.

— „Але, — думаў ён,—няма чаго баяцца, я ўсё гэта ўмею“.

Прышоў чарод да хлапца. Ён ужо асьмеліўся і адказаваў на пытаньні бойка і ясна; відаць было, што ён многа перад тым вучыўся. Яму сталі задаваць самыя цяжкія пытаньні, пыталіся ў яго і тое, чаго ня трэба было да таго экзамену. Ён адказаваў на ўсе пытаньні. Цяпер ужо ніхто не сьмяяўся.

— Хто вучыў цябе? — папытаўся вучыцель.

— Мяне ніхто ня вучыў. Я сам вучыўся ў вольны ад работы час, — скромна адказаў хлопчык-самавучка.

**Прыказкі.** Навука лепей за багацьце. Навука дае чалавеку розум.

## „Галава балела“.

Пачаў я хадзіць у школу ў нашай роднай вёсцы. Як-жа я любіў хадзіць туды! Колькі прыемнасьці давала школа! Гэта быў белы, чысты крыты гонтам будынак, з вялікімі вокнамі і ганкам, з прыгожым напісам: „Школа“. Потым у самай школе колькі было добрых рэчаў! Я кожны раз разглядаў то белую кафляную печ, то чорную гладкую дошку — і так бяз конца. Хадзіўшы ў школу, я кожны раз адрабляў добра лекцыі; але пад канец пачаў трохі ленавацца, а раз пабег з хлапцамі купацца, потым у лес — і забыўся зусім аб лекцыях! На другі дзень, прышоўшы ў школу, я зусім ня ведаў лекцыі. Аж тут выклікае мяне вучыцель і пачынае пытацца. Я перапалохаўся і ня ведаў, што адказаць. Тымчасам хлапец, мой сусед, шэпча мне, каб я казаў, што галава балела. Я й кажу, што галава балела, а вучыцель кажа: „Гэта табе ў лесе балела галава?“ Як сказаў вучыцель гэтыя словы, дык я і ня ведаю, што са мною зрабілася: хочацца гаварыць, але душыць нешта. Я апусьціўся на лаўку чуць устрымліваючыся ад сьлёз. Потым я ўжо стараўся лепш вучыцца і ня дурэў так з хлапцамі. Вучыцель, як я потым даведаўся, быў у лесе і бачыў мяне.

Чэслаў Ханяўка,
вучань 4 кл. Віленск. беларуск. гімназіі.

## Дудка.

(Народная песьня).

Былі ў бацькі тры сыны —
Усе трое Васілі.
Адзін конікі пасець,
Другі лапцікі пляцець,

Трэці сядзіць на камені,
Дзяржыць дуду на рамені.
— Ах ты, дудка мая,
Весялушка мая,
Весяліла ты мяне
У чужой старане!
Як павесіў я дуду
На зялёным на дубу, —
Дуда з дубу звалілася,
На трусачкі разьбілася.
Ох, і дудка-ж была,
Весяліла мяне
На чужой старане.
Ах, я бедны цяпер,
Пайду пасьціць цяцер.
Я цяцерку пасу
У кляновым лясу,
А цяцерка за куст,
Я цяцерку за хвост,
Як вырву-ж я пярыначку,
Як зраблю-ж я дудыначку,
Як стану я ўзноў іграць,
Усіх стану пацяшаць!
Мне і татка пірог,
Мне і мамка пірог,
Мне і братка пірог,
Мне сястрыца пірог,
Мне і дзядзька пірог,
Мне і цётка пірог,
І сусед мне пірог,
І суседка пірог.
Я на дудцы: гу-гу-гу! —
Усе нясуць па пірагу.

Назьбіраў я пірагоў
Восемдзесят карабоў,
Запрагаю каня —
Мой і конь не вязець;
Запрагаю вала —
Мой і вол не вязець;
Запрагаю камара —
Мой камар маладзец,
Пірагі мае вязець.
Як павёз ён, павёз
Ды ў папову павець,
І павецю разрыў,
І цялятак пабіў.
А цяляткі равуць,
К гаспадыньцы бягуць,
Гаспадыня прыскачыла,
Маю дудку рашчапіла!

## Дома.

Увайшоўшы ў хату, Пятрусь агледзіў усе куты, кожную новую рэч у хаце. Пры гэтым ён расказаваў пра гімназію, пра места, пра сваіх новых сябраў, пра ўсё тое, што цікавіла там яго самаго. Але яму не сядзелася ў хаце, яго цягнула на двор, на волю, і праз паўгадзіны ён ужо шворыўся ў садку; адтуль, пералезшы цераз плот, выбег на вуліцу. Праз паркан суседзкага садка на яго пазірала колькі пар вачэй яго равесьнікаў. Пятрук зараз-жа зглeдзіў іх. Адзін з хлопцаў высунуў галаву з-за паркана і моўчкі прыглядаўся да Пятруся. Зараз-жа паказалася другая галава ў старой шапцы, праз дзіркі каторае прабіваліся космы сьветлых валасоў, парыжэўшых на канцох ад сонца.



Ні Пятрук, ні хлопцы нічога не казалі. Пятруку хацелася прылучыцца да іх карагоду, але ён чуў, што як-бы нешта лягло між ім і хлапцамі, і ў яго не ставала сьмеласьці падыйсьці да сваіх даўнейшых сябрукоў. Навакол усе былі проста апрануўшыся, толькі ён адзін кідаўся ў вочы ўсім сваёй хормаю. Ён дагадаўся, што гэтая хорма і клала тую мяжу між ім і хлапцамі, каторая і зьдзержавала яго падыйсьці да іх, як даўней, і пачаць гульню. Трохі пастаяўшы і падумаўшы, Пятрусь пабег ізноў у хату, скінуў свой стары каптанік, узяў яшчэ колькі цікавых кніжак з рысункамі й узноў выбег на вуліцу. Цяпер ён сьмела падбег да хлапцоў і, падыйшоўшы, хацеў сказаць ім: „Добры дзень“,—як казаў ён у гімназіі да сваіх таварышаў, але ў сяле між малымі такога звычаю не вялося, і ён проста сказаў:



— Хадзем пагуляем. Я пакажу вам цікавыя малюнкі.

Хлапцы пералезьлі цераз паркан і падыйшлі да Пятруся. Трохі счакаўшы, яны ўжо бегалі на панадворках і гародах, рвалі моркву, скраблі яе трэсачкамі або проста абціралі аб сваю адзежу і елі. Пятрусь ад іх не адставаў. Цяпер на яго галаве сядзела шапка з чужой галавы, а ў яго шапцы бегаў адзін з таварышаў. Хлопцы гукалі, крычэлі, шумелі. Між імі пачалася гульня. Кожная старана старалася выказаць найцікавейшыя штукі і гэтым самым выклікаць у другіх зайздрасьць і зьдзіўленьне.

Таўрус.

## Навука лепей за багацьце.

Газэт, кніжак мовай ч'ей
Найболей друкуюць,
Паважаюць тых людзей,
Любяць і шануюць.

*Я. Купала.*

У аднаго купца былі два сыны. Старэйшага сына бацька любіў болей і ўсю сваю маемасьць хацеў адказаць

яму. А матка жалела меншага сына і прасіла да часу не казаць ім, як іх разьдзеляць: яна хацела як-небудзь зраўняць абодвух сыноў. Купец паслухаў яе і ня выказаваў сыном свае пастановы.

Раз маці сядзела ля вакна і плакала. Да вакна падыйшоў падарожнік і папытаўся:

— Чаго ты плачаш?

Яна сказала:

— Як мне ня плакаць: абодва сыны мне роўны, а бацька хоча аднаму сыну ўсё аддаць, а другому нічога. Я прасіла мужа не казаць аб сваёй пастанове сыном, пакуль я ня прыдумаю, як памагчы меншаму. Але сваіх грошы ў мяне няма, і я ня ведаю, што рабіць.

Падарожнік сказаў:

— Тваёй бядзе лёгкая рада: ідзі і скажы сыном, што большаму дастанецца ўвесь спадак, а меншаму нічога, і ў іх будзе роўна.

Маці зрабіла так, як сказаў ёй падарожнік. Меншы сын, як даведаўся, што ў яго нічога ня будзе, пайшоў у чужыя краі, навучыўся рамясла і навук усякіх і жыў дастатна. Старэйшы сын жыў пры бацьку і ня вучыўся нічога: ён ведаў, што будзе багаты.

Калі памёр бацька, старэйшы сын ня ўмеў нічога рабіць і скора пражыў усё багацьце.

## Два работнікі.

Паслаў бацька свайго большага сына ў гародзе буракі капаць. Прышоў туды і другі сын; стаяць яны абодва, гаманяць нешта, рукамі махаюць. Пайшоў бацька паглядзець на іх работу, згледзіў іх і пытаецца:

— Ну, што-ж вы тут робіце?

Старэйшы сын адказаў:

— Нічога.

А другі не дачуў, што сказаў брат, і кажа:

— А я яму памагаць прышоў.

Засьмяяўся бацька:

— Добрыя вы работнікі. Адзін нічога ня робіць, а другі яму памагае. Ці на тое нам рукі дадзены, каб дарма баўталіся?

## Добры таварыш.

Два муляры, стары і малады, стаялі на высокім руштаваньні надта высокага дому. Пад імі шумела места, а навакол іх гуляў сьцюдзёны вецер.

Муляры дружна працавалі, ня гледзячы на сьцюжу. Вецер гудзеў і выў, як воўк, і калыхаў падмосткі; руштаваньне хадзіла ходырам, — вось заваліцца. Раптам наляцеў такі вялікі вецер, што зьвязі дашчок паразрываліся, і ўсё руштаваньне з вялікім трэскам павалілася ўніз. Уцалела толькі адна дошка; муляры ўхапіліся за яе і павісьлі ў паветры. А сярдзіты віхор круціўся ўсё мацней, дошка трашчэла і гнулася ад цяжару двух людзей. І сказаў тады малады муляр:

— Здаецца, прыйшоў наш канец! Ня ўдзержымся мы разам. Адзін яшчэ ўдзержыцца, а ўдвух ніяк ня можна.

— Божухна ты мой,— кажа старэйшы,— як-жа ж мне паміраці?! Што-ж будзе з дзяцьмі?

— А шмат іх маеш?

— Пяцёра.

— Ну, а я адзін, нікога ня маю. Тут і выбіраць ня трэба. Жыві шчасьліва, таварыш!

І малады муляр, сказаўшы гэта, асьцярожна адчапіўся ад дошкі і кінуўся ўніз. Ён зьляцеў на брук і да сьмерці забіўся аб каменьне. А стары бацька пяцярох дзяцей астаўся цэлы і да самае сьмерці з сьлязьмі шчырае падзякі ўспамінаў свайго таварыша.

## Верны прыяцель.

У аднаго селяніна быў вялікі сабака. Стаў ён стары і ўжо ня мог вартаваць гаспадарскае дабро. Не хацелася

селяніну дарма карміць сабаку. Вось ён узяў з сабой вяроўку і камень і пацягнуў сабаку да ракі.

Глядзіць на яго сабака разумнымі вачыма, быццам разумее, што думае гаспадар.

Сеў гаспадар з сабакам у човен, ад'ехаў ад берагу і стаў прывязаваць камень сабацы да шыі. Пасьля ўстаў і піхнуў нагой сабаку ў ваду.

Сабака панырнуў, але пры гэтым човен крэпка скалануўся, а селянін ня ўдзержыўся і сам зваліўся ў ваду.

Захліснула яго хваля, зусім ужо пачаў тануць. Раптам чуе — нехта цягне яго. А гэта яго сабака. Камень адвязаўся, і ён кінуўся ратаваць гаспадара. Схапіў зубамі за кашулю, выплыў з ім да берагу і чуць жывы расьцягнуўся на беразе.

Заплакаў селянін, абняў сабаку, стала яму стыдна. Да самае сьмерці карміў і даглядаў ён вернага свайго прыяцеля.

## Тры глухіх.

Глухі пастух пасьціў адзін раз авечкі. Яму захацелася пайсьці дамоў, каб чаго-небудзь пад'есьці, але ня было пры кім пакінуць статак.

Убачыў ён, што тут недалёка мужык сена косіць. Падходзіць ён да яго і кажа: „Браток, пасьцеражы мае авечкі, пакуль я вярнуся.“ Але той так сама быў глухі і не зьвярнуў ніякае ўвагі на пастуха, а пастух падумау, што ён пачуў і згадзіўся, дык спакойна пашоў дамоў. Калі пастух вярнуўся, палічыў свае авечкі, убачыў, што ўсе ёсьць. Ён выбраў кульгавую, але тлустую авечку і панёс мужыку ў гасьцінец. Але той спалохаўся, убачыўшы, што пастух дзяржыць храмую авечку, і кажа: „Я не вінават, я не ламаў ёй нагі. Я навет ня бачыў іх.“

Глухі пастух падумаў, што той ня хоча браць авечкі, бо яна кульгавая,—і ўмаўляе: „Браток, ты не глядзі, што яна храмая, але яна надта тлустая.“ Мужык зразумеў, што пастух вымагае ад яго, каб ён заплаціў яму за авечку, і выцяў пастуха, пастух даў назад, і гэтак пачалася ў іх

бойка. Тым часам ехаў міма чалавек на крадзенай кабыле. Глухія падбеглі да яго, задзержалі яго і прасілі, каб ён іх рассудзіў. Але і гэты чалавек быў глухі; ён падумаў, што гэта іх кабыла, надта спужаўся і кажа:

— Каб я так жыў, паны, што я ня злодзей і навет не хацеў красьці вашае кабылы, але я надта доўга хадзіў, змарыўся, ногі забалелі, а тут мне на дарозе сустрэлася вашая кабыла, думаю — пад'еду троху, а пасьля аддам. Паверце, што я навет і ня ведаў, што яна ваша, — бярэце яе сабе.

Пры гэтых словах ён вёртка вырваўся з іх рук і ўцёк.

## Песьня грабара.

Я ўсё жыцьце сваё, дзень у дзень, год у год,
Зямлю цяжкай лапатай капаю, як крот;
Век пад сонцам, дажджом гну пакутную сыпіну,
Раскідаючы глыбамі торфу і гліну,
Ліпкі глей, як смалу, ды цяжарнейшы жвір;
Я праводжу канаву удоўжкі і ўшыр,
Як-бы стужкамі землю абвязваю ў круг,
І дарогу гранічу, гранічу я луг,
І спускаю з балотаў я лішнюю воду
Ды раўкі рэжу я ля платоў агароду.

Я ўсё жыцьце сваё, дзень у дзень, год у год,
Зямлю цяжкай лапатай капаю, як крот,
І так многа я, многа яе пракапаў!
Направодзіў шырокіх і доўгіх канаў,
І прарэзаў я цэлыя мілі равоў.
Шмат, ой шмат так са сьвету балотаў я зьвёў,
І багата вады цераз іх прапусьціў,
А ў ваду тую шмат я крыві свае ўліў
Дый з гарачым сваім яе потам мяшаў, —
Пад вадою-ж на дне сваё гора схаваў!

Цішка Гартны.

У культурных краёх, каб аблегчыць грабару яго цяжкую працу, прыдумалі землякопныя машыны.

Многія чыгункі ў Расеі насыпаны беларускімі грабарамі, нашымі дзядамі.

## Пахаваньне.

Чую звон я нудны,
Рэдкі, невясёлы.
Дзень сягоньня будны,
Не сьвяткуюць сёлы.
Чую прычытаньне,
Чую плач я нечы.
Кончыўся заранье
Век твой, чалавеча!
Вось труну я бачу,
Кучка йдзе народу.
Колькі жалю, плачу!
Жонцы мужа шкода.
Мужа маладога,
Добрага Грыгора,
І сабе у Бога
Просіць сьмерці з гора.
Плачуць сёстры горка,
Буйнымі сьлязамі.
„Ой, Грыгор, Грыгорка,
Што зрабіў ты з намі?“
Пара дзетак з краю—
Бедныя сіроткі!
Цяжка будзе, знаю,
Вам, мае блазноткі!

Я. Колас.

## Страх.

Пашоў гэтак вечаркам, ужо змрокам, адзін чалавек шукаць коні. Абышоў ён поле, пахадзіў па хмызьніку каля выгана—няма. Што тут рабіць? Пашоў ён у лес. Ідзе, коськае. Рэха так і рассыпаецца па лесе. Сонейка даўно ўжо зайшло. Вечар цёплы, пагодны. Хадзіў, хадзіў той чалавек, далёка зайшоў у лес, а коняў нямаш.— Кося, кося! — крычыць ён. А па лесе рэха абзываецца:

ся, ся, кося. Тым часам так сьцямнела, што ў лесе хоць вока выкаль. Сумна стала чалавеку ў гэтай нетры. Хацеў ён вярнуцца назад, ды ня ведае, куды йці, заблудзіўся, блукаючы ў лесе. Хацеў паглядзець на зоры, ды за гальлём нічога ня відаць. Стаіць чалавек і думае, як з лесу выбіцца. А ведама, пакуль ішоў, то знаў, гдзе хата, а як стаў, то й згубіў сьлед. І такі на яго страх напаў, што от валасы растуць, як тая шапка ня скінецца. Ужо хацеў ён лезьці на дрэва, але ніяк ня можа падняцца—лыткі дрыжаць, а ў руках сілы няма. Спробаваў гукаць—у горле сьціснула. Бяда. Пачакаў ён трохі, паслухаў. У лесе ціха, як у вуху. Гукнуў ён так моцна, што мо' за мілю чуваць. Доўга лескатала рэха па лесе, а як заціхла, чуе—хтось абазваўся зусім блізка. Той чалавек давай ізноў гукаць. Ізноў абзываецца. От ён гукае і йдзе па голасу на сустрэк. Чуе, аж тое адляцела за паўгоні, узьбілася на алешыну ды так жаласьліва плача, аж залівaецца. Узяў чалавека страх; ня ведае, што рабіць. От ён выкрасаў агню, раздуў дый разлажыў з сухога суччa вялікі агонь. Потым узяў галавешку, абчырціў кругом і лёг сабе ды толькі дровы падкладвае. А нехта то зарагоча, бы конь, то бегае па лесе ды грукаціць капытамі аб карэньне ды аб калодзьзе; альбо залезе ў куст. шамаціць... Але бачыць, што чалавек сядзіць пры агні, а з круга ня выходзіць, — яшчэ трохі пабегаў і адкасаўся ад таго чалавека. Тым часам стала занімацца на сьвет, птушачкі запелі ўсялякімі галасамі, лес ажыў, загаманіў. От так здаецца, як-бы грамада паднялася й зьбіраецца на работу. Устаў той чалавек. Бачыць, агонь дагарэў. „Няўжо-ж-то я,—думае,—задрамаў: здаецца, ня спаў усю ноч і якіх толькі страхаў не нацярпеўся“. Зірне ён, аж начаваў—от каля самае дарогі, ганей трое ад хаты. Ідзе ён паўз палянaчку; бачыць, аж яго коні пераскочылі цераз плот дый пасуцца сабе ў аўсе. „Няўжо-ж, — думае, — гэта ня чорт, а яны рагаталі?“



## Шавец.

Я шавец-маладзец,
Знаю дзела сваё,
Слухаць мусяць мяне
Капылы і скур'ё.

І багат-бы я быў,
Хоць ня бедзен і так,
Каб лапцей не насіў
Наш мужык, небарак.

Я. Купала.

Небаракам называюць чалавека, якому дрэнна жывецца.

## Сьмерць.

Жылі сабе старэнькія дзед з бабаю. Жылі яны доўга, доўга, але ім здавалася, што яны пражылі мала. Пакуль Бог даваў здароўе, ім так жылося, што яны й нічога ня памятаюць з свайго жыцьця, і здаецца, што была кароткая жытка. Але пад старасьць пачало ўсё балець: косьці трэ, сьпіну ломіць, ногі і рукі млеюць, кашаль душыць, вочы ня бачаць, вушы ня чуюць, а на языку смаку няма. Есьці хочацца, а палажы ў рот, — душа ня прымае. Ойкаюць ды стогнуць дзед з бабаю. Былі ў іх дзеткі і ўнукі, ды ўсе памерлі. Цяжка жыць на старасьці дзеду з бабаю без падмогі. Адно крэхча на печы ды жаліцца, што не дае Бог сьмерці. Другое сабе-ж стогне на палу ды на Бога наракае, што людзі ўміраюць і маладыя, а яго й на старасьці Бог ня хоча прыбраць, сьвет апрастаць. Саўсім зьдзяцінелі дзед з бабаю, а ўсё жывуць ды жывуць.

Але ось раз па летку высунуліся сабе дзед з бабаю з хаты, сядзяць на прызьбе ды на сонейку грэюцца. На вуліцы грабуцца куры; ходзяць сьвіньні ды ў лужах кейзаюцца; валандаюцца гусі ды праз плот з агародаў шчы-

паюць траву; дзеці перакідаюцца ды перасыпаюць пясочак, або лепяць аладкі. Сонейка пячэ, а дзед з бабаю сядзяць у кажушках, дый то ім холадна. Падышоў к ім сусед дый пытае пра здароўе.

— Ой, якое наша здароўе! — кажа дзед, — як так жыць, лепей гніць, ды от Бог адступіўся й не дае сьмерці.

— Эй, дзеду, не грашы Богу! Жыць цяжка, а паміраць яшчэ гарэй.

Тут баба пачала жаліцца, што Бог адступіўся ад іх і не дае сьмерці, не апрастае зямлі. Тым часам к таму чалавеку падбег яго хлапчучок.

— Злабі мне хатку, татка, — прыстае ён і давай лашчыцца ды прасіць.

— Добра, добра, зраблю, — кажа чалавек і пачаў гладзіць сынка па галоўцы.

Весела стала бабе; усьміхаецца яна і сама давай песьціць хлапчука. Зірнуў дзед на бабу і ўздумаў тую пору, як яго баба песьціла сваіх дзетак; уздумаў і так радасна яму стала на сэрцы, што й сам пагладзіў хлапчука. От пачаў сусед з шчэпачак будаваць хатку, а дзед з бабаю сядзяць на прызьбе, пазіраюць то на яснае сонейка, то на дзяцей, слухаюць, як яны сьмяюцца ды весела шчабечуць, і самым радасна стала. Тым часам гусь падышла к бабе й давай яе шчыпаць за кажушок.

— Чаго яна прычапілася? — крычыць баба.

А сусед дый кажа:

— Гэта, баба, сьмерць прышла па цябе.

Спалохалася баба, ня хоча паміраць, адпіхаець ад сябе гусь і крычыць:

— Агіль да дзеда!

А дзед крычыць:

— Агіль да бабы!

Ось так ганяюць яны гусь адно к аднаму, бо нікому ня хочацца паміраць.

Засьмяяўся сусед, пазваў гусь дый й кажа:

— Жыць цяжка, а паміраць гарэй.



# Шчасьлівая.

Вёска, дзе жыў Юрка Сухавей, была вялікая, зямля ўдалася, усе жывуць дастатна, багата, адзін Юрка канец з канцом ледзь-ледзь зьвяжа. Усё Юрку не ўдавалася, а найгорш не ўдалася яму жонка—Тадора. Пілавала Тадора свайго мужыка за беднасьць у хаце. А як тут было разбагацець Сухавею пры яго шчасьці? Добра і тое, што галоднымі не сядзелі. Добра каму, але не для Тадоры. Хай-бы лепш прыгаладаць, абы грошы ў запасе былі, багатырамі звацца.

Раз надумалася Тадора выправіць свайго мужыка да знахара па раду; мо' з вачэй ім гэтак вядзецца. Доўга скроб патыліцу Юрка, але-такі паехаў.

На трэці дзень ледзь вярнуўся Сухавей, і то ў ночы. Тадора і ня чула, як увайшоў ён у хату, як доўга капаўся, пакуль ня ўзьлез на палок і там смачна заснуў.

Назаўтрае, як толькі накінулася з пытаньнямі на мужыка Тадора, ён і прызнаўся, што ўся віна ў няшчасьці з дабыткам — яго, Юркіна (так знахар яму і сказаў).

А віна вось у чым. Нябожчык бацька пакінуў замазаны гаршчочак з грашыма, а ён хаваўся з ім дагэтуль перад жонкаї, дык Бог за тое, відаць, і кару насылаў на яго дабро. І зьбедніўшыся, нясьмела аддаў Юрка той гаршчочак жонцы.

Тадора схапіла ў дрыжачыя свае рукі скарб, стала трасьці ім каля вуха: там і зьвінела і шуршэла; былі, відаць, і пабразгачы, былі, мусіць-то, і паперкі.

Як кот з салам лётала Юрчыха з гаршчком, каб яго дзе лепш захаваць; урэшце упхнула яго сабе пад сяньнік. З гэтага часу, хоць, праўду кажучы, гаспадарка так сама ня ладзілася, але жыць стала спакайней. Тадора моўчкі соўгалася па хаце, ня лезла больш у вочы мужыку, Юрка ажно павесялеў.

Ня раз, бывала, дагаварываўся, усьмяхаючыся, Юрка да таго гаршчочка, каб як пажывіцца падмогі на гаспадарку, але Тадора і слухаць не хацела; не хацела навет адпячатаць і палічыць сваё багацьце.

Выйме гаршчок, патрасе яго, прыслухаючыся, каля вуха Юркі дый ізноў, запхнуўшы пад сяньнік, шчасьлівая клалася на пасьцель, цешучыся, як гэты скарб муляў яе бакі. Але, ці то гаршчок гэты такі цьвёрды быў, ці то думкі неспакойныя аб цэласьці скарбу дадзявалі Тадоры, а мо' адно і другое, толькі сон зусім прапаў у яе. Прапаў сьпярша сон, а пасьля прапала і ахвота да яды. Стала Тадора ў вачох бялець, сохнуць. Раілі суседкі Тадоры ўдацца да знахара, але яна й слухаць не хацела. Не жалела Юрчыха апошняе двузлоткі на знахара, каб разбагацець, але цяпер хоць-бы й сабе — ні за што не згадзілася-б надпачаць скарбу.



Ды на што ёй лячыцца, калі ёй нічога не баліць. Галава толькі круціцца, іншым разам млосна крыху робіцца,— дык ня дзіва: ня сьпіць, зусім ня сьпіць. Вось, каб хоць разок заснула, як даўней спала: моцна, смачна, і ўсё-б было добра.

І Тадора заснула, моцна заснула: на векі, а на яе высахшым, зьбялеўшым твары відаць было, што ўмірала шчасьлівая — умірала багатая.

А Юрка, дастаўшы гаршчок, выйшаў на двор і бразнуў ім аб камень. Адтуль пасыпаліся брудныя паперкі газэцін і бляшаныя гузікі.

Ядвігін Ш.

## Ваверка і воўк.

Ваверка скакала з сучка на сучок і неяк звалілася проста на сьпячага ваўка. Воўк схапіў ваверку і хацеў яе зьесьці.

Ваверка стала прасіцца:

— Пусьці мяне.

Воўк сказаў:

— Добра, я пушчу цябе, толькі ты скажы мне, чаму вы, ваверкі, гэткія вясёлыя? Мы заўсёды маркотны, а на вас глянем: вы заўсёды гуляеце і скачаце.



Вавёрка сказала:

— Перш пусьці мяне на дрэва, і адтуль я табе скажу, ато я баюся цябе.

Воўк пусьціў вавёрку, і яна ўскочыла на дрэва і адтуль сказала:

— Табе таму маркотна, што ты злы. Табе злосьць сэрца грызе. А мы вясёлы, бо мы добрыя і нікому ня робім шкоды.

**Прыказка.** Ваўка як ні кармі, усё ў лес глядзіць.

## Воўк і лісіца.

„На, табе, нябожа,
Што мне нязгожа“.

Раз папалася лісіцы
Ажно тры злавіць курыцы.
Падушыла; дзьве з іх зьела,
Трэцьцю скрыла. Сама села —
Як па працы — пад стажком.
Воўк галодны йшоў нізком.
А што з кумкай быў знаём,
То такую рэч павёў:
— Ах, сястрыца, — кажа кум, —
Я ад раньня браў на вум,
Каб што-кольвек мне пад'есьці.
А тут на злосьць негдзе ўлезьці.
Падхапіў-бы я хоць птушку...
Да авец падходзіў збочку,
Ды пастух чупрыну чэша,
І сабака прытым брэша,
Прыступіцца няма складу!..
Дай ты, кумка, яку раду!?
— Ох, мой куме даражэнькі!
То-ж стог сена цалюсенькі;

Еж, як хочаш — не шкадую,
Хоць апошнім, ды частую!
А маўчыць наша лісіца,
Што пад корчам ёсьць курыца.
— Дзякуй, дзякуй! — сказаў шэры
І пацягся без вячэры.

А. Абуховіч.

**Прыказка.** Лісіца ад дожджу й пад барану хавалася: ня ўсякая, казала, капля капнець.

## Леў і чалавек.

У месьце Рыме адзін чалавек укрыўдзіў свайго нявольніка. Нявольнік уцёк. Год пазьней нявольніка злавілі і за ўцёкі пастанавілі кінуць яго на яду дзікім зьвяром. Глядзець на гэную кару сабралася многа народу.



З клеткі выпусьцілі вялікага лева. Яго не кармілі тры дні. Кінуўся страшны зьвер на засуджанага і зарычаў: ад яго рыку задрыжэлі сьцены ўсяго будынку. Але раптам ён задзяржаўся, крэпка пацягнуў у сябе паветра, быццам абнюхаваў нявольніка, і стаў біць сябе хвастом

і скакаць навакол асуджанага. Усе прытаілі дух, усе чакалі, што вось-вось разьюшаны зьвер адным ударам лапы кіне няшчаснага на зямлю і разарве на кускі. Але як-жа ўсе зьдзівіліся, калі ўбачылі, што леў ліжа рукі гэнаму чалавеку, як сабака ліжа свайму гаспадару. Засуджаны сьпярша нічога не разумеў: ён увесь замёр са страху. Але, калі леў далей да яго лашчыўся, чалавек уважна прыглядзіўся да лева і сам пачаў лашчыць і гладзіць яго.

Зьдзіўлены народ крычэў:

— Дараваць гэтаму чалавеку!

Усіх зьдзівіла, што леў не разарваў яго. Пачалі распытавацца. І чалавек вось што расказаў:

— Калі я ўцёк ад майго гаспадара, мне прышлося йсьці па пустыні. Распалены пясок паліў мае ногі. Сонца неміласэрна пякло мяне, а навакол ня было ні вады, ні травіцы. Усюды быў адзін пясок ды камяньне. Я страшэнна змарыўся. Наканец я ўбачыў адну пячуру і калі ўвайшоў у яе, то ад зьнясіленьня хутка заснуў.

Я быў разбуджаны страшным рыкам. Гэта роў леў. Яго лапа была ў крыві. Ён падхадзіў да мяне. Я абмёр ад страху. Але леў падняў сваю акрываўленую лапу і з пакорай працягнуў яе да мяне, быццам прасіў помачы. Я ўбачыў у яго лапе закол і выцягнуў яго; пасьля адарваў кавалак палатна ад свае кашулі і абвязаў рану. Леў палажыў мне на руку сваю галаву і заснуў. З таго часу мы былі разам. Зьвер прынасіў мяса, я пёк яго на сонцы і еў. Калі выхадзіў з пячуры, леў маркоціўся і шукаў мяне. Але я затужыў па людзёх і ўцёк ад лева. Мяне злавілі і засудзілі на сьмерць. А без мяне, мабыць, і лёў быў злоўлены паляўнічымі. І ось першы раз апасьля разлукі мы сустрэліся тут і пазналі адзін аднаго.



# Конь і жаба.

Выбеглі дзеці пасьля навальніцы за вёску: вясёла ім бегаць па брудных лужах. Выпаўзла на дарогу і жаба, села на беразе лужы. Сядзіць жаба ціха, спакойна, — добра ёй.

Убачылі жабу дзеці, абступілі яе.

— А, гадзіна якая! — сказаў адзін хлопчык, бач, вытапарашчыла вочы! Пажджы, пакажам табе!

Наламалі хлопцы вострых пруткоў, поруць жабу, коляць яе — паранілі ёй і бакі і сьпіну. Скача па дарозе жаба, хоча схавацца дзе-небудзь, а хлопцы ня пушчаюць, сьмяюцца, рагочуць.



Вось ідзе конь з возам: адыйшліся і дзеці ў бок, пакінулі жабу.

Цягне цяжкі воз стары конь. Дарога брудная, калюгавіны глыбокія, цяжка цягне ўперад зморанны конь. А хлопцы глядзяць, што будзе з жабаю.

Пад‘ехаў воз зусім блізка. Убачыў конь жабу ў самай калюгавіне, — задзяржаўся. Мужык сьцебануў каня і злосна на яго крыкнуў. Падняў конь галаву, падаўся ў бок, напяўся з усіх сіл і выцягнуў з калюгавіны колы.

Убачыў мужык параненую жабу.

— Бачыш, пашкадаваў! Гаманіць ня ўмее, а так сама разумее! — сказаў ён.

Воз праехаў. Жаба асталася ў калюгавіне. Дзеці падыйшлі паглядзець на жабу, пастаялі і адыйшліся. Хацелі пачаць гульню, але штосьці ня ўдавалася ў іх: чагосьці стыдна было.

# Казёл і авечка.

Унадзіўся казёл у гарод: бывала, як толькі пастухі выганяць статак ды засядуць дзе-небудзь у рове гуляць у камянькі, дык ён і йдзе проста ў капусту. Раз пайшоў ён тэй-жа знаёмай дарогаю. У гэтым часе адбілася

ад статку дурная авечка, зайшла ў крапіву, стаіць, гаротная, ды азіраецца, крычыць дзікім голасам: ці ня знойдзецца хто вывесьці яе з гэтае бяды. Убачыўшы казла, яна ўцешылася, як з роднага брата. „Пайду за ім,—думае, — ён выведзе; не пяршыня мне за казлом ісьці: у нас такі-ж самы барадаты павадыром уперадзе статку ходзіць“. І пайшла нашая авечка за казлом. Гэтым разам гараднічы паглядзеў сваё капусты. Ён схапіў даўгі кій і пагнаўся за шкоднікамі. Казёл пасьпеў выскачыць



з гароду цераз плот і пайшоў сабе ў чыстае поле; а бедная авечка стала кідацца ўва ўсе бакі дый папалася. Не шкадаваў гараднічы на яе кія свайго: увесь паламаў аб бедную авечку. Стала яна крычаць не сваім голасам, але помачы няма ніскуль. Наапошку гараднічы падумаў сабе: „Яшчэ заб'ю дурную, тады бяда будзе“,—і выгнаў яе ў варотцы. Прышла авечка дамоў; жаліцца на казла: „Які нягодны, завёў мяне дый пакінуў; і за ўсю шкоду адну мяне пакаралі!“ А казёл кажа: „А хто цябе прасіў за маім хвастом бегаць?“

**Прыказка.** Хто пытае, то ня блудзіць.



## Як лісіца вароны ловіць.

Круціцца стада варон. Пэўне, яны знайшлі жыр. На сьнезе ляжыць лісіца: ногі, як палкі, хвост — як бізун, вочы адчынены,—з голаду, відаць, здохла. Бачаць птушкі здыхату, але баяцца, ці няма тут якога ашуканства. Асьцярожна спушчаюцца галодныя птушкі, селі на сьнезе воддаль ды ўсё глядзяць на лісіцу. А зьвер ляжыць бяз руху: вокам ня міргне, валасок ня дрыгне, — чаго-ж тут баяцца? Знайшлася адна варона сьмялейшая, асьцярожна ўперад падыйшла да зьвера, дзеўбанула ў хвост і ў бок адскочыла. Не шаволіцца лісіца. Бачаць усе, што здохла, — няма чаго й думаць далей. Заскакалі вароны, па аднэй падыходзяць да лісіцы бліжэй, сьмелая ўжо ля самае морды мэціцца, каб паласавацца лісічыным вокам.



Як ускочыць лісіца! Схапіла дурную варону і ў лес пабегла.

**Прыказка.** Хітры, як лісіца.

## С у д.



Там, дзе пушча, за прасёлкам,
Колісь ліс жыў з шэрым воўкам.
І, як весьць людзкая кажа,
Жыло згодна племя ўража.
Ды да часу.
Хутка сварка там пайшла:
Ўкрыўдзіў нечым ліс ваўка.
Дайшло дзела да суда.
Можа праўда, можа не —
Адвакаты — два сабакі на судзе.
Кожны брэша, на праціўніка вядзе.
А судзьдзёю быў глушэц.

Ён разумны ці глупец,
Тое трудна разгадаць,
Адно толькі, як чуваць,
Што рашыў ён дзела так:
Выгнаць з суду ўсіх сабак,
А воўк з лісам плоцяць штраф.
Воўк—бо хлусіць ён напрасна,
Ліс — бо злодзей.
Гэта ясна:
Круцялёў чым разьбіраць,
Лепш абодвух пакараць.

А. Абуховіч.

Прыказка. Абое — рабое.

## Зайчык.

Сядзіць зайчык у лесе пад бярэзінай і жаліцца на сваё жыцьцё.

— Якая мая доля? Кожны час бойся; бойся чала-



века, бойся ваўка, сабакі, ліса. Хадзі ды прыслухайся. І хто ня крыўдзіць нас, бедных зайцоў? Ня толькі ча-

лавек, зьвер, а навет птушкі і тыя цікуюць на нашас мяса. А чым можам бараніцца ад нашых непрыяцеляў? Уся надзея на ногі. Выратуюць яны з бяды — шчасьце, а не—прапала твая шкура.

І зайчык заліўся горкімі сьлязьмі.

— Ці-ж варта жыць пасьля гэтага? Хоць-бы адна жывёла на сьвеце баялася нас, зайцоў... Пайду ды ўтаплюся ў возеры — раз прападаць.

Наплакаўся, надумаўся бедны зайчык і йдзець таніцца. Возера было блізка. Падыйшоў зайчык пад возера, паплакаў, разьвітаўся з сьветам. Толькі ён бліжэй падыйшоў да берагу, — скок жаба ў ваду: спалохалася зайца.

— Эх, — кажа тады зайчык: — ёсьць-жа на сьвеце стварэньне, што і мяне баіцца. Яму, відаць, яшчэ гарэй жывецца, як мне. Можна, значыцца, жыць на сьвеце.

І пабег зайчык назад у лес.

## Старшыня.

Льва-манарха воўк прасіў,
Каб вайтом яго зрабіў,
Бо авечкі ў бязладзе
Шкодзяць вельмі ў панскім садзе,
Ды і самі прападаюць,
Бо як жыці, бач, ня знаюць.
І ліса за ім прасіла
(Яе жонка льва любіла).
Воўк з лісіцаю зьвязаўся
І, як можна, так стараўся:
Дзе прасілі, дзе ўздыхнулі,
Дзе гасьцінца падаткнулі;
Каб дабіцца да мэдалі,
І плацілі, і прасілі, і стагналі...
Леў гаворыць: „Ходзяць толкі,
Што авец зьядаюць воўкі“.
І зазваць сказаў народ
На зьвярыны вальны сход.

Распытаць усіх зьвярат:
— Воўк ці добры, ці ён гад? —
Чыны важны ўсе прышлі,
Усё начальства тут было,
Ды прычыны не знайшлі, —
Зла аб воўку ня чутно:
Пад судом ён, бач, ня быў
І з начальствам добра жыў;
Дык мэдаль вайта надзеў
Воўк на ўвесь авечы хлеў.
— А авечкі што сказалі?
— Іх на сход зусім ня звалі...
А сьпісана ў пратаколе,
Што авечкам дана воля.

**А. Абуховіч.**

Жонка льва — львіха.

**Прыказкі.** Гавары, воўча, пацеры, але ты другое думаеш. Па што, воўча, ідзеш? — А па апошняе.

# Падзякаваў.

(Народная казка).

Ішоў сабе чалавек дарогай. Углядаецца, ажно вуж пад каменем завалены ляжыць, толькі галава наверсе круціцца, а ня можа ніяк вылезьці. Як убачыў чалавека, дык кажа:

— Выратуй мяне, чалавеча, згэтуль!

Чалавек зьлітаваўся над ім, падсадзіў кала пад камень, падважыў, і вуж вылез.

Ідзе той чалавек далей дарогай і чуе — нешта халоднае на шыі. Памацаў, ажно гэта вуж акруціўшыся кругом шыі! Пытае яго:

— А гэта што?

— А я табе заплачу так, як цяпер сьвет плаціць: ты мяне выратаваў, а я цябе задушу.

— Пастой, братка, ня душы, можа нас хто рассудзіць.

— Добра.

Ідуць дарогай, спатыкаюць ашмулянага, старога й худога каня.

— Стой, конь! Асудзі нам гэту справу.

Конь пытае:

— А што такое?

Так і так.

Конь кажа:

— Душы! Няма праўды на сьвеце, бо й мне так зрабілі: пакуль я быў малады, мог людзям добра служыць, датуль мяне мылі, часалі і аброк давалі; а як я пастарэў, зьнядужаў, то й выгналі вон.

— Стой! — кажа чалавек, — ня душы: ён пакрыўджаны, дык не па праўдзе судзіць. Пойдзем далей!

Ідуць далей і спатыкаюць сабаку старога, каўтунаватага й худога.

— Асудзі нам гэту справу.

— А што такое?

Так і так.

— Душы! — кажа. — І мне так зрабілі: пакуль быў малады, сьцярог, пільнаваў хату, коні, цэлага дамоўства, то й мяне кармілі й даглядалі; а цяпер, як пастарэў і ўжо не магу служыць, то й вон прагналі.

— Стой! — кажа чалавек, — ня душы, бо й ён пакрыўджаны. Няхай нас трэці рассудзіць!

Ідуць далей, ажно спатыкаюць ліса:

— Ну, ліс, асудзі нам гэту справу.

— А што такое?

Так і так.

— Добра, — кажа ліс, — але не магу я рассудзіць, ня бачыўшы, як было: ідзі, вуж, назад, пакажы, як быў пад каменем і як цябе выратаваў чалавек, тагды асуджу вас.

Вярнуліся назад аж да таго каменя; тады кажа ліс:

— Падваж ты, чалавеча, гэты камень, а ты, вуж, улезь; а я пабачу, як ты сядзеў.

Вуж улез пад камень, а ліс міргае на чалавека: „Пускай!“ — шэпча, і ўзноў вужа прывалілі каменем.

— Ідзем, братка, згэтуль, — кажа тады ліс.

Адышлі крыху.

— А што мне,—кажа ліс,—за гэта будзе, што я цябе ад сьмерці выратаваў? Дасі мне што-дзень адну курыцу за гэта?

— Дам, — кажа чалавек і пайшоў да дому.

Назаўтрае прыходзіць ліс, і чалавек даў яму курыцу; і на другі і на трэці дзень даў так сама. А пасьля жонка й кажа:

— Дурань ты! Будзеш даваць што-дзень курыцу? Вазьмі стрэльбу, забі ліса, то будзе каўнер або тры рублі і бяды пазбудзешся!

Чалавек так і зрабіў.

Вось, як за дабро злым плацяць!..

## Бабіны валы.

Ды было ў бабкі,
Ды было ў любкі
Ды дванаццаць валоў,
Ды дванаццаць валоў.



— Каторага, бабка,
Каторага, любка,
Ты вала прадасі,
Ты вала прадасі?

— Ёсьць у мяне рабы,
Што робіць драбы,
Я таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне лысы,
Ды што робіць місы, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне крутарогі, —
Ён лётаець на ўсе ногі, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне буры,
Ды што круціць дзюры, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне чорны,
Ды што робіць жорны, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне палавы,
Ды што ходзіць да вады, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне белы,
Ды што робіць дзьверы, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне белабокі,
Ён ля мяне ходзіць бокам, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне круты,
Ён пільнуець руты,
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне сівы,
Ды ён пашаць нівы, —

Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне красны,
Ён да дзётак ласы, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Ёсьць у мяне мышаты,
На ім езьдзяць у сваты, —
Я й таго не прадам,
Дадушы-ж не прадам!

Драбы—краткі, што кладуцца ў яськлі на сена, каб скаціна не растрасала яго.

## Сьвіньня.

Ішла-пашла сівая сьвіньня,
Кугі! кугі! сівая сьвіньня!
Аж пад дубы у жалуды,
Кугі! кугі! у жалуды!

Нехарошае, панурае і бруднае стварэньне — сьвіньня заслужыла ў людзей благую славу. Калі хочуць каго палаяць за нядобры паступак, кажуць: „Ах ты, сьвіньня!"



Але, каб людзі ведалі, як сьвіньні любяць чыстату і якое сьвіньня разумнае стварэньне, яны не крыўдавалі-б за слова „сьвіньня". У добрых гаспадарках у хлявох для сьвіньней робяць з дашчок, на локаць ад зямлі, нары, каб было заўсёды суха і чыста. Сьвіньня сама цягае сабе для падсьцілкі салому, выбіраючы сухую і чыстую. Сьвіньня дзеля таго залазіць у гразь і любіць пакупацца ў ёй, што да гэтага

ў яе прыродны нахіл, бо яна паходзіць ад дзікае сьвіньні, каторая жыве найболей у балотах, кормячыся карэньнем расьлін. Затым сьвіньня ў гразі ахаладжвае сваё тлустое цела і гразёй нішчыць на сабе паразітаў.

Сьвіньня — жывёла ўсяедная; яна есьць і расьлінную яду і мяса. Сноўдаючыся па панадворку і шукаючы еміны, яна зьядае ўсё, што пападзецца ў вочы. Выпушчаныя на волю, у стада, сьвіньні рыюць зямлю і сваймі дужымі, пругкімі, як скурлат, лычамі, шукаючы карэньня, робяць гэткія барозны й ямы, якія трудна зрабіць і рыдлем.



З мяса сьвіньні робяць кумпякі і каўбасы. З цьвёрдага валосься з хрыбта робяць шчоткі; шэрсьць ужываюць шаўцы на дратвы, заместа іголкі, шыючы боты.

**Загадка.** Хто ня хвор, а ўсё стогне?

## Як слон дабро памятае.

У адным месьце слон што дзень хадзіў на работу праз рынак. На рынку сядзела гандлярка з зяленівам. Давала яна слану паласавацца то яблыкам, то морквою... А сланы вельмі любяць яблыкі ды моркву!

Раз чагосьці вельмі зазлаваўся слон, вырваўся ад гаспадара, пабег па месьце, падняў сваю трубу, раве; што ні стрэне — ломіць...

Вось прыбег на рынак... Народ ад яго ўцякае, і прыяцелька-гандлярка таксама пусьцілася ўцякаць... але сьпяшаючыся забылася ўхапіць сваю дзяўчынку. Звалілася бязьлетка з лаўкі і плача!



Дабег слон да знаёмае крамы; стаў, успомніў, што яго тут часта валі... Апомніўся, азірнуўся, убачыў дзіцянё, асьцярожна падняў яго, пасадзіў на лаўку... і спакойна паклыгаў дамоў.

# К а з к а.

Пайшоў казёл з казою ў гарахі, нашчыпалі тры мяхі, а чацьверты — шалухі, а пятую торбу прычапілі к горбу.

Казёл кажаць: — Каза, каза! пойдзем дамоў! — Не, не пайду. — Ну, пастой-жа, каза, я на цябе ваўкоў нашлю. — Ваўкі, ваўкі! ідзіце казу драць. — Не, ня пойдзем. — Ну, пастойце-ж, ваўкі! Я на вас стральцоў нашлю. — Стральцы, стральцы! ідзіце ваўкоў страляць.— Не, ня пойдзем. — Ну, пастойце-ж, стральцы, — я на вас вяроўкі нашлю. — Вяроўкі, вяроўкі! ідзіце стральцоў вязаць. — Не, ня пойдзем. — Ну, пастойце-ж, вяроўкі, я на вас агонь нашлю.—Агонь, агонь! ідзі вяроўкі паліць. — Не, не пайду. — Ну, пастой-жа, агонь, я на цябе ваду нашлю. — Вада, вада! ідзі агонь тушыць! — Не, не пайду. — Ну, пастой-жа, вада, я на цябе валы нашлю. — Валы, валы! ідзіце ваду піць! —Не, ня пойдзем. — Ну, пастойце-ж, валы, я на вас даўбню нашлю.—Даўбня, даўбня, ідзі валы біць. — Не, не пайду. — Ну, пастой-жа, даўбня, я на цябе чарвей нашлю.—Чэрві, чэрві, ідзіце даўбню тачыць. — Не, ня пойдзем. — Ну, пастойце-ж, чэрві, я на вас куры нашлю.—Куры, куры, ідзіце чарвей дзяўбаць!—Не, ня пойдзем. — Ну, пастойце-ж, куры, я на вас ястраба нашлю. — Ястраб, ястраб! ідзі куры драць!..



Ястраб пайшоў куры драць, куры пайшлі чарвей дзяўбаць, чэрві пайшлі даўбню тачыць, даўбня пайшла валы біць, валы пайшлі ваду піць, вада пайшла агонь тушыць, агонь пайшоў вяроўкі паліць, вяроўкі пайшлі стральцоў вязаць, стральцы пайшлі ваўкоў страляць, ваўкі пайшлі казу драць...

Каза ад іх пад масточак, а ваўкі яе за хвасточак!

# Курачка.

Хадзіла курачка па дзядзінцу й вадзіла за сабою сваіх куранятак. Знайшла яна пшанічнае зернятка.

— Хто пасадзіць зернятка? — спыталася яна.

— Ня я! — сказала гуска.

— Ня я! — сказала качачка.

— Дык я яго пасаджу! — адказала курачка й пасадзіла.

Як пшаніца высьпела, курачка спыталася:

— Хто павязе зернятка ў млын?



— Ня я! — сказала гуска.

— Ня я! — сказала качачка.

— Дык я павязу! — сказала курачка й павязла.

Прывязла курачка з млыну муку й спыталася:

— Хто сьпячэ хлеб з гэтай мукі?

— Ня я! — сказала гуска.

— Ня я! — сказала качачка.

— Дык я сьпяку! — сказала курачка й сьпякла хлеб. Як хлеб быў гатовы, дык курачка ўзноў спыталася:

— А хто будзе гэты хлеб есьці?

— Я! — сказала гуска.

— І я! — сказала качачка.

Але курачка ім адказала:

— Не, бо я вам, гультайкам, ня дам. Я сама зьем. І паклікала сваіх дзетак на падмогу.

**Прыказкі. Гульня, ды ня** што-дня. Гулі не аднаго ў лапці абулі. Гультай хлеба ня пытай. Хто працуе, той і мае.

## Журавы.

(Народная песьня).

Ляцелі журавы, ляцелі,
Ды адзін журавок ды папераду,
Ды назад крыльлейкам махаець,
Ён сваіх журавоў зьдзяржаець:
„Памалу, журавы, памалу:
Тутака рэчкі быстрыя,
Тутака лясочкі цямныя, —
Каб пер'ічка не ўраніць,
Каб крыльлейка не зламіць!“

## Журавель і чапля.

Жылі на балоце журавель і чапля. Дадзела жураўлю жыць аднаму, і думае:

„Пайду хіба да чаплі ў сваты, мо' ўдваіх лепей жыці будзе“.



Прыходзіць да чаплі, а тая й слухаць ня хоча:

— Куды ты варт,—кажа,— з сваімі нагамі? Не пайду за цябе!

Пайшоў журавель, павесіўшы дзёўб, дамоў, а чаплі й шкода яго стала: „Пайсьці хіба самой да яго?“

Прыходзіць да жорава, а жораў надуўшыся кажа:

— Цяпер і я, як паглядзеў, дык не хачу з табой жаніцца: ты нейкая неахайлівая, быццам мокрая.

Засаромілася чапля дый пайшла з нічым дамоў.

А журавель і думае: „А ткі шкода, што адправіў, бо ўсё-ж ткі аднаму маркотна жыці.“ І пайшоў да чаплі.

А чапля свой гонар нясе й кажа:
— Было тады брацъ, а цяпер я не хачу.
І гэтак ходзяць адно да аднаго і ніяк пажаніцца ня могуць дагэтуль.

## Бусел.

(З Ў. Сыракомлі).

Зімка надходзіць, зьвісьлі туманы
І вецер круціць і сьвішча.
На небе—цёмных хмар караваны.
Бусел узьняўся і задуманы
Паплыў павольна на ржышча.



Сеў і клякоча, падняўшы ногу,
Ды жмурыць цёмнае вока.
Пэўне, ён думку ўздумаў глыбоку
Ужо выбірацца ў дарогу:
„Добра на вырай ляцець цяплейшы,
Пабачыць дзівы ў чужыне,

Сонца над Нілам агонь ясьнейшы,
І думаць думкі пра край тутэйшы
На пірамідах вяршыне.
А толькі... толькі ведама Богу,
Ці сьмерць ў дарозе абміну!..
Пабачу-жа Нёман і азярыну?
Сяду-ж на купцы мурогу?
Я-ж тут радзіўся, дзе гэта хатка,
Шчасьця дзянькі знаў ня рэдкі:
Ось — тут, дзе выган і сенажатка,
Бывала, косіць касцоў грамадка;
Клякочуць жонка і дзеткі.
Добра-ж было тут!.. Цяпер ня знаю,
Ці не заплачу па згубе!
Ці, прыляцеўшы вясной з выраю,
Гняздо застану на дубе.
Рад-бы застаўся ў гэтай старонцы,
Дзе страх ня страшыць ні гора,
А толькі болей ня грэе сонца,
Дый няма корму дзеткам ды жонцы,
Сьнег тут насыпле ўжо скора“.
Так пажурыўшысь думкаю шчырай,
Бусел узьняўся паволі,
Паплыў па небе кудысь на вырай
Шукаць і шчасьця і долі.

Я. Няслухоўскі.

# Сіло.

ЦісNуў мароз, круціла мяцеліца. Паміж гумна і пуні, дзе на гурбе стаяла сіло, абсыпанае ўвакол мякінай з канаплямі, было крыху зацішней. Сабраліся сюды сьнігір, верабейчык і сініца. Сьнігір, важна насупырыўшы чырвоны свой вальляк дый пасьвіставаючы, як і ўвесь свой век рабіў, стаў падбірацца да канапель.

Дзеўбануў раз-другі асьцярожна, але разласаваўшыся, апанавала яго такая прагавітасьць, што ўзьлез на самую сярэдзіну сіла ды давай малаціць, ажно пакуль пятля не заціснула яму шыі.

— Чык-чы-рык! — усьцешыўшыся, пачала зьдзекавацца над ім сініца, бо за сьнігіром сама баялася даступіцца да канапель.

— Чык-чы-рык! — крычала яна, увіхаючыся каля зярнят, дыї не агледзілася, як сама абедзьве нагі ўплутала ў валасянку.

— Жыў-жыў-жыў! — адазваўся верабейчык, скачучы здалёку сіла і набіваючы мякінай свой вальляк.

— Жыў-жыў-жыў!

Ядвігін Ш.

## Шчупак, Лебедзь і Рак.

(Байка Крылова).

Там, дзе еднасьці і згоды
Няма шчырых у людзей,
Праца іхняя заўсёды
Ліха, марне прападзе.
У калёсы запрагліся
Раз Шчупак, Лебедзь і Рак;
З усіх сіл вязьці ўзяліся, —
Воз ня рушыцца ніяк.
Пад нябёсы Лебедзь рвецца,
Шчупак цягне у ваду,
Распусьціўшы клюшні, пхнецца
Рак назад, як на бяду!
Хто з іх вінен, хто нявінен,
Ня нам гэта разьясьняць,
Ды калёсы і дагэтуль,
Як стаялі, так стаяць!



Я. Купала.

## Вясельле.

Давялося ўдаве каршунісе дачку замуж аддаваць. А паміж каршуноў гэтак ужо вядзецца: каб гонару сям'і сваей не зьняважыць, толькі паміж сабоіі і бяруцца. Вось

і каршуніха, нагледзіўшы лоўкага, маладога каршунка, стала рыхтавацца да вясельля.

Дачка й кажа: „Замуж, мамка, пайду, — сьпірацца няма чаго; такая ўжо доля наша дзявочая, — але вясельле спраў, як мае быць“.

Добра: вясельле — дык вясельле. Хай пацешыцца дачушка паміж сваіх елак!

Каго-ж прасіць на вясельле? Старая каршуніха й стала вылічаць:

— Перш-на-перш, — кажа яна, — салавейку: ён калі завядзе, ажно за сэрца хапае, — так яно й трэба на вясельлі! Пару галубкоў: для прыкладу, як маюць жыць маладыя. Сароку — канешне трэба: па ўсей ваколіцы разьнясе, якое важнае было вясельле. Удода!..

— Мамка,—перапыніла маладая,—я памятаю, як ты яшчэ малую мяне накарміла раз удодамі, — надта сьмярдзючыя яны...

— Маўчы, дурная! — крыкнула на дачку каршуніха: маладая ты—ня ведаеш яшчэ, як на сьвеце жыць! Сьмярдзючы ўдод, — то праўда; але, калі прыбярэцца дый нашупурыцца, дык іншаму здаецца, што й трэба яму сьмярдзець: ад важнасьці, значыцца. Прасіць і цецярука: у яго такая гутарка, што ніхто яе не разьбярэ, вось і будуць думаць, што надта нешта разумнае: У музыкі клікнем дзятла з жаўной: хай у барабаны таўкуць. Дразда: падсьвістываць, бач, майстар. Бухайлу: хоць аддае балотам, але да дуды складзен. На цымбалах добра рэжа бусел, але з ім нам ня варта займацца: праз лад ужо насаты. У нас і так будзе; хай малады з сваей стараны прымчыць.

Слухаючы гэтых праэктаў, маладая з радасьці ажно з сука на сук стала скакаць.

Толькі, як прыйшлося выбраць пасланца па госьці, аніяк не маглі прыдумаць, каго-б тут назначыць? Урэшце згодзіліся на сініцу: надта ўжо дасужая — ці трэба, ці ня трэба, усюды дападзе, усюды загляне, дый набрахаць хоць што можа!

І праўда: зраньня наказалі, ды йшчэ поўдня ня мінула, а яна ўжо назад з дакладам прыляцела:

— Так і так, — кажа, — усюды была, усіх абляцела, з усімі гаварыла, усе іх гутаркі падслухала, усе іх думкі выведала. Надта ўжо ўсьцешыліся і шлюць падзяку за так вялікі гонар і неспадзяваную ласку вашай міласьці, толькі баяцца...

— Чаго? — насупіўшыся, пытае каршуніха. — Казала ім, як я табе прыказавала?

— А як-жа, казала, ваша міласьць, — усё казала! — для пакоры падняўшы хвост уверх, адказавае сініца. — Казала, што ваша міласьць і ўсе вашай міласьці сваякі з вялікай сваей ласкі да іх, дробязі, у дзень вясельля панадзяюць мяккія рукавіцы на свае капцюры, дык, калі й выйдзе якая звадка (ведама, на вясельлі), ніякай крыўды быць ня можа. Але, ведама, дурныя! Чаго яны ня выдумаюць?! Хочуць...



— Чаго хочуць? — перапыніла каршуніха.

— І казаць не адважуся... — ізноў падняўшы хвосьцік, адказавае сініца.

— Ну! — налягала старая.

— Хочуць, каб ваша міласьць і ўсе, каторыя будуць на вясельлі з роду вашай міласьці, на той час панадзявалі мяшэчкі на свае шаноўныя дзюбкі, дый то баяцца...

— І так баяцца? Якая-ж яшчэ трасца ім патрэбна? — злосна спыталася каршуніха.

— Я-ж і кажу: дурныя! хоць на ўсялякія шальмоўствы, нябось, розуму хватае. Кожны з іх не такі, то сякі, а-ткі мае на сваей душы грашок. Я вашай міласьці ўсю праўду выкажу. Вось, хоць бы цецярук?.. Ці-ж гэта выпадае на ўвесь бор — гэткі-то бор — гэтак балабаніць? Ведама: бор—борам, каго толькі там ня бывае, а ён балабане, балабане, дый яшчэ падшыкне! —Абс

сарока? вядомая брахуха! Брэша, абы брахаць, а іншаму можа здавацца і вунь што... Салавейка, дрозд навет панавучаваліся такія рэчы сьвістаць, што не асьмелюся й сказаць вашай міласьці... Дый усе яны бабры-дабры, а хоць пашпарты й маюць, усё-ж-такі баяцца, што як з дому скрануцца, пакуль дападуць пад апеку вашай міласьці, каб часам у дарозе“...

— Годзе! — крыкнула каршуніха. Можаш адпраўляцца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А-ткі каршуніха справіла вясельле сваей дачцэ, як мае быць! І ці дасьцё веры: былі там цецярук, дрозд і ўсе другія, толькі не ў гасьцях, а... на скавародзе!

Ядвігін Ш.

## Камарова сьмерць.

(Народная песьня).



Гэй у лесе, пры даліне,
У нас сталася бяда:

У даліне, пры гушчары,
Калыхаліся камары,

Дуб да дуба пахіліўся,
Камар з дуба зваліўся...

Пабіў камар патыліцу
Аб дубову караніцу;

Ой пабіў камар бакі
Аб дубовыя сукі;

Ой пабіў камар калені
Аб дубовыя карэні!

Ляціць муха ратаваць,
Зімнай вадой абліваць:

— Камарочку, родны браце,
Як-жа цябе ратаваці?

— Пасылайце да аптэкі,
Ці ня будзе троху лепі...

— Камарочку, родны браце,
Гдзе-ж мне цябе пахаваці?

— Не хавайце край даліны,
Бо вырыюць мяне сьвіньні;

Не хавайце край дарогі,
Бо дратоваць будуць ногі;

Пахавайце ў цёмным лесе
Пры зялёненькім гарэсе!

Будуць гарэхі шчыпаць
І камара ўспамінаць

**Загадка.** **Даўгі насок, тонкі галасок, хто мяне забіў, той сваю кроў разьліў.**

## Дзедава бяда.

(Народная казка).

Жыў дзед, жыла баба. Была ў іх курка рабенька; зьнясла яна яечка ў сенцах, на полцы, на ячнай саломцы. Мышка бегла, хвастом махнула, яечка разьбіла. Дзед у голас, баба ў крык, сьвіньня пішчыць, плот трашчыць; плот паваліўся, кол рашчапіўся.

Прыляцела варона, села на кол і забядавала.

— А мой-жа-ж ты калочак! Такі ты быў гладзенькі, просьценькі. Што-ж табе прычынілася?

— У нашага дзеда бяда стала.

— Якая бяда?

Расказаў кол вароне ўсю прыгоду з яечкам. Расстагналася варона, з жалю павырывала ў сябе пер'е, паляцела і села на дуб. Паглядзеў дуб на варону, падзівіўся і пытаецца:

— Што табе, мая кумачка, сталася? Такая ты была харошанькая, пер'іка гладзенькае. Дзе ты яго згубіла?

— Сама павырывала з жалю. У нашага дзеда бяда стала.

І расказала варона пра дзедаву бяду.

Затрос лісьцём дуб, зашумеў жаласна і пытаецца:

— Ну, а мне што рабіць?

— А ты сукі паспускай.

Паспускаў дуб сукі, паплутаў лісьце, бядуець. Бяжыць лось. Здалеку дзівіцца, што дуб перамяніўся. Прыбег, засапаўся і пытаецца?

— Дубочак мой зялёненькі! Што табе ёсьць? Яшчэ ўчора я аб цябе свае рожкі церабіў, з табой вясёленька гаманіў, а сягоньня глядзець на цябе—сэрца баліць.

— Як мне ня тужыць, калі ў нашага дзеда бяда стала. Ня я адзін бядую. І кол рашчапіўся і варона пер‘е павырывала.

І расказаў дуб пра дзедава няшчасьце.

— Ну, а мне што рабіць? — пытаецца лось.

— А ты рогі сабе пазьбівай.

Пазьбіваў лось свае рогі, пабег ён у возера галаву памачыць. Глянула на яго возера і вохнула.

— Мой ты ласёчак! Дзе твае рожкі?

— У нашага дзеда бяда стала.

— Ну? Якая бяда?

Як дачулася возера аб дзедавай бядзе, уздыхнула цяжка, зашумела, пагнала вал за валам, усьпенілася і пытаецца:

— Ну, а мне што рабіць?

— А ты крывёю абярніся.

Абярнулася возера крывёю. Пайшоў кухар з вёдрамі па ваду. Глядзіць, у возеры не вада, а кроў. Спужаўся, зьдзівіўся і пытаецца:

— Дзе твая вадзіца сьветлая?

— Ня дзівіся, чалавеча, а паслухай, якая ў нашага дзеда бяда стала.—І расказала возера кухару пра дзедаву бяду і што нарабілі з жалю кол, варона, дуб і лось.

— А што мне рабіць?

— А ты вазьмі і вёдры пабі.

Пабіў кухар вёдры. Спатыкаець яго кухарка і пытаецца:

— А дзе вада?

— Ня браў і вёдры пабіў.

— Мусіць, ты здурнеў? Зьбедніўся, сагнуўся. Што табе ёсьць?

— Маўчы, баба. Ты ня чула, якая ў нашага дзеда бяда стала.

Пачаў расказваць кухар пра дзедаву бяду,—як загалосіць кухарка і пытаецца:

— А мне што рабіць?

— А ты ўсе гаршчкі і місы пабі.

Пачала таўчы судзьдзе кухарка, толькі грук ідзець; прыбегла паня, крычыць на кухарку, нагамі тупаець, а тая галосіць і крычыць:

— Ай, людцы, якая нашаму дзеду бяда сталася.—І пачала кухарка з прыгаворкамі расказваць пра дзедаву бяду. Як дайшла да таго, што і возера з жалю крывёй абярнулася, ня вытрымала й паня. Заплакала і пытаецца:

— А мне што рабіць?

— А ты пакоі свае разьвярні.

Пабегла паня, варочаець сталы, крэслы, вокны б'ець. Зьбегліся людзі, глядзяць, што тут дзеецца. А як дачуліся аб дзедавай бядзе, дык толькі пасьмяяліся з гэткіх жаласьнікаў.

## Бедны, бедны верабейка!

Канюшкі дастаюць птушанят. Адзін узьлез на караvую бярозу, упёрся босаю нагою ў нарост на бярозе, а другую, абадраўшы яе, абскрабаўшы, засунуў у глыбокае дуплё. Гэтаю нагою выцягнуў ён жоўтаротых, голых, пузатых верабянят.



— Ці кідаць?

— Кідай! — з нецярплівай цікаўнасьцю, бязжаласна крычыць унізе другі хлопчык з пукам аброцяў на плячы, задраўшы на дрэва нос увесь у балячках, у залатусе.

— Кідай! — крычыць ён, каб хутчэй разгледзіць птушанятак у сваіх руках.

А стары верабей, ускалмачаны, растапыршчаўшы пер'е, кідаецца, падаець з сука на сук, аж да самай нястрыжанай галавы хлапца на бярозе, і ахрыплым голасам ціўкаець, ціўкаець.

Бедны, бедны верабейка!

М. Гарэцкі.

## Якую карысьць прыносяць нам птушкі.

Хадзіў вучыцель з сваймі вучнямі ў полі. Вышаўшы з душнае школы на прывольле, на прастор, дзеці вясёла бегалі, крычалі, даганялі адзін аднаго. Іх маладыя галасы радасна разьліваліся ў полі.

Вось адзін вучань спужаў птушку. Ён падняў ужо камень, каб шпурнуць ім у яе. У яго ня было ні злосьці, ні жаданьня забіць бедную птушачку, а проста так хацеў кінуць каменем, бо рукі сьвярбелі, і магло стацца, што камень гэны папаў-бы ў нявіннае божае стварэньне. Вучыцель заўважыў і стрымаў вучня.



— Кінь камень! — сказаў вучыцель. Вучань кінуў камень на зямлю.

— Ну, а цяпер ты скажы нам, за што ты хацеў забіць птушачку?

Вучань маўчаў, апусьціўшы вочы. Ён і сам ня мог растлумачыць сабе, за што ён хацеў забіць птушку.

— Птушкі — нашыя добрыя прыяцелі, — сказаў вучыцель. І не ганяць і біць іх трэба, а трэба старацца даць ім прыпынак, апеку, любіць іх. Птушкі бароняць нашыя сады, палі, гаі, лясы ад шкодных чарвей і мошак. Каб ня было птушак, то разьвялося-б так многа чарвей і мошак, што ад іх пагінула-б уся праца гаспадара. Ці за гэта трэба ганяць і зьніштажаць птушак?

А колькі ажыўленьня і хараства прыдаюць яны нашай прыродзе. Кожны з вас, дзеці, любіць жыцьцё, і

яго трэба любіць, бо гэта любоў памагае чалавеку ў самыя цяжкія мінуты яго жыцьця. Ня толькі чалавек, а і птушка і ўсякае божае стварэньне мае гэтую любоў, усім роўна хочацца жыць на сьвеце.

## Добрыя дзеці.

Паставілі дзеці сіло. Вераб'я
Хацеці злавіць на пацеху.
Злавілі сінічку, крычаць: вой-я-я!
А радасьці колькі, а сьмеху!
Імчацца да маткі: „Сінічка, глядзі!“
—„А дзе-ж вы узялі?“—„Злавілі,
Дастань ты ёй клетку, хутчэй пасадзі!“
—„Нядобра вы, дзеткі, зрабілі!“
—„Мы будзем яе і паіць і карміць...
Пяяла-б нам птушка прыгожа!..“
—„Ах, дзеткі! ў няволі яна замаўчыць,
Пяяць у няволі ня можа...
Успомніце толькі, як нудна сядзець,
Як з хаты мароз ня пушчае.
То-ж дзень, вам здаецца, як тыдзень ідзець,
Хоць я і усяк разважаю.
А птушку вы хочаце з хаткі яе
Узяць, пасадзіць у чужую...
Ня мучце, пусьціце, рыбулькі мае,
На волю яе залатую“.
І матчыны словы у сэрцах дзяцей
Ласкавыя струны кранулі,
І добрыя дзеці, — прыклад для людзей! —
Сініцы свабоду вярнулі.

А. Гарун.

## Чарвяк-ядвабнік.

Адна жанчына захацела даведацца, як жыве чарвяк-ядвабнік. Згледзіла яна, што ядвабнікаў матылёк нясе

яечкі, а з гэных яечак выходзяць чарвякі-ядвабнікі. Стала яна прыглядацца да гэных чарвей і ўбачыла, што як яны заміраюць, дык на іх бывае павучыньне. Яна разматала гэнае павучыньне, спрала з яго ніткі і саткала ядвабную хусту. Пазьней яна агледзіла, што чэрві вядуцца на тутавых дрэвах. Яна назьбірала лісьця тутавага дрэва і пачала карміць імі чэрві. Яна разьвяла шмат чарвей і навучыла народ, як гадаваць іх.



З таго часу прайшло пяць тысяч гадоў, а людзі і дагэтуль помняць тую жанчыну і шмат тысяч народу жыве з таго, што разводзяць чарвякоў-ядвабнікаў.

Ядваб — шоўк.





## Ярая пчолка.

(Народная песьня).

Лятала ды ярая пчолка,
Па шчыраму бору лятала,
Ды сачыла ды ярая пчолка,
Мядовы садочак ды сачыла,
Дый знайшла ды ярая пчолка,
Сіняе мора дый знайшла, —
Сіняе мора краскамі зацьвіло,
Мядовымі краскамі залягло!

---

Загудзела пчоланька,
Па бору лятаючы,
Мядочак зьбіраючы!

**Калі год сухі — купляй пчолку, а калі мокры — кароўку.**
У вульлі гнілец — бяз мёду зямец.

## Раёчак.



Ляцеў рой дарогаю,
Дарогаю шырокаю...
Ляці ты, раёчак,
Цераз наш дварочак!

## Варона.

На шырокім і даўгім панадворку было вясёла і крыкліва.

Найважнейшым па чыне лічыў сябе індык. Зважні, хоць і не бяз страху азіраючыся на ўсе бакі, пад'яжджаў ён, нашупырыўшыся, час-ад-часу на крыльлі, а з вялікай натугі белаватыя гузочкі на галаве яго то чырванелі, то ажно робіліся сінімі, урэшце белымі, затое, калі, бывала, гукане, — на той мамэнт ціхлі, прыслухаліся і дзівіліся ўсе; але толькі на мамэнт.



Гусі доўга вытрываць моўчкі не маглі і аказваліся, сьпяшаючыся адна перад аднэй, каб як мага больш нагагатаць першымі. Чырвоны, з вялізарнымі косамі певень, ляпаў сябе па бакох крыльлем, дзерся на ўсё горла, ды скрывіўшы на бок галаву, доўга потым прыслухаўся да свайго, як яму здавалася, вельмі харошага голасу, а наапошку дзеля форсу, хоць на адным крыле, пад'яжджаў і ён.



Качкі, ня могучы ўтрымаць на сваіх кароткіх ножках укормленае цела сваё, перамяняліся з нагі на нагу,

нізка ўсім кланяючыся, падтаківалі ўсім. Толькі галубы ды павы ні на што не зварочавалі ўвагі, нічога быццам ня бачылі, ня чулі.



Рэшта — ўсялякая дробязь, якая круцілася і на панадворку і на бліжэйшых сумежных кустох і дрэвах, пішчала, крычала, сьвістала.

Гоман быў страшэнны. Страшэнны тым больш, што час быў веснавы, кожная з асобку грамада выбірала сабе лепшае выгаднейшае месца; ішлі звадкі, бывалі бойкі; мелі свае клапоты, уцехі і радасьці; рыхтаваліся да новага жыцьця, спадзяючыся прыбытку сям'і...



Рупнейшыя ўжо прыждалі гэтае сабе пацехі; іншыя з дня на дзень чакалі; і як на гэтых, так асабліва на першых пазіралі ўсе з зайздрасьцю і пашанай.



З зайздрасьцю, але без пашаны пазірала на гэта ўсё адна толькі варона.

Скуль гэта варона тут убілася, якім парадкам трапіла ажно сюды — ніхто добра ня ведаў, а яшчэ менш ведала аб гэтым яна сама.

Хадзілі толькі чуткі, што раз, як гэта варона сядзела яшчэ ў гнязьдзе разам з сваймі братамі і сёстрамі, наляцеў каршун. На кліч бацькоў зьляцеліся цэлыя хмары вараньня; завязалася бітва з злосьнікам страшэнная, але разьюшаны каршун да гнязда такі дабраўся, некаторых там пакалечыў, адну штуку выцягнуў, а нашая варона, хоць добра лётаць яшчэ ня ўмела, але ткі першая выскачыла з гнязда. Сосна была высокая, дык шлёпнуўшыся воб зямлю пабілася



моцна. Хоць боль браў вялікі, але страх быў яшчэ большы, і вось яна то бокам, то скокам уцякла ад гэнага страшнага месца наўгад, абы што найдалей, ажно пакуль ня прыбілася да таго месца, дзе быў птушнік.

Тут, забіўшыся ў куст, сядзела бедная варона, пакуль голад ня прымусіў вылезьці. Праціснуўшыся праз дзірачку ў плоце, яна з зламаным крылом, з выкручанай нагой, скокнула колькі разоў наперад, прысела, уцягнула шыю, задзерла крыху галаву і моўчкі разінулася.

Панадворнае птуства, занятае кожнае сваймі асабістымі справамі, толькі цяпер агледзілася і спанатрыла чужынца.

Аб вароньнім родзе чулі ўсе, інтыя, як напрыклад куры, качкі — не адну справу ўжо мелі з варонамі; але каб гэта варона сама, адна - адзінюсенька, адважывалася залезьці сярод усяе гэткае грамады свойскага птуства, проста дзіва!

Тым часам гусі пасьпелі гэталькі ўсяго наплясьці, што ўсіх агарнуў страх.

— Тут нешта будзе, будзе, будзе, — аказаўся індык і навет на крыльлі пад'ехаць не адважыўся.

— Клопат, клопат, — прарочыла квактуха.

— Тут — бяда! тут — бяда! — дзерся певень.

— Так, так, так! — кланяючыся на ўсе бакі, з усімі згоджаваліся качкі.

Усе круціліся ўвакол вароны, каторая, быццам уросшы ў зямлю, ані краталася з месца, а толькі галаву паварочавала ў той бок, дзе большы паднімаўся крык, і, час-ад-часу зачыняючы дзёўб, каб перамачыць сьлінай засохшае горла, узноў яго шырока разяўляла, углядаючыся на ўсіх ні то з страхам, ні то з хітрасьцю сваймі бліскучымі чорнымі вочкамі.

Грамада птуства пільна прыглядалася да крывое, адстаўленае ў бок нагі, да апушчанага зламанага левага крыла, цікаўна заглядала ў раскрытае, чырвонае шырокае горла і судзіла на ўсе лады. А што гэта была яшчэ раніца, — трэба было заняцца важнейшымі справамі: напхаць пустыя вальлякі, — дык, нічым ня скончыўшы, памаленьку ўсе разышліся.

Астаўшыся адна, устрапянулася сьпярша варона, па-

правіла пёркі, а пасьля агледзіўшыся ўвакол, падскакала да карыта, заглянула туды і ажно ўсьцешылася: яды, хоць мала знанае, было паўнюсенька. Праціснуўшыся нязначна, дзеўбанула варона раз, другі. Нішто; есьці можна. Накоўтаўшыся, як мае быць, паскакала варона ўзноў у кусты і забілася там, каб не мазаліць дарэмна вочы другім, і адтуль прыглядалася да ўсяго, як-бы хацела спазнаць тутэйшыя парадкі і жыцьцё...

І спазнала. З таго часу дзень ада дня вароне жылося што раз лепей: набралася пэўнасьці, сьмеласьці. Ня без таго, каб ёй часамі не пападала, асабліва спачатку: ня той, то другі — а таўхане, скубне; але да ўсяго можна прывыкнуць, прывыкла і варона, а часам навет сама слабейшага, бывала, дзеўбане, ушчыпне, ды яшчэ закрупіць, а пасьля і з роўнымі цягацца стала.

Вось гэтак то і плыло вароне жыцьцё, плыло год, другі. Прыждала варона і трэцяе вясны, калі то прышла ёй у галаву сьмелая думка, а што каб то завясьці сваю сямейку? Га? Завясьці — то завясьці, справа добрая — ані слова, але як? Доўга думала над гэтым варона, але, відаць, такі нешта надумалася, бо, забіўшыся ў найгусьцейшыя кусты, зьвіла сабе гняздо. І вось з таго часу стала яна пільнаваць, калі сядухі зьляталі з гнязда есьці, тады асьцярожненька, ціханька прыцікаўшыся, выкрадала адтуль яйцы і закачывала іх да свайго гнязда. Гэтак рабіла варона з дужэйшымі за сябе птушкамі; з слабейшымі справа была зусім лёгкая: прыйдзе да сядухі, гаўзане, калі тая сьпіраецца, у галаву і бярэ, што трэба.

Гэткім парадкам праз нейкі час, сабраўшы больш дзесяцёх розных колераў і велічы яец, варона села.

Прайшло некалькі часу. Выгаладніўшыся, высахшая, як шчэпка, вылезла, урэшце, варона з кустоў, а за ёй сыпалася пісклівая на ўсялякія тоны грамадка рознае дробязі.

Дзівіліся і цікавіліся ўсе, як гэта варона ўхітрылася завясьціся гэткай сям‘ёй?

А і ганарыстая-ж стала варона: курам, качкам — ані прыступіся; пеўню бараду і грэбень акрывавіла; самому індыку чуць вочы ня выдзерла!

---

— За сваіх родных дзетак жыцьцё аддам, а не папушчуся, — крычала варона.

Залятталі і заглядаліся на ўсё гэтае дзіва сваячкі вароны, перад каторымі нашая варона хвалілася сваймі дзяцьмі; але тыя доўга моўчкі ўглядаючыся, адляталі з крыкам: кра, кра, кра! Гусі, добра, відаць, не дачуўшы, зараз-жа ўсім разьняслі, што навет вароны пазналіся на моладзі сваячкі і кажуць, што яна іх крала. Як толькі разышлася гэта вестка, варона зразу страціла ўсю тую прыхільнасьць, якую зазвычай маюць маткі.

— Прыблуда, прыблуда, прыблуда! — артачыўся індык.

— Гнаць вон! гнаць вон! — крычаў у адзін дух певень.

— Так, так, так, — кланяючыся падтаківалі качкі.

Пасьля гэтага вароне жыцьця ня было: адусюль гналі, усе тоўхалі. А тым часам і моладзь падкачалася, і як ні старалася ўтрымаць яе ў паслуху варона, як ні муштравала, ні біла ўсіх сваіх дзяцей, — нічога не памагала: заместа — гарнуцца да маткі, сталі распаўзацца, куды каторае: качаняты да качак, кураняты прылучыліся да курэй, словам, пакуль падыйшла восень, пры вароне ўжо нікога не засталося.

Цяпер толькі агледзілася, спазнала ўсю сваю абмылку варона: зразумела яна, урэшце, што навет слабейшымі за сябе птушкамі, як, напрыклад, галубкамі, камандаваць яна ніколі ня здолее.

А што-ж казаць аб роўных па сіле.

І хоць жаль было выгоднага месца, жаль гатовага дармавога корму, але хоцькі-ня-хоцькі, выбралася ткі варона ў свой лес.

Час мінаў нязначна. Крыло ў вароны зусім зраслося, толькі нага так і асталася крывой.

Пралятаючы неяк аднэй восені з цэлай хмарай сваіх сваячак над добра сабе знаным панадворкам, дзе круцілася і завіхалася каля яды цэлая грамада living рознага птуства, нашая варона паказваючы на птушнік, аказалася:

— Ведаеце, сястрычкі, што? Гэта-ж усе мае родныя дзеткі.

Ядвігін Ш

# Песьні зямлі.

Граў пастушок у полі на жалейцы, так хораша граў, ажно ўсіх зайздрасьць узяла.

— Давайце запяём і мы! — сказалі птушкі, жабы, мухі, зьвяры, дрэвы, траўкі, рэчкі...

— Давайце ўсе пяяць будзем!

— Чы-чы-чы-чы-чы! Тур-р-рль-тур-р-рль!—пачаў вывадзіць прыгожыя трэлі салавейка. Усе заслухаліся яго песьнямі й хвалілі яго нязвычайна прыгожы голас.



— Ці-ці-ці-і-і! — зацягнуў сваю зычную нотку жаўранак. Стогны й жальбы шчырай душы чуліся ў яго песьнях. Яны вельмі радавалі й цешылі ратая.

— Чык - чырык! чык-чырык!—чырыкаў верабей. Выходзіла ня блага і ў яго.

— Кра-кра! кра-кра!—кракала варона, думаючы, што гэта ня дай Бог як хораша.

— Ку-ку! ку-ку!— кукавала зязюля адно й тое самае. Хоць голас быў зычны, але нуднаваты.

— Піць! пі-іць! — зацягвала сваю песьню птушка-каня. Галасок яе быў прыемны, але залішне сумны.

— Дра! др-р-ра! — стараўся драч. У вялікім хоры гэта выходзіла добра, затое паасобку залішне вуха рэзала.

— Ток-ток-ток!—токаў цецярук. Але ад яго песьні найбольш чулілася яго жонка, цяцера.

— Ку-га-а! ку-га-а-го-го-го! — плакала й рагатала

сава. Гэта была музыка жудасьці й страху, якая падабалася кажану ў ночы.

— Ква-ква! ква-ква! — квакалі жабы. Тут было шмат пачуцьця й мала таленту.

— Ж-ж-жу! ж-ж-жу! — жужджэў жук. У вялікай кампаніі і ён не перашкаджаў, а мо' яшчэ й дапамагаў.

— З-з-зум, з-з-зум! — лёгка перабірала пчолка па струнах сваіх гусьляў. Усе пчалу надта хвалілі. Толькі мядзьведзь казаў, што яе хваляць ня так шчыра за песьні, як за мёд.

— Му-му-му! — мычэла кароўка. Гаспадыня пры гэтым яе гладзіла й даіла. Пеўнік прысягнуўся, што гаспадыня гладзіць яе не за песьню, а за малако.

— Мэ-мэ-мэ! — мэкала авечка. „Дай мне свой кажушок, тады цябе паслухаю“ — сказаў сівенькі дзядок.

— Хрук-хрук-хрук! — хрукала сьвіньня. Жартаўнікі гаварылі, што яе сала пад блінамі яшчэ складней сквіргочыць.



— Няў-няў-няў! — няўкаў кот. На мышэй ён рабіў сваёй музыкай вялікае ўражаньне.

— Гаў-гаў-гаў! — брахаў сабака. Тут, разам з прыемнасьцю, гаспадар меў і карысьць, бо сваім голасам сабака зладзеяў пужаў.

— Во-о-ой! Во-о-ой! — выў воўк у лесе. Музыка яго была сур'ёзная, бо лілася з глыбіні галоднай душы й наводзіла на чорныя думкі.

— Кап-кап-кап! дзін-дзін-дзін! там-тым-там! — зьвінела й журчэла рэчка, пераліваючыся з каменя на камень. Рэчка часам зьвінела, як шкляны званок, а часам стагнала, як кволыя струны арфы. Ёю заслухваліся дзяўчаты, якія па ваду хадзілі.

— Скрып-рып! скрып-рып! — скрыпела сасна аб сасну ў лесе. „Ад такіх асоб, што век свой вякуюць на адным месцы ў дзічы, і гэта прыемна паслухаць!“ — гаварылі ўсе.

— Шу-шу-шу! шу-шу-шу! — перабірала асіна дрыжачым лісьцем пад ветрам. У яе песьні было шмат кво-

ласьці й страху. Відаць было, што ў асіны адвагі не хапае.

— С-с-с! с-с-с! — вывадзіў свае шэпты чарот ля рэчкі. Дзікія качкі памагалі яму шумам свайго крыльля, відаць, што ім спадабалася. А качкі — птушкі заморскія і ведаюць смак у такіх рэчах.

— Шоп-шап! шоп-шап! —таёмна пяяла жытняе поле. Мятлічкам і васількам гэта было па сэрцу, — яны шчыра заслухаваліся шэптам жытняга поля.

— Шчолк-шчолк! — пяяла пуга-драцянка ў руках пастушка. Гэта было досыць цікава. Але поле гаварыла, што без дапамогі чужой рукі пуга так ня здолела-б вырабляцца.

Водгульле перадражнівала ўсіх—ад першага да апошняга.

— У яго шмат спрыту да пераймяньня чужога, але нічога свайго няма, — сказаў дуб, — а гэта найгоршае, бо кожны павінен быць самім сабою.

А калі часам у поўдзень, на ўсход ці на захад сонейка ўсе разам запявалі, — выходзіла вельмі хораша. Тады здавалася, што гэта пяе сама зямелька-маці.

З. Бядуля.

# Х л е б.

Закінуўшы за плечы торбу з хлебам, пацягнуўся Пранук у паветавае места.

Раніцай, халадком, ісьці было нішто, але пад паўдня стала прыпякаць, ногі пачалі млець, а тут яшчэ вяровачка ад торбы муляе плечы Пранука. А ў дарозе вядомая рэч: зразу зусім ня чутна ціжару, а прайдзі толькі далей, дык і хунт пудам здаецца!

Перакідаваў Пранук торбачку з аднаго пляча на другое, перакідаваў, дый так нічога: рэжа!

— Вось, каб цябе ліха! — стаў наракаць Пранук,— сам чуць цягнуся, а тут яшчэ і хлеб нясі.

— Ня ты мяне нясеш, а я цябе нясу, — аказваецца хлеб з торбы.

Забыўся Пранук і на дзіва, што хлеб загаварыў, толькі яшчэ горш узлаваўся.

— Дык ты гэтак?! Мала таго, што на плячох маіх ляжыш, яшчэ агрызацца ўздумаў? Вось-жа паглядзім, хто каго нясе! — дый бразь торбу з хлебам аб зямлю, а сам ажно ходу са злосьці падбавіў.

Ішоў Пранук, ішоў доўга: але што раз часьцей садзіўся спачываць, што раз часьцей уздыхаў, што раз часьцей сплёўваваў і, ня прычдаўшы яшчэ вечара, вельмі ўсьцешыўся, угледзіўшы здалёку на дарозе карчму.

Зайшоў, дастаў капшук, вытрас з яго апошнюю залатоўку, што з дому ўзяў, ды аддаў яе цяпер на хлеб і, ласа яго, сухі, грызучы, дагадаўся ўрэшце, хто каго нёс: ці ён хлеб, ці хлеб яго.

Ядвігін Ш.

# Л е с.

Глуха шэпча лес зялёны,
Усё шуміць ён ды шуміць;
Доў і гоман несканчоны
Цэлы дзень над ім стаіць.

*Я. Колас.*

У лесе было ціха. Высокія панурыя елкі маркотна шумелі так ціха, што чуць-чуць можна было расслухаць



іх смутны шэпат.

У некалькіх кроках стаяла асіна, шырока раскінуўшы сваю круглую верхавіну над невялікімі елкамі і хвоямі і,

стыкаючы лісьцё з лісьцём бярозы, штось-то шаптала ды так жаласна, што дрыгаценьне лістоў, з каторага складаўся гэты сумны шэпат, залятала ў самае сэрца адзінокага дзіцяці і там знахадзіла водгалас. Аб чым-жа шапацела лісьцё? Што казала яно? Яго памалу калыхаў летні ветрык, і яно шумела. Толькі малы хлопчык укладаў у гэты яго шэпат асобны змысл і чуў у ім байку аб сваім жыцьці.

Ці-ж ня праўда? Гэта аб ім шапацелі лісточкі, аб яго маленькім нярадасным жыцьці. Прабег сьмялей ветрык над галавой лесу, закалыхаў яловыя лапы і дужэй затрос асінавыя лісты. Яны боязна задрыжалі і мацней запяялі сваю жальбу-думку.

Таўрус.

## Дуб і чароціна.

Раз завяла чароціна з дубам гутарку.

— Скажы мне, дубе, чаму ты ня гнешся прад бураю, і бура цябе ня можа здалець? Часта стоячы тут, бачыла я, як сярдзітыя буры ўпіраліся ў цябе, як у каменную сьцяну. На тваей галаве бусел зьвіў вялізарнае гняздо, а ты навет ня чуеш гэтага ціжару. А я вось стаю тут ды гнуся, як старая. Маленькая птушачка сядзе на мне, я ня выдзержаваю і гнуся да самае вады. Часамі жук няўмысьля вытнецца аб мяне, я ўся закалачуся, як у хваробе. Дык скажы-ж мне, дубе, адкуль твая сіла? Скажы мне, чаму я такая слабая?

І кажа ёй дуб:

— Ты баішся жыцьця, затым ты і слабая. Ты выбіраеш мягкі грунт, каб ня так трудна было баразьніць зямлю сваім карэньнем. Усім ты хочаш угадзіць, к усякаму ты падыходзіш хітрасьцю і змалку прывыкла ты гнуцца. А калі хто гнецца, тым ён паказавае сваю слабасьць і непаважаньне к сабе! А хто не паважае сябе, таго і другія не паважаюць, папіхаюць ім, як хочуць. Ты прывыкла да лёгкага жыцьця і ўсю надзею кладзеш на другіх. А хто не спадзяецца на сябе, той і бывае слабы. А я змалку спадзяюся толькі на свае сілы і на сілы зямлі

і сонца. Змалку я навучыўся сам памагаць сабе. Нікому я ня гнуўся. Лепей зламацца зусім, чымся гнуцца ўсякай сіле. Мы, дубы, так і робім: або ломімся, або выжываем. Затое, як хто з нас захавае сваё жыцьцё, тады нікога не баімся. Праўда, і мяне можа зламаць бура і цяпер; няма на сьвеце такое сілы, на каторую ня было-б большае сілы.

## Зло—не заўсёды зло.

Цэлае лета вісеў жолуд на старым дубе. Бог ведае, як далей, а пакуль ён быў малы, вялікага гора зазнаць яму ня прышлося. Праўда, на яго тады ніхто не зварочаваў і ўвагі: як-бы яго й на сьвеце ня было, толькі сонейка, выплыўшы з-за лесу, узіралася на яго і пеставала сваім цяплом, бы тая маці. А калі, бывала, яно прыпякала надта горача, — маленькі жалудок хаваўся ў цяньку густога лісьця, як пад парасонам, і яму заўсёды было добра.

Так і вісеў ён, ні для каго незаметны.

Але-ж урэшце вісець яму дадзела.

Яно — такі і праўда: як-бы там ні было добра, але калі гэтае дабро цэлы век астасцца бяз усякае зьмены, то яно лёгка перастае быць дабром.

Гэтак было і з жолудам: захацелася яму другога жыцьця, так і цягнула яго саскочыць з галіны і пакачацца на мягкай зямлі. Ня раз ён ужо парываўся зрабіць гэта. Сказаўшы праўду, трохі з ветру гарыць сьвет. Бывала, чуць што ўзыйдзе сонца, гэты жартаўнік і штукар-вецер зараз і прыцікаецца, але так, каб ня чуў стары дуб, і пачне баламуціць дубовых сынкоў. Што казаў жолуд, ня ведаю. Болей сьмелы вецер гаварыў галасьней, і вось што ён шаптаў раз жолуду.

— Дурны ты? Я пражыў на сьвеце болей вякоў, як лістоў на гэтым дубе, і кажу табе: калі ў цябе ёсьць сіла, ты заўсёды знойдзеш спосаб жыць на сьвеце, і ты праб'еш сабе дарогу — што жывое, жывым і застанецца.

А стары дуб тым часам гаварыў гэтак:

— Сынку, патрывай яшчэ трошкі, падрасьці, уздужай. О! ты яшчэ ня ведаеш, як цяжка жыць на сьвеце. Паслухай мяне, старога.

Ведама бацька: шкода яму сына.

— Ня пушчае бацька, — ціханька шаптаў жолуд на намову ветру.

І трэба-ж было, каб гэтую гутарку прачула сьвіньня. Раз, ужо зусім пад восень, жолуд убачыў, як пад дуб, рохкаючы, трушком падбегла лапавухая асоба. Угледзіўшыся добра, жолуд абамлеў: на зямлі ляжала шмат гэткіхжа, як і ён, жалудоў. І сьвіньня хрумстала іх бяз усякае жаласьці. На тое-ж яна і сьвіньня, даруй Божа грэх. З вялікага страху бедны жолуд задрыжаў, вылузаўся з місачкі і ўпаў ня зямлю ў двух кроках ад сьвіньні. Але ўпаў ён як раз у тую яміну, што вырыла сьвіньня сваім даўгім лычом.

І вось што вышла: сьвіньня хацела паесьці жалуды — і памагла вырасьці аднаму жолуду, вырыўшы яму пасьцельку.

Жолуд на другі год прарос і стаў дубком, а сьвіньню людзі закалолі, і яна стала мясам.

Т. Гушча.

## Ах, салодкі гарох!

Троху воддаль ад шляху — зялёны кавалак. Гарох. Густы, кучаравы, кручасты разросься, разбрыўся ўва ўсе бакі, падняў свае кручаныя макушкі-вусы высока ўгору. Пышны такі. Наверсе ён цьвіцець прыгожанькім белафіялетавым цьветам, як красачка, ніжэй выставіў лапатачкі, а яшчэ ніжэй, ля самае зямлі, на ім павісьлі ўжо буйныя круглыя струкі, ёсьць як бізуны.

Яшчэ з воддальля кідаецца ў вочы гарохавы лапік на яравым полі сваёю прыкметнай зелянінаю. Вабіць. Спакушаець канюшкоў і пастушкоў.

Вось ён гарох. Ня йдзіце-ж па ім, ато патопчаце, паламаеце ломкае сьцябельле. Шкода, як яно захрупаець пад нагамі і абаўецца на іх, быццам просіць жаласьці.

Для дзетак няма нічога саладзейшага ў полі, як гарох. Вун прыбеглі яны сагнуўшыся, каб ніхто ня згледзіў; шыбка беглі-беглі, аж запыхаліся,—цоп! Селі з краёчку; дапалі, уляглі ў буйную націну, баючыся пацерці, каб ня было значна; і хапаюцца-шчыплюць струкі, ядуць і кладуць за пазуху і ў шапку; лапатачкі ядуць з сочнай зялёненькай шалупою — салодка!

Эй! эй! Уцякайце! Там нехта йдзець, ён вам дасьць гарох!

Скок! Скок! Пабе-еглі, сагнуўшыся.

Ах, салодкі гарох!

М. Гарэцкі.

## Калінка.

(Народная песьня).

Няпраўдзівая калінка —
Няпраўду лугам казала,
Казала: „Цьвісьці ня буду,
Белага цьвету ня пушчу,
Чырвоных ягад не ўзрашчу!“
Прышла вясёнка цяпленька —
На каліне цьвету бяленька,
Прышла васёнка сьцюдзёна —
На каліне ягад чырвона!

## Лясны пажар.

(З расказу лясьніковага сына).

— Гарыць лес! — з трывогаю сказаў мой бацька, вышаўшы на двор і панюхаўшы паветра.

Я выскачыў на двор. Пахла гар'ю і дымам.

— Бегайма, сынку! — сказаў мне бацька, узяўшы рыдлёўку.

Мы пабеглі. Выскачыўшы на прыгалак, на каторым была гара, мы ўзьбеглі на гару. Дым з гары быў ясна відзен, — гарэў лес. Толькі трудна было распазнаць, ці

ў нашым абходзе быў пажар, ці ў чужым. Мы пабеглі проста на дым. Беглі мы доўга. Было страшна горача, пот так і каціўся з нас. Мы ўжо перабеглі і граніцу свайго лесу. Агню яшчэ ня было відаць; толькі дым, каторы разьняваўся ветрам па лесе і туманіў яго, даваў знаць, што пажар блізка. Скора мы ўбачылі і самы агонь. У лесе нікога ня было, і агонь без запынку разьгульваўся на волі. Цэлае возера агню абнімала лес да палавіны, разьлівалася кругом і займала ўсё большую і большую лапіну.

Страшны і разам цікавы від мае пажар лесу!

Шум агню чуцен за вярсту. Агонь абхоплявае маладый хвойнік да самага верху, а пад разьвесістымі каржанаватымі маладымі хвоямі многа сухіх калюшак і лому.

Агонь узьбягае па камлю, пераходзіць на гальлё, а вецер далёка адносіць сухую кару разам з агнём; ад чаго пажар яшчэ скарэй разрастаецца.

Цэлая сьцяна агню ў сажань увышкі разьлівалася па краёх і нясласся ўсё далей і далей.

Кусты ялаўца трашчаць, як толькі надходзіць к ім агонь, на мамэнт даюць белы слуп дыму і разам абхопляваюцца агнём і прападаюць у полымі, каторае яркімі істужкамі разьліваецца ў адну мінуту над хвойнікам. Тоўстыя, абросшыя мохам, старыя хвоі, у версе смаляныя, з выдзеўбленымі дзятламі дзіркамі, гараць, як сьвечкі. Іншыя зусім перагараюць на палавіне, і вяршына з глухім шумам апускаецца на ніз, у самы агонь і прападаець у полымі.

Жар нястрывалы — трудна ўстоіць за тры сажні ад агню. Людзі з лапатамі і граблямі прышлі з суседніх вёсак тушыць пажар. Стаўшы аддалёк ад агню, пачалі яны адграбаць мох і калюшкі, каб ня даць матэр'ялу агню. Капалі зямлю і кідалі пясок на агонь. На ахвяру яму пакідалі цэлыя маргі лесу, бо за гарачынёй трудна было рабіць блізка ад агню. У адным месцу пажар падступаў к старому бору. Людзі кінуліся туды і дружнаю работаю адваявалі бор. Агонь рыхтавалі скіраваць туды, дзе ён меней мог знайсьці сабе корму. Пажар памалу

ўсё меншаў і меншаў. Яго дарога ўсё вузілася. Белы дым спакайнеї слаўся па лесе і тонкімі языкамі ўздымаўся над лесам. Скора бура агню была зусім затушана. Толькі вялізнае вогнішча дымілася тысячамі маленькіх дымкоў ды дзе-ня-дзе вынікаў агоньчык сярод абгарэлае палянкі, разьдзьмуханы ветрам. Нудна пазіралі дрэвы з асмаленымі камлюкамі.

## Рабіна.

(Народная песьня).

Рабіна, рабіначка, рабіна мая,
Чаму ты, рабіначка, рана адцьвіла?
Дзяўчына, дзяўчыначка, дзяўчына мая,
Чаму ты, дзяўчыначка, засмуцілася?
Ой ня ў тую порачку я на сьвет прышла,
Маці не падумаўшы замуж аддала;
Ды у тую вёсачку не ў вядомую,
Ў чужую сямеечку невясёлую.



Дальняя старонaчка бяз ветру сушыць,
Ня родны татулечка бяз віны журыць.
Во й жыву гадочак я, жыву і другі,
А на трэцім годзіку занудзілася;
К мамачцы у госьцікі захацелася,
Па родным татулечку затужылася
Абярнуся птушачкай — шэрай зязюляй,
Паляту я, молада, к маманьцы сваей.

Ой пайду, ой сяду я ў вішнёвым саду,
Запяю там песеньку жаласну сваю.
Я думала, думала, што мамачка сьпіць,
Ажно мая мамачка у сянёх стаіць.
Ды будзіць нявестачак: „Ластаўкі мае!
Паслухайце птушачку, што ў садзе пяе.
Што гэта за птушачка жаласна пяе,
Адкуль гэта птушачка прычыты бярэ?
Калі наша дзіцятка, ляці к нам у двор,
А зязюля шэрая — ляці ў шчыры бор“.
Не дачула дочухна мамчыных размоў,
Паляцела дочухна ды у шчыры бор.
Ляцела лужочкамі — зьлівала сьлязьмі,
Ляцела барочкамі — сохнуў бор з тугі.
Села, пала зязюля на дрэве сухім,
Завяла жалосную размовачку з ім:
„Чаму табе, дзераўца, Бог лісткі забраў?
Чаму мне, малодзенькай, долі Бог ня даў?“

## Хвоя.

Увясну, як пачынаў ажываць Божы сьвет, выбілася з зямлі тоненькая чырванаватая травінка. Гэта добрае яснае сонейка выклікала яе да жыцьця. Беднае зернятка, з каторага вырасла травінка, згубіла ўжо ўсякую надзею ўбачыць калі-небудзь Божы сьвет, так было цёмна яму ў зямлі пад сьнегам, так сьцюдзена і маркотна. І ўсё-ж такі дачакалася. І цікавая з яго вырасла травінка: танюсенькая ножка, а на ёй у гарэ, на два пальцы ад зямлі, выплялася з яшчэ болей тоненькіх, зялёных нітачак-травінак прыгожая каробачка, на самым версе гэтае каробачкі сядзела цёмная шапачка. І ні адна матка не магла так прыгожа ўбраць сваё дзіця, як убрала сонейка гэтую травінку. Маладая расьлінка стаяла ля лесу ў полі. Стары лес закрываў яе ад паўночных вятроў і даваў ёй цяпло і зацішак.

Яна была такая маленькая і нязначная, што навет ніхто ня кідаў свой пагляд і ня цешыўся ёю, ня гледзячы на тое, што гэтае маленькае стварэньне выяўляла сабою асобны кут жыцьця, разумна і замыславата ўстроены. Па самай зямлі, праўда, поўзалі яшчэ меншыя мурашачкі, але яны былі надта заняты сваёю працаю, і ім ня было калі думаць, разважаць, дахадзіць канцоў і пачаткаў. Яны клапаціліся, бегалі, паварушываючы сваімі вусамі, і бралі ад жыцьця тое, што можна ўзяць. Апроч таго, яны і па натуры сваёй былі мурашкі-практыкі.

Дык ніхто, кажу, не замячаў маладой травінкі. Па праўдзе сказаць, з першага пагляду трудна было пазнаць, што гэта за штука, і толькі прывычнае вока магло сьцяміць, што гэта расьлінка стане з часам дрэвам, тым заўсёды зялёным дрэвам, што завецца хвояю.

Як яна сюды папала?

На гэтае пытаньне можа адказаць адзін толькі вецер. Але вецер ужо ўсім вядомы непаседа, і ў яго так многа работы, што трудна ўдзержаць у памяці такую рэч, як занясьці па дарозе і кінуць насеньне. А вясна тым часам рабіла сваё. Маленькая хвойка не ведала, на што пазіраць, каго слухаць, цешыцца, а ёй хацелася паслухаць і аб чым шумеў лес, і што гаварыла між сабою трава, і чаго так радасна трашчалі на ўсе лады палявыя конікі. Сярод гэтай супольнай песьні вясьне і жыцьцю адзін голас найбольш крануў сэрца маладой хвойкі. Божа, што за песьня лілася ў небе!..

Дзылін! дзылін! дзылін!
Млею, млею, млею!
Вясна! вясна! вясна!
Ідзі, малы! ідзі, стары!
Віншуй вясну! Віншуй вясну!

Усе гэтыя гукі ішлі з глыбіні праўдзівае душы. І гэтулькі ў іх было ласкі, просьбы, радасьці і нейкае патайное жальбы, што кожын іх слухаў, слухаў толькі іх адных. Другая часьць песьні была спакайнейша, але самы сьпеў яшчэ мацней хапаў за сэрца. Аб чым пяяла жаўранка, снуючы высока ў паветры над лесам? Маладая

хвойка была ўся захвачана гэтай песьняй. Ей хацелася ўбачыць самую пяюху. Яна падыймала сваю галоўку так, што шапачка яе звалілася, і зялёныя лісточкі разыйшліся, началі раскрывацца, якбы сьмяяліся, пачуўшы такую прыгожую песьню. Прыбегшы з-за ўзгорка, ціхі веснавы ветрык ня мог удзержыцца, каб не пацалаваць маладую хвойку. А яна ад радасьці задрыжала ўся... І што ёсьць на сьвеце мілей цябе, узрост маладога жыцьця, калі душа яшчэ бязгрэшная і чыстая, як ранічная майская роска? Так зачынала жыцьцё маладая хвойка, так сустракала яна кожную новую яго зьяву. А кожны дзень, кожны мамэнт няпрыметна аддалялі яе галоўку ад зямлі і адчынялі ёй новыя і новыя зьявы і малюнкі божага сьвету.

Т. Гушча.

## Балотны агонь.

Гэтая бярозка толькі нядаўна асталявалася тут. Кароткае жыцьцё выдарылася ёй і незавідная доля гадавала яе. Закрытая, заціснутая з усіх бакоў старымі дзеравякамі, ня бачыла яна сонца, рэдка калі падыхаў на яе сьвежы ветрык. А як яна ня бачыла іншага сьвету і другога жыцьця, то і не наракала ніколі на сваё сірочае жыцьцё. Яна смутна пачувала волю, прастор, сонца і, стоячы тут, сярод гэтых дрэў, як чужаніца, ні з кім не гаварыла пра свае думкі і лятункі. Адна толькі ўцеха падтрымлівала яе жыцьцё. Уночы, як заціхалі вокал птушкі і пераставалі гудзець і зьвінець мошкі, і толькі адны зоркі сьвяціліся ў небе ды часамі месяц сумным вокам азіраў зямлю,— гарэў дзесь агонь, белы, неразгаданы і прыемны. І блішчаў той агонь з-пад нізу, з нейкіх невядомых абшараў зямлі.

Балота, на каторым прыгожа раскінуўся той астравок, дзе расла разам з другімі дзярэўямі і гэтая маладая бярэзінка, здавалася, ня мела канца-краю; найстарэйшы тут дуб, стоячы на самым высокім месцы вострава, ня бачыў канца гэтага балота. Спрадвеку гадаваліся на гэтым астраўцу розныя дрэвы. Па краёх здольным абручыкам цягнуліся маладыя і старыя алешыны,

пусьціўшы карэньне глыбака па балоце. Далей цягся цёмна-зялёны пояс елак. Яшчэ крыху вышэй бялелі стройныя камлі прыгожых бярэзін, сярод каторых пракідаліся ліпа, граб, ясень, вяз, і ўжо на самай сярэдзіне астраўка стаялі магутныя дубы.

Нашая маладая бярэзінка расла па суседзтву з вязам. Была поўнач перад Ільлёю. Неба было цёмнае, усё закрытае хмарамі, і дрыгацела час ад часу, асьвяціўшысь бліскавіцамі ад далёкага магутнага грому. На балоце прыветна мігацеўся той самы агонь. Маладая бярозка радасна дрыжэла, гледзячы на гэты агонь. Абуджаны раскацістым гулам грому вяз папытаўся ў бярозкі:



— Чаму ты ня сьпіш, дзетка?

Бярэзінка здрыганулася зьнячэўку і прыкінулася, што нічога ня чуе і сьпіць.

— Чаго-ж саромяешся? — прыветна прамовіў вяз:— ох, блазнота, блазнота! Ты ўглядаешся на балота, цябе цягне агонь?...

Вяз памаўчаў, а потым, махнуўшы галінкаю, сказаў:

— Гэта не агонь.

— Не агонь? — сумна папыталася бярозка, — дык гэта не праўдзівы агонь?!

— Гэта гнілякі на балоце так сьвецяцца. Плюнь на іх. У дзерава павінны быць дзьве дарогі: адна—у зямлю, другая ў гару да сонца...

І доўга яшчэ гаварыў так вяз.

Т. Гушча.



## Вецер.

Ой ты, вецер неспакойны,
Дзьмеш ты бязустанку!
Адну песьню нам сьпяваеш,
Адну кажаш байку.

Я. Колас.

**Загадка.** І шуміць і гудзе — на ўвесь сьвет голас ідзе.

## Месяц.

Ціха месяц адзінокі
Ходзіць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёкі,
Што ты бачыш пад сабою?

Я. Колас.

## Лісток.

(Народная песьня).

— Кляновы лісток, кляновы лісток,
Куды цябе вецер коціць?
Ці ў луг, ці ў даліну,
Ці ў Русь, ці ў Украіну?

— Белая бярозачка,
Я й сам ня ведаю,
Куды мяне ветрык коціць:
Ці ў луг, ці ў даліну,
Ці ў Русь, ці ў Украіну.

## Вандроўкі каплі вады.

Яснае сонейка клікала вадзяную каплю, дачку мора:

— Хадзема за мною, павандруем па божаму сьвету да пагуляем у празрыстым блакітным небе.

Капля-б з дарагой душы, ды бацька-мора ня пускае. Вота-ж і пасылае сонейка да яе сваю гарачую касу: узяла яна каплю, зрабіла яе нявідзімкаю ды панясла ўсё вышэй і вышэй, усё бліжэй і бліжэй да сонца. А сонца гуляе сабе на вышыне, па-над гарамі і марамі: Доўга ляцела капелька, прытамілася, выбілася з сілы і ня можа далей ляцець. Ды не адна яна, а шмат такіх валацугаў, яе сёстраў, паўцякала з мора. Сабраліся яны ў кучу, у шэрую хмару, сядзяць дый плачуць, што ня маюць сілыісьці далей да яснага сонейка. Зьмілавалася над імі сонейка і паслала свайго сына, сьвежага ветра. Пазьбіраў ён іх у кучу ды пагнаў па небе дамоў. Як зышліся капелькі ў кучу, распыталіся і прывіталіся з сабою і перасталі нявідзімкамі быці, а ўзноў у капелькі перакінуліся. Абняліся яны ды разам і пападалі на зямлю дажджом.

Нашая капелька пала з дажджом на высокай гарэ, а з ёю ня мала і другіх капель. А гара гэта была далёка ад мора. Ну, што-ж? Няма чаго ім вылягацца,

трэба й дамоў пасьпяшаці! Вясёла капелькі пабеглі ды паскакалі з скалы на скалу, з каменя на камень, ўсё ніжэй ды ніжэй. Дабеглі да ручайка і шыбка ды шумна паплылі ўперад. Калі бачаць — ліха: людзі загацілі ваду, і капелькам трэба ісьці на млынавыя колы.

Зашумелі яны, загудзелі, рынаю рынуліся на колы, акруцілі іх і апынуліся на другім баку грэблі.

Плывуць яны сабе ды плывуць спакойна ды ціха ўжо ў шырокай рэчцы і мяркуюць:

— Вось, вось недалёчка да дому!

Калі дзе не ўзяліся чаўны — душаць яны нашыя каплі, душаць іх і цяжкія віціны, рэжуць іх і прыткія параходы.

Ды ці мала выпала на іх долю ліха, пакуль не дабеглі і не абняліся з бацькам-морам.

**З народнай песьні.** У нядзельку параненьку сіняе мора трапатала, — яснае сонейка іграла, купалася, пералівалася...

**Загадка.** Адзін кажа — паляжым, другі кажа — пабяжым, трэці кажа — паківаемся. (Камень, рэчка і чарот).

## Чыгунка.

Ў два рады між палёў
Стройна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетру лясоў,
Точаць грудзі зямлі.



Гдзе стралою ляцяць,
А гдзе дужкай бягуць,
Цераз горы і гладзь,
Сьмела рэчкі сякуць.

Эх, і быстры-ж той гон!
Толькі пыхае дым,
За вагонам вагон
Мчыцца зьмеем ліхім!

Я. Колас.

## Соль.

— Дзядзька, дзядзька!

— Чаго?

— Дзядзька, ня гнewайся, што перашкаджаю ў рабоце. Але вельмі хочацца мне ведаць, адкуль гэта соль бярэцца?

— Бач, якім разумнікам захацеў быць! Ці ты ніколі ня чуў, што соль бярэцца з мора, з вады?

— Што? з мора?! Ня можа быць! Усім ведама, што калі кінеш жменю, другую солі ў ваду, то яна там адразу згіне, прападзе — распусьціцца.

— Гэта праўда, што соль адразу распускаецца ў вадзе. І ў моры яна не ляжыць дзе-небудзь на дне: яе там ня ўбачыш, бо яна таксама распушчана ў вадзе. Вось каб дастаць гэную соль з вады, робяць гэтак: капаюць на берагох мора вялікія ямы, заліваюць іх дно і бакі цэмэнтам, а пасьля пускаюць у іх ваду і чакаюць тыдзень, другі, месяц, пакуль вада з гэных ям не пяроідзе ў пару і ўцячэ ў паветра.

— Гэта, дзядзька, не мяркуючы зусім так, як мы робім з вучыцелем. Паставілі на паліцы талерку з вадой, а як праз колькі дзён глянулі на нашую талерку, дык вады ўжо ў ёй ня было. Вучыцель нам тады сказаў, што вада ад цяпла пераходзіць у пару і ўцякае ў паветра.

— Во, во! Добра ён вам казаў. Таксама паглядзі тут на гаршчок, што стаіць у печы. Што бачыш над ім?

— Нічога, апроч пары!

— Але, бачым мы над ім пару. Тутака вада ад гарачыні хутка пераходзіць у пару і ўцякае ў паветра. Добра пару бачыш толькі блізка — над самым гаршчком; чым вышэй, дык слабей, а пад самай стольлю і зусім

ужо ня відаць яе. Значыцца, вада паруець у гаршчку і ўцякае ў паветра. Так сама робяць і тыя, што дастаюць соль з мора. Яны чакаюць доўга, пакуль вада не ўцячэ, бо там ад сонца не такая гарачыня, як у гаршку ад агню. А соль нікуды ня можа ўцячы, — астаецца ў яме. Пасьля зьбіраюць яе ды йзноў пускаюць марскую ваду ў яму. І гэтак робяць круглы год.



Салёнае возёра.

— Дзядзічка! Дык і мы гэта зробім! Выкапаем яму каля рэчкі, пусьцім ваду; будзем чакаць, пакуль яна не ўцячэ. І соль тады будзе, і ня прыдзецца яе купляць.

— Добра было-б гэта, толькі на бяду соль ня ў кожнай вадзе знаходзіцца: яна ёсьць толькі ў тэй, каторая мае салоны смак. Смак гэты мае толькі вада ў моры ды ў некалькіх вазёрах. А ў нашых рэках і вазёрах дык

зусім няма солі. Тыя воды, дзе ёсьць соль, завуцца салёнымі, а дзе няма яе — салодкімі. Каб скаштаваў ты ваду з мора, дык пэўне і непрыяцелю свайму ня радзіў бы піць яе, — такая яна горкая, салёная. Вось, на караблі, што едуць морам далёка, напрыклад у Амэрыку, або Азію, дык заўсёды бяруць вялікі запас салодкае вады, каб было што піць у дарозе.

— А то-ж, дзядзька, прыпомніў я цяпер, што Зьмі-



Спуск у капальню.

цер, той, што вярнуўся з заработкаў з Аўстрыі, казаў, што тамака ў некаторых мясцох капаюць соль з зямлі. Дык як гэта? Ты, дзядзька, казаў, што соль ёсьць толькі ў моры.

— Бач, які неспакойны! Чаго заскакаваеш наперад? Пачакай, усё скажу. Праўда, соль знаходзіцца ня толькі ў моры, але і ў зямлі.

— Як гэта яна магла знайсьціся ў зямлі?

— Ня думай, быццам, яна там ляжыць ад пачатку сьвету. Не! Папала соль туды вось як. Шмат гадоў

таму назад зямля нашая ня гэтак выглядала, як цяпер. У некаторых мясцох там, дзе калісь былі даліны, цяпер стаяць горы, там дзе былі рэкі, цяпер іх няма, там дзе было мора, цяпер суха, — зямля. А мо' быў ты на Чартовых балотах?

— Быў.

— Дык і там, за жыцьцё нашых прадзедаў, было калісь возера. А цяпер яно ўжо высахла. Пакуль што і цяпер да сярэдзіны гэтага балота не дабярэшся, — правалішся і затонеш. За якую сотню гадоў, а мо' і другую, дык тамака пэўне будзе ўжо добры луг. Так сама бывае і з некаторымі морамі. Падымаецца зямля, захопіць кусок мора і аддзеліць яго ад рэшты, дык гэты кусок памалу й высахне. Сам разумееш, што вада можа ўцячы ў паветра, а соль, што знаходзіцца ў моры, ня можа і астаецца ў зямлі. Праз нялічаныя гады зямля засыпала гэтую соль так, што яна ўжо цяпер знаходзіцца не на самым вярху зямлі, а глыбей. Вось чаму там, дзе калісь былі моры, заўсёды можна дашукацца солі. Найболей капаюць солі ў Польшчы (каля вёскі Бохня і Вялічкі) і ў Нямеччыне. Адтуль ужо развозяць па ўсіх краёх, дзе няма капальняў солі.

— А ці шмат ляжыць солі ў гэтакіх мясцох?

— Як дзе!... У некаторых капальнях пласт солі бывае такі грубы, што можна лічыць на сажні.

— Ага! Ну, дзядзька, а як выглядае гэтакая капальня?

— Як выглядае, пытаешся? І хараша і ня хараша! На самым версе зямлі, дык стаяць будынкі, у каторых параблены сялібы для людзей, склады выкапанае солі, канторы і г. д. Адным словам, трудна навет даведацца, што пад гэнымі будынкамі робіць многа, многа людзей! І там пад зямлёй, капаючы соль, паробілі як-бы вельмі вялікія пакоі, з харошымі шліфаванымі сьценамі, быццам з крышталю. І ня дзіва, бо соль там выглядае зусім як той лёд, што цяпер возяць з возера ў лядоўню: чыста, хараша, сьвеціцца наскрозь. У Вялічку, капальню солі ў Польшчы, дык вельмі часта прыяжджаюць людзі навет з далёкіх местаў, каб толькі аглядзець тую капальню.

— А ведаеш, дзядзька, што як ты кажаш, дык і мне вельмі ўжо захацелася пабываць хоць раз у гэным палацы, быццам з байкі. Але хачу яшчэ толькі аб адным спытацца: чаму ёсьць розныя гатункі солі і цана на іх не адна?

— Во, во! Добра што, спытаўся ты, аб чым я й забыўся сказаць. Але, ёсьць розныя гатункі солі. Тую соль, што адразу капаюць, або з мора дастаюць і ня чысьцяць, а толькі б'юць у маленькія кавалачкі, назы-



Саля скокаў у Вялічцы.

ваюць чорнай, кухоннай. А каб выйшла сталовая, дэлікатная соль, дык трэба многа заходу. Трэба яе распускаць у вадзе, працэджаваць, чысьціць, тады выгатаваць з яе ўсю ваду і высушыць. Дзеля таго за фунт кухоннае солі менш бяруць у краме, як за фунт сталовае. Ну што, цяпер зразумеў?

— Дзякую, дзядзічка, усё зразумеў. Цяпер, калі пабачу соль, дык буду ведаць, адкуль яна ўзялася.



## Цёмны чалавек і гадзіньнік.

Ішоў дарогаю цёмны чалавек. На дарозе ляжаў гадзіньнік. Цёмны чалавек ніколі ня бачыў гадзіньніка і ня ведаў, што ён знайшоў. Ён стаў і пазірае.

— Ці не гадзюка гэта якая? — падумаў цёмны чалавек, бо ў гадзіньніка быў бліскучы ланцужок, а цёмнаму чалавеку здалося, што гэта хвост вужакі. Ён пырнуў гадзіньнік палкаю. Не, не варушыцца. Нагнуўся, каб разгледзіць, чуе — чыкае! Цёмнаму чалавеку здалося, што ён пытаецца:

— Чый ты? Чый ты? Чый ты?

— Чый я? А во чый я!

Схапіў цёмны чалавек гадзіньнік за ланцужок і разьбіў яго аб камень.

**Загадка.** Ідзець, ідзець, а з месца ня сойдзець.

## Наш край.

*Зялён наш бор, зялён —*
*Над усімі барамі.*
*Добры наш край, добры —*
*Над усімі краямі.*

*З народнай песьні.*

Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз пазнала шчасьце, сьлязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі, іх хаты ў зелені садоў, залочаныя збожжам нівы, шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю раку, што свае воды імчыць ў няведамую даль, і жоўтасьць берагаў пяшчаных, і яснасьць чыстых яе хваль.

Люблю вясну, што ў кветкі, ў зелень прыстроіць цэлую зямлю; на гнёздах буслаў клекатаньне і сьпеў жаўраначка люблю.

Люблю гарачу сьпеку лета, і буру летнюю з дажджом, як гром грыміць, а ў чорных хмарах маланка зіхаціць агнём.

І восень сумную люблю я і першы звон сярпоў і кос, як выйдуць жнеі збожжа жаці, а касьбіты — на сенакос.

Люблю зіму з яе марозам, што вокны прыбярэ ў вузор, і белы сьнег, што ўсё пакрыўшы, ірдзіцца бліскам ясных зор.

Люблю ў пагодную я ночку да позна на дварэ сядзець, сачыць за зорачак дрыжаньнем, на месяц залаты глядзець.

І песьню родную люблю я, што дзеўкі ў полі запяюць, а тоны галасна над нівай пераліваюцца-плывуць.

Усё ў краю тым сэрцу міла, бо я люблю край родны мой, дзе з шчасьцем першым я спазналась і з гора першаю сьлязой.

К. Буйло.

**Прыказка.** Ў сваім краю, як у раю.

# Вясна.

Сонца дзень ада дня ўсё вышэй і вышэй ходзіць па небе; усё цяплей і цяплей саграваее яно зямлю. Плача зіма, ліюцца яе сьцюдзёныя каламутныя сьлёзы. Ня хочацца сьнегу ўступіць месца цяплу і сьвету. З гор зла-



зіць ён у лагчынкі, у балота, у лес. А сонейка так хораша, так ласкава пазірае на зямлю, як матка на сваё дзіця. Заглядае яно ўсюды: і ў бедную мужыцкую хатку,

і на пескавую горку, і ў лагчынку, дзе думаў сьнег знайсьці сабе прыпынак; і ў лес, і на луг. Усюды ліецца яго шчыры сьвет і цяпло, нідзе ня знойдзе сабе спакою сьнег. Многа работы сонейку ў раньнюю вясну. Доўга трэба ваяваць яму з зімою. Многа сьнегу зьесьць яно за дзень, а там, пазіраеш, уночку падымуцца хмаркі, павее вецер з халоднага боку і закрые йзноў усю зямлю сьнегам, ізноў дасьць работы для сонца. Але сонца не бядуе. Прыгрэе ў дзень, і сьнег прападае. І так яно працуе цэлы месяц, пакуль ня згоніць з зямлі сьляды халоднае зімы. І ваюе яно з цьмою і холадам, як ваюе і чалавек са злом і несправядлівасьцю.

**Прыказкі:** Вясною караб вады, ды коўш гразі, — а восеньню коўш вады, ды караб гразі.

Сакавік дрэвам сок пушчаець. (Сакавік называюць яшчэ марцам і кажуць: «Марац шчыпець за палец»).

## Ідуць крыгі.

Моцна сьпіць шырокая рака. Глядзіш, і здаецца, яна мёртва. Але гэта толькі здаецца. Пад ковамі лёду ідзе работа, кіпіць жыцьцё. Жыве рака.



А перавальчыкі не перастаюць бубніць і крычаць пра новае жыцьцё. На лёдзе там і сям паказаліся палонкі, прыгрэтыя сонцам. Варушыцца рака, падымаюцца яе грудзі. Чуе і яна ўжо вясну новага жыцьця. Трасе яна сваімі плячмі, і лёд покае, трашчыць. Не задзержыць ракі гніламу ланцугу расколатага лёду. Прабіваецца яна на божы сьвет, выходзіць з берагоў, ломіць і крышыць усё, што хоча стрымаць яе волю.

А крыгі, астача сьцюжы, з глухім шумам і выцьцём, як дзікія зьвяры, злосна скрыгічуць старымі гнілымі зубамі, як праціўнікі шчасьця людзкога.

**Прыказка:** Красавік ваду падбіраець, красачкі пушчаець.

Май—коням сена дай, а сам на печ уцякай. (Так кажуць, калі май, іначай травень, бывае сьцюдзёны).

## Вясна, вясна красная!

... Вясна, вясна красная! На чым, вясна, прыехала? На сошцы, на бароначцы!

А на высокіх гарах — праталінкі, а ўніз к многаводнай рацэ бягуць цуркі звонкія, на сонейку блішчаць.

А ўверсе — неба сіняе, чыстае, а ў паветры сьвежым, веснавым жаўранка нявідны ў далі: „Цюр-цюр!... Цюр-цюр-цюр-цюрлі-рлі...“

Вясна, вясна красная!

Астатнюю губку на кросенцах ткальля - дзяўчына перад сьвяткамі блізкімі: „Тах-тах! Трах-лях!“ А зірнець-зірнець у ваконца на сонейка веснавое: „Вясна, вясна красная! А губачка астатняя...“ У лясок песьні пяяць, красачкі ірваць, на кірмашы хадзіць, вясельлі гуляць.

Вясна, вясна красная!...

М. Гарэцкі.



# Прылёт птушак.

Ціхая раніца. Сонейка толькі што ўзышло. У полі яшчэ ляжыць сьнег. Толькі ўзгоркі чарнеюць. Лужынкі сьцягнуліся за ноч лядком. Але ўжо чуваць — вясна, і ўсё пазірае павеснавому.

Вышаў маленькі Янук на двор.

Вясёла яму, лёгка на сэрцы. Прыгрэе зараз сонца, добра будзе гуляць на дварэ.



Што гэта звоніць у небе тоненькім срэбраным званочкам? Так хораша, так міла, — душа зámірае! Янук прыслухаўся. Ня відаць нічога, а ў небе ціха разьліваецца тоненькая песьня, як грае хто на срэбранай дудачцы. Гэта жаўранка! І так вясёла Януку, здаецца, каб льга было, пацалаваў-бы мілую птушачку. Галубка! яна ўжо вярнулася з далёкае старонкі ў наш бедны край і ў ясным небе заліваецца дзіўнаю песьняю.

— Татуля! татуля! чуеш жаўранку?

Бацька Янука прыслухаўся.

— Але, жаўранка. Ну, зараз, брат, і шпак прыляціць, а там і бусел, а за ім і ўсе птушкі.

Рад Янук, што першы пачуў ён жаўранку, і пабег хваліцца сваім сябрам. Дзеці выходзілі на двор слухаць першую песьню вясны. І ім было вясёла.

— Эх, дзеці! Ня скора яшчэ вясна, — казаў хто-небудзь старэйшы.

Дзеці ня любілі слухаць такія рэчы. Яны любяць вясну, яны любяць, каб гаварылі ім аб вясьне. А часамі і запраўды захаладае — дзеці кажуць: „Зусім не халодна; ня толькі не халодна — горача навет.“

Кожную новую госьцю-птушку дзеці сустракаюць з радасьцю.

Цераз некалькі часу прылятае шпак. Халодна, туман, а ён мала дбае. Пяе на ўсё поле вясёлыя песьні, седзячы дзе-небудзь на голай бярозе, як-бы й холаду яму няма.

У канцы сакавіка ўжо зьбіраецца шмат птушак. У лесе пяюць дразды, лясныя жаўранкі, а па балоце важна прахаджваецца бусел. Па стрэхах бегаюць шустрыя плiскi i трасуць сваiмi даўгiмi хвастамi.

А выйдзеш у вечар на двор, — крычаць качкі, жалабна стогнуць кнігі; як у кадушку грукае нейдзе на возеры бугай. Розныя галасы поўняць паветра, усё пяе і радуецца.

**Загадкі.** Хто так пяе: „Шатавіла матавіла — панямецку гаварыла, патурэцку заварачавала; сьпераду шыльцавільца, спадыспаду палатно, а зьверху аксаміт!“ (Ластавачка).

А хто гэтак пяе: „А ў лядзе, лядзе чалавек сала пёк-пёк-пёк! Круціў-круціў-тррр! Сала кап-кап, — кусь! (Салавейка).

## Ты, зялёная дуброва.

Ты, зялёная дуброва,
Сон скідай, расьцьвітай,
І шумеці добрай славай
Ня кідай на ўвесь край...

Гамані, расходзься шумам
Ад мяжы да мяжы,
Ўлі надзею вольным думам,
Аб усім раскажы.

Казку быўшых песнапеваў
Распалі, разагрэй;
Разьмяці управа, ўлева
Сухацьвет, сухавей.

Я. Купала.

## Пры скаціне.

Тру-гу, тру-гу! ўставай,
Хто жыў, адзін, другі,
Вароты адчыняй,
Скаціну выганяй,
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Тру-гу, тру-гу! ідзі
На поле, на лугі,
Скацінка, і глядзі,
Друг дружку не бадзі.
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!



Тру-гу, тру-гу, дзяры
Травіцу з-пад нагі,
Даждаўшыся пары,
Нап'ешся ты вады.
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Я. Купала

## Раніца.

Гляньце, дзеткі, у ваконца —
Ды пара ужо ўставаць..,
Як прыгожа там бяз конца!
Сорам, дзеткі, позна спаць.

Заглянула сонца ў вочкі,
Дзень прышоў — даволі сну!
На сьвет гляньце, галубочкі,
Ўсе вітаюць там вясну.

Пчолкі выпаўзьлі з калоды,
Пачалі зьбіраць мядок,
Шпак вартуе агароды
І вішнёвы наш садок.

Зелянее траўка ў полі,
Ў небе птушачкі пяюць...
Эх, зімы ня будзе болей!..
Хутка кветкі зацьвітуць.

Вы зірніце у ваконца,
Палюбуйцеся хаця:
Колькі волі, колькі сонца,
Колькі новага жыцьця!

Ўстаньце, дзеткі, пойдзем ў поле,
Сьпевы слухаць, кветкі рваць:
Ў хаце сумна, бы ў няволі...
Ўстаньце, дзеткі, годзе спаць!

М. **Чарот.**

## Завінуліся людзі гараць.

**Сплылі** ўжо астатнія крыгі па рацэ. Пагрымеў гром **і пашча**паў пасохшую, трошку ліпкаватую зямельку на **густое** павучыньне, даўшы людцам знак, што і гараць **пара.** Хоць у полі ў аборках яшчэ поўна вады, але тра**вяныя касьнікі** пад ёй ля берагоў добра зазеляненеліся. Над **балотным** купнікам, у веснавым паветры, ад самага рань**няга раньня** купаюцца шпаркія кігікаўкі з сваім нясьці**ханным і** крыклівым: кі-гі! У лядзе-ж, сярод пнёў і ле**ташняга** карчэўя, забуяла той парою белая буквіца сьвя-

жусенькімі бутонамі... і жоўтыя краскі зацьвілі! У полі яравым абы-дзе й таўкачыкі растуць. Лес папукаўся. Завінуліся людзі гараць.



Прыемна йці за плужком па сьвежай баразёнцы, а злашча—калі побач лес зелянееець першым, ліпкім лісьцейкам. На дрэвах птушачкі пяюць, у балоце жабы кумкаюць, сонейка-ж як прыгрэе, дык па лагу траўка прост пад вокам прабіваецца. Усё жывое парыцца і лезець угару на сонца. Падзьмець ціхі, цёплы ветрык, і з вербалозу, жоўценькі, як вуцяняткі, пух сыплецца. Хараша! Хораша! Шуміць зямля, але ціхусенька на сэрцы.

М. Гарэцкі.

## На ніве.

— „Гэй, мой конік! гэй, мой сівы!
Ну, яшчэ маленькі!
Варушыся! гэй сьмялей ты,
Конік мой худзенькі!“

Ў полі зранку за сахою
Земляроб гукае,
Сіўку-друга ў цяжкай працы
Просіць, панукае.

Сам бяз шапкі, босы ногі,
Грудзь яго раскрыта.
Б'ець каменьне аб нарогі,
Скрыгаець сярдзіта.

І шуршаць пяскі буйныя,
Як жарства рачная,
Ходзіць подскакам ў дрыготках
Сошанька крывая.

Земляроб ідзе з павагай,
Мерна, крок за крокам;
Доўга вузкая палоска:
Не акінеш вокам.

Пройдзе боразну араты,
Сошкай патрасае,
Сам назад ўвесь падаецца —
Конік службу знае:



Ён заходзіць без панукі,
Без каманды спраўна,
Ажно глянуць на сівога
Люба і забаўна.

Быццам знае сівы конік
Думкі аратая,
І яго панукі-крыку
Служка не чакае.

А араты, завярнуўшысь,
Спыніць друга-сіўку,
Слоўца ласкавае скажа
І паправіць грыўку.

Гладзіць коніка па шыі,
Мух дакучных гоніць,
Як-бы з самым лепшым другам
З конікам гамоніць.

— „Змардаваўся! супачынь, брат,
Пастаі, пакурым.
Вератнік мы гэты скончым,
Спачываць патурым!“

Конік трэцца галавою
Зьлёгка аб кашулю.
Супачыўшы, зноў ён цягне
Сошаньку крывую.

А араты, задумлёны,
Узноў ідзе ступою.
Моцна, моцна іх зьвязала
Праца за сахою.

— „Гэй, мой конік, гэй, сівенькі!“ —
Носіцца па полі.
Конік, сошка і араты
Мерна йдуць паволі.

Пазіраеш, і здаецца,
Што адно ў іх цела,
І душа адна, і думка,
І адно ў іх дзела.

Я. Колас.

**Загадкі**. Увесь сьвет корміць, а сама ня есьць (Саха, **плуг**).
Ног многа, а з поля на сьпіне едзе (Барана).



## Вясной.

Грэець сонца, сьвеціць сонца,
Блішчаць кветкі і трава.
Ўсюды радасьць, гул бяз конца,
Пяюць жабы: „Ква-ква-ква!“
Шэпчуць дрэвы. Журчыць рэчка.
Квокчуць куры на дварэ.
Скок і скок на луг авечка
Раздаецца: „Мэ-мэ-мэ!“
Дзеткі-птушкі вядуць гулі
На бярозавым суку.
Вясну кліча птах-зязюля,
Зычна кліча: „Ку-ку-ку!“
Матылёчак, як вясёлка,
Мігаціць пад вешні шум.
А над краскай гудзіць пчолка,
Баець байкі: „Зум-зум-зум!“
Як жывыя—гай, шнурочкі.
Мёдам пахне ўся зямля.
А хлапчына на лужочку
У сьвісьцёлку: „Тра-ля-ля!“



Ясакар.

## Яблынька.

(Народная песьня).

Ды ехаў я, ехаў міма гай зялёны,
Міма гай зялёны, міма сад вішнёвы.

Ды бачыў я яблыньку!
Белым цьветам уся зацьвіла,
Заруменіла бялюсенькая.
Я-ж яе цьвету не зачапаў,

За галінку яблыньку я ня браў.
Ды пачакаю-ж я цёплага лета,
Няхай яблынька пазрэе,
Няхай яна лецейкам пасьпее.



Ой ехаў я, ехаў міма гай зялёны,
Міма гай зялёны, міма сад вішнёвы!

## Мой сад.

Люблю мой сад, як расьцьвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цьвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Цётка.

## Красачкі.

(Народная песьня).



Ой выйду я ды на ганачкі,
Як гляну я ды на красачкі:
Ці ўсе мае краскі йграюць?
Іграйце, красачкі, іграйце,
Ды хораша расьцьвітайце!
Мне вас, красачкі, ірваці
І ў вяночак увіваці.

# Хмель.

(Народная песьня).

Дзеўкі хмеля садзілі,
А садзячы гаварылі:
— Расьці, хмель, высокі,
Караністы, глыбокі,
А шышачкі ды па шапачцы,
А ліськікі па лапатачцы.
А што, хмелю, змовіш?
— Калі-ж мяне ды ня ўварыце,
Дык вы-ж мяне ды ня ўдзержыце
Ні ў дубовых бочках
Ні ў зялезных абручочках!

**Загадка.** Бяз рук, бяз ног, а на дрэва лезець.

# Пачатак лета.

Надвор'е харошае, сонейка зьзяе, аб ночы прайшоў цёплы дожджык; зямля выкупалася, напілася вады — усё расьце, бы на дрожджах. От так прылажы вуха к траве, дык і чуваць, як яна расьце. А кветкі цьвітуць, бы жар гарыць. Ад іх так цяплом і пыша, і такі пах ідзе, што от усё-б нюхаў і ніколі-б не нанюхаўся. З рана выпала мядовая раса дый разьлілася па кветках, па траве й па зямлі, быццам узяў хто ды сытою й апырскаў усю землю. Сонейка паднялося ўгору ды так прыгрэла, што з зямлі аж пара клубам пашла, паваліла бы з гаршка. А сонейка ўсё грэе, усё пячэ. Раса высахла, а мёд так і астаўся на траве ды на кветках. Чмялі, пчолы й матылі лятаюць, гудуць над кветкамі ды ссуць мёд.

# На сенажаці.

Са-ка, са-ка, са-ка, са-ка! — раздалося ў паветры, а посьле чутно: цс-сык, цс-сык, цс-сык! — і чалавек двац-

цаць здаровых мужчын з ахвотаю касілі густую і сочную траву. Незадоўга шнур іх расьцягнуўся, і кожын, не сьпяшаючы, памаленьку пастугаў уперад.

Сонейка паднялося ўжо вышэй, зрабілася меншым, а заместа харашыні, якая была распасьцерта на балоце, відаць толькі радочкі скошанай травы. Пах падвяўшых кветак разьнёсься ў паветры і, здавалася, запоўніў увесь сьвет.

На зьмену касцом прыйшлі паўглядацца на кветкі дзяўчаткі з граблямі, і відаць, што кожная ўздыхнула, што ня будзе больш у гэтым леце такой харашыні і ня будуць яны плясьці вянкоў з мядуніцы. Стаўшы адна каля аднае, пайшлі яны гуляць грабелькамі па балоце, і здавалася, што гэта не дзяўчаткі, а тыя белыя русалачкі, пра каторых нам матуля маленькім расказвала.



Як толькі пакончылі раскідаць па першым пракосе і занялі ад лесу па другім, штось перасталі гаварыць, як змовіўшыся. Але зараз хтосьці папрабаваў гойкнуць, ці ёсьць гук, за ім — другі, трэці; пачуўшы, што лес паўтарае іх голас, разам завялі песьню. І палілася яна чыстая, бязьмерная, як рака, а лес і ўсе птушкі ўслухаліся ў гэту харашыню.

Цяжкі бусел, а з ім і яго сябры, падняўшыся пад абалокі, плавалі, слухалі гэтую песьню і радаваліся з летняга дзянёчка.

Язьмен.

## Касец.

(Народная песьня).

На балоце касец косіць,
А прылёгшы галосіць.
Ды чаго касец плачаць?
Ці яго каса тупа,
Ці яго жана скупа? —

Прынясла абедаць:
Хлеба скарыначку,
Цыбулі пярыначку,
Солі драбіначку...

## Сонейка.

На падворку, дзе сонейка цалуецца з залатою саломкаю, порскаюць рабенькія парасяткі, з гладзенькай шэрсткаю. Жартуюць, клычуць саломку. Піскнуць, брыкнуць, схопяць жменьку ў зубы іківіль-ківіль! ува ўсе бакі. Рохкаець іхная матка ў сьвінарцы, каб ішлі туды, а ім хочацца гуляць на сонейку.

— Вуль-вуль-вуль... — чуецца пад страхою прыемнанегае галубінае вульканьне.

Вострым лётам рэжуць чыстае, лёгкае сіняе бяздоньне ластаўкі. Раптам ныраюць яны ўніз, а тады стрэлкаю кідаюцца ўбок, аж і ўзноў угору. Перабіраюць шылаватым крыльлем ці распусьцяць яго і шыбка плывуць, як-бы й ня ведаюць, куды яшчэ кінуцца.

У буйным гародзе яшчэ вісіць на бела-шызых макавых лісьцінках чысьценькімі капачкамі ранішняя роска. А гарбурзіньне ўжо млеець жаўтавым цьветам, узьбіўшыся аж на пляцень, абы толькі вышэй на сонца. І садзіцца руплівая пчолка на гарбузовы цьвет, набіраець жоўтага пылу на свае заднія ножкі.

М. Гарэцкі.

## Зязюлька.

(Народная песьня).

Кукуй, зязюля, да Яна, —
Па Яне ня будзеш,
Бо выплыве ясны колас,
Займе зязюльцы чысты голас.
Ляціць зязюлька ў лясок,
Там будзе кукаваць,
Ды нам ня будзе чуваць.

# На начлезе.

Не малады ўжо чалавек Тамаш Чучка, і не яму-б езьдзіць на начлег. Праўда, начлег не такая ўжо цяжкая рэч: але, што ні кажы, усё-ж такі старым касьцям куды лепей было-б ляжаць на сяньніку каля печы. Але хто-ж паедзе? Якуб можа гэтымі днямі прыедзе з плытоў, а пакуль што трэба зьбірацца. Падапрануўшы кажушок і падперазаўшыся путам, Тамаш вышаў з хаты.

На вуліцы ўжо тупалі капытамі коні, бражджалі званкі сіпаватымі галаскамі. Начлежнікі ехалі шумна. Сярод іх было колькі дзяцюкоў, а найболей усё былі дзеці; былі тут і дзяўчаты.



Тамаш падвёў каня да плоту, каб сесьці конна. Каню, відаць, не падабаецца нясьці на сабе гаспадара, і ён, як толькі Тамаш нарыхтуецца сесьці, зараз-жа ўцякаў ад плоту. Тамаш крычаў на каня, узноў цягнуў яго да плоту, пакуль сяк-так не ўшчарэпіўся конна.

Начлежнікі ўжо ад'ехалі далёка, як Тамаш выяжджаў з двара.

Начлежнікі выбралі высокі, сухі груд, каб можна было прылегчы і разлажыць агонь. Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў, бо луг быў голы, як бубен.

Спыніліся начлежнікі, спыніўся і Тамаш, ён спутаў свайго коніка, павесіў яму на шыю перавясла, каб заўтра скарэй знайсьці свайго каня, і прылёг ваодаль ад гэтае маладое галды.

Зоры, як божыя матылёчкі, трапыхаліся, дрыжэлі, і іх блеск пераліваўся дзіўнымі колерамі нязьлічаных агнёў. За лугам чуць-чуць выступала сваім чорным абрысам зубатая палоска яловага лесу, а над ім мігацелі чырвоныя істужкі трывожных зарніц.

Кругом было так спакойна, так ціха і згодна, што душа мімавольна адрывалася ад зямлі і нясласа ў невя-

домую высь, каб зьліцца з хараством, з безграпічнасьцю гэтага таёмнага, неразгаданага сьвету.

Тамаш лёг на сьпіну, падлажыўшы пад галаву рукі. Доўга ён ляжаў гэтак і разважаў у сваіх думках. Аб чым думалася, ён і сам не адказаў-бы, каб яго хто папытаўся аб гэтым. Думкі самі йшлі і праходзілі, бы тыя лёгкія хмаркі на небе, ішлі і раставалі, як сьняжынкі.

А там, каля агню, варушыліся і бегалі дзеці, адтуль нясьліся песьні і покрыкі. Памалу ўсё супакоілася. Толькі сьмех, дружны і закатны, гаварыў, што каля агню яшчэ ня сьпяць.

Т. Гушча.

## Гарачы дзень.

Быў ясны дзень, гарачы дзень,
І было ціха, хоць сей мак.
Скаціна зьбілася у цень,
За ёй пастух праміж сабак.

А лес лістком не калыхне,
У гушчы птушкі селі спаць,
І рыбкі ў рэчачцы на дне,
Пад куст хаваючысь, стаяць.

Духота нейкая вісіць,
Нявольны сон усіх бярэ,
І толькі каня просіць „піць!“ —
Кружыць над лесам угарэ.

Я. Няслухоўскі.

## Хомкін сон.

Загнаўшы коні ў балота, хлопчыкі пайшлі ў ракі. Пад ветрыкам цёплае паветра абдавала іх, як першы душок у лазьні Краскі—белы рамон, ражовенькае мыльца, навет жоўты балотны казелец (люцік)—быццам пасьмяглі ад гарачага прыпёку. Толькі зрэдку радасна калыхаліся

яны пад тым сьвяжэйшым абдаваньнем і ўзноў хілілісь ад зьнямогі. Конікі і ўсякія іншыя скакунцы і казюлькі бяз концу зьвінелі і бразкаталі сваім нявідным хорам, рассыпаным у пожні, на якую ўзьбеглі цяпер хлапцы. Скрозь быў аднатонны шум, як быццам зьвінела многа бразкучых і дрынчатых кос пад кляўцом на бабцы ў касцоў. Ня толькі ніцы лазьняк, але ракіты і навет альшэўнік ніжэй хіліліся з берага к вадзе, цёплай і ціхай у зьвілістай рэчцы. Вось ужо й тыя віркі, дзе ў пячурах, пад карчамі, пахаваўшысь у халадку, сядзяць ракі. Хлопчыкі пабеглі навыперадкі. На бягу расшпіліваліcь, адпяразвалі цясёмкі і зьдзявалі сарочкі.

Хомка троху астаўся. Яму, праўду кажучы, было страшнавата лезьці шчупаць ракаў, бо яго напужаў бацька, што з пячуры, заместа рака, можна выцягнуць сьлізкую кусашчую вужаку. Ды ўсе так лавілі і цікава іх лавіць: запусьціць, гэтак, голую руку па шыю ў халодную, у пячурах яшчэ халаднейшую ваду, пад самае альховае карэньне, зашчупаць сярод каравага карча, у зямлі, цьвярдога старога рака, схапіць яго за броню, каб ня ўкусіў кляшнёю, і цягнуць... Выхапіць з вады і кінуць яго на бераг, на траву-мураву, гдзе ён будзе шавяліцца й пяціцца.

Хомка разьдзеўся і зьвязаў сарочку й штаны цясёмкаю ў камочак, паклаў іх з аброцяю каля сябе і сеў на беразе; ногі спусьціў у ваду, каб патроху прызвычаіцца к вадзе. Сьцюдзенавата левай назе... З-пад пахі пахла ледзь чутным, але войстранькім пахам поту. Сонечнае цяпло абліваець цела, з маленькай радзінкаю на баку, сваім ня жаркім цяпер павевам. Вадзень гудзіць дый цікуець сесьці на самую сьпіну. Нагам так-жа добранька ў вадзе... ды нешта ўсё халадней а халадней, чым усяму целу, а найбольш зябнець левая нага. Вот зараз Хомка кінецца ў ваду і паплывець...

— Уставай, Хомачка! — будзіць матка; — зараз табе ў школу пара, абувайся!

Хомка прашнуўся, схаваў пазябшую левую нагу пад дзяругу, і шкода яму стала, што гэта-ж толькі сон. Не скакунцы зьвіняць на сонейку, а завея-замятуха люта

шугаець на марозе. Матка прадзець, бацька лапці пляцець, а яму трэба ўставаць і зьбірацца ў школу. Ды ўспомніўшы, з якой радасьцю чыталі ўчора ў клясе „Лета“, Хомка павесялеў і сьмела вылез з-пад цёплае дзяругі.

М. Гарэцкі.

## У прыпар.

Прыпарыла,
Нахмарыла,
І ўдарыла.
— Сьвяты Ільля!..
Маланка ўраз зьявілася,
Мільгнула і звалілася,
І дожджыкам аблілася
Гарачая зямля.
Кроплі разам, згодна, жвава,
Пояць ўсё, што хоча піць:
Збожжа, дрэвы, кветкі, травы, —
Вулкі хочуць затапіць,
Б'юць у стрэхі, мыюць шыбы,
Мыюць хаты, мочаць сад,
Ў рэчцы спожыў маюць рыбы...
— Хто ў прыпар дажджу ня рад?
Сьцішаецца,
Зьмяншаецца,
Ўнімаецца.
— Няма!
І слонка паказалася,
Маўляў, само купалася;
Прыемна усьміхаецца,
Блішчыць, пераліваецца,
Яскрава адбіваецца
На траўцы, на лісточку,

У рэчцы, у равочку,
На вулачцы, у садочку.
Зямля ўздыхае поўнымі,
Шчасьлівымі, чароўнымі
Грудзямі ўсіма.

А. Гарун.

# Зажынкі.

Зажынаюць найчасьцей у суботу ўвечары. Гаспадыня бярэць хлеб-соль і з усімі жнейкамі ідзець на ніўку. Яна зразаець жменю жыта, якая называецца зажынам, і кла-



дзець яе к хлебу-солі, а тады ўсе жнеі разам нажынаюць першы сноп. Нажаўшы па колькі снапоў, усе садзяцца на пастаці і з рук гаспадыні каштуюць хлеба-солі. Запяяўшы жніўную песьню, бяруць першы сноп і йдуць дамоў. Пяюць песьні ад нівы да самае хаты. А ў хаце тым часам прыбрана, як у сьвята. На стол, засьцелены

белым абрусом, гаспадыня кладзець прынесены ёю з поля хлеб-соль і зажын. Сноп ставяць у кут за сталом, пад белым рушнікам. Уся сямейка садзіцца за багатую вячэру і сьвяткуець зажынкі. У кожнага ў думцы: каб ніўка была ў полі капамі, а ў гумне стагамі, каб на таку быў умалот, а ў дзяжы падход.

Даўней на зажынках была музыка й скокі. На гэтае вясельле мог прысьці пагуляць у добрага гаспадара кожны, хто працуе на зямельцы, хто кладзе сваю сілку на ніўку.

## Жніўная песьня.

— Дабранач, шырокае поле, ядранае жыта!
— На здароўе, жнейкі маладыя, сярпы залатыя!
Прыхадзіце ка мне заўтра рана,
Як сонейка ўзыйдзé, расіца спадзе.

**Загадка.** Маленька, крывенька, а усё поле пераскачаць (Серп).

## На пастаці.

На пастаці некалі стаяці.
Прыказка.

Жніво. Раньне.

Як сьцяна, стаіць сьпелае буйное жыта, схіліўшы важкія каласы. Блішчыць пэрламі раса і патроху буйнымі круглымі сьлязьмі капаець з кожнага коласа і са стромкага, тонкага залатога сьцябельля. Тхнець сьвяжынай зямля сонечнай раніцы.

Там а там сінеюць чароўна-прынадныя галоўкі-красачкі сьціпленькіх васількоў. Трыпутнікам, гугалем і мышыным гарохам парасла высокая мяжа.

Падзьмець цёплы, і густы, і лёгкі ветрык,—і ад жытняй сьцяны ільлецца і плывець арамат упрэлай палявой зямлі і ціхамірнай, няпрыкметнай румянкі, сыплюцца ў сем колераў вясёлкі росныя пэрлы, дыхаючы ўгору ладан цяплыні.

Чалавека з галавою хаваець бязьмерная, а шырокая, а далёкая жоўтая ніва!

Шарпаець пад лёгкімі лапцікамі колкае і яшчэ поўнае соку іржышча. Дзятліна ў ім зелянеець патройнымі лісьцікамі. Клякочаць скакунец-каваль, гудам гудзіць сінепазлачоная муха. Трапыхаецца і снуець свой лёт туды-сюды над жытам жоўтая мятлушка.



Нечыя жнеі ўжо на пастаці. Лётаюць па-над жытнім морам каласяныя жмені і хаваюцца ў ім. Уздоймецца галава ў белай намётцы, блісьнець на плячы гібінка сярпа, зацьмянелыя рукі круцяць вязьмо. І зрок жняі з задумаю ляціць туды, дзе дальні ўскрай шнурочка: ці многа-то копак дасьць сёлетняя ніўка? Схавалася белая намётка, — узьмятнулася чырвоная хустачка дзяўчыны. І дзьве жмені, гнуткія, шумацячыя, мятаюцца й мятаюцца над нівай.

Вуха з радасьцю ловіць аднастайную музыку-шаптаньне сярпоў: хруп-хруп! хруп-хруп! І той шомат, калі складаюць снапы. Граець серп!

М. Гарэцкі.

Чароўна-прынадныя — якія чаруюць і вабяць погляд сваім харастром.

Сьціпленькі — скромны.

## Жніво.

Насьпелая постаць шчасьлівых пасеваў,
За вёскай, на сонным лясоў рубяжы,
Зьсівелы ўжо колас схінула к мяжы
У сумным пытаньні: „Дзе, жнеі мае вы?“
І жнеі зыйшліся. — Направа, налева,
Кладучы ў снапы каласы-старажы,

Зашасталі глуха сярпы, як нажы,
Пад жніўныя вечна-старыя напевы.
Спагадная нудная песьня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах белага коласа нівы,
Плыве гэта песьня ка мне і заве.

Я. Купала.

## Летні дзень.

Быў гарачы летні дзень, адзін з тых дзён, аб каторых кажуць: варыць, як у гаршку. Далёкая цёмная палоска лесу абвязалася наміткаю сіняватае смагі, як маладзіца хусткаю, каб ня так пякло сонца. Падыхаўшы зраньня вецер сьціхнуў зусім; і здавалася, што ён сьціхнуў ня дзеля таго, што гэта так трэба, а зумыслу, на злосьць усім тым сілам, да каторых належала не даваць у зьдзек гарачыні зусім распаранае зямлі і ўсё яе стварэньне. Адным словам, здавалася, што вецер зазлаваўся, як той дзядзька Пілiп, каторы бачачы, што ён адзін толькі працуе ў хаце, а ўсе туляюцца ад работы, як сабакі ад мух, і што адзін ён нічога ня ўскурае, — плюнуў, кінуў работу і лёг у халадок. І ціха было ўсюды. Маўчаў луг, маўчала поле, на вуліцы, ў сяле ня відаць было нікагутка. Толькі зрэдка перабягаў з надворку ў панадворак сабака, высалупіўшы язык і шукаючы лепшае схаванкі ад мух.

Т. Гушча.

## У грыбох.

Два браты, Алесь і Пятрусь, папрасілі сваю матку, каб заўтра пабудзіла іх рана, як чуць толькі стане на сьвет займацца. Хлопцы надумаліся пайсьці ў грыбы. Яшчэ з вечара загатавалі яны сабе лапці, кошыкі, замест ножыкаў — зялезцы (адразаць карэньчыкі баравіком). Нажоў не набярэшся дый на лясьніка можна налучыцца.

Прыгатаваўшы ўсё, як мае быць, хлопцы павячэралі і ляглі спаць. Спаць не хацелася. Чорныя баравікі так і стаялі ў іх вачох. А на заўтра, чуць толькі пабялелі на небе зоркі, хлопцы ўжо вышлі з дому.



А слаўна такі ўстаць да сонца, як прырода толькі што пачне прачыхацца ад кароткага летняга сну, выйсьці на прастор і прайці па расе на чыстым паветры! Дзень чуць-чуць занімаецца. Над лесам і полем яшчэ ляжыць цемната. Тонкая посьцілка белаватага туману ціха ўздымаецца над лугам. Неба на ўсходзе чырванее. Раньнія жаваранкі затрапяталі ў небе крыльцамі, і льлецца іх вясёлая песьня.

Хлопцы ўвайшлі ў лес.

Верхавіны высокіх хвой ужо залаціліся першымі касамі сонца, ціха стаялі, не варушыліся. Негдзе высока над імі ці на іх верхавінах зьвінелі мошкі. Птушкі шчабечуць на ўсе лады. Пяе дрозд, пераклікаюцца сойкі, крычыць жаўна, стукае дзяцел па дрэве сваім крэпкім дзюбам. Далёка-далёка, у гушчары яловага лесу, варкуе (брукуе) галуб.



Па дарозе нашым хлопцам пападаліся ўсякія грыбы: казьлякі, асавікі, лісіцы, сыраежкі і другія. Але хлапцы

не глядзелі на іх! іх цягнулі баравікі, або добрыя грыбы, як іх называюць. Вось хлапцы прышлі ў палянкі, малады хваёвы лес, гдзе летам бывае так многа грыбоў. У лесе яшчэ нікога ня было, і хлапцы былі рады, што яны прышлі першыя. Перад тым, як разысьціся, яны абраілі ўсё: куды ісьці, ня гукаць моцна, каб не пачуў іх лясьнік, а толькі ціхінька сьвістаць і старацца ня спускаць адзін аднаго з вачэй. Але ўсё гэта забылася, як толькі сталі хлопцам пападацца баравікі. Вясёлы крык у іх сам вырываўся.

— Пятрусь! Вось слаўнага знайшоў баравіка!

Пятрусь бег да Алеся, і баравіка клалі ў кош.

Потым баравікі сталі пападацца цэлымі кучамі. Сядзіць адзін, як капыт, пасярэдзіне, а ўвакруг яго штук дзесяць малых. Іншыя зусім былі ў зямлі, пакрытыя пясочкам і калюшкамі, і толькі чуць-чуць значныя горкі зямлі, каторыя ўздымаў маленькі баравічок, давалі знаць, што там—грыбы. Часам каторы-небудзь з хлапцоў наўперад знаходзіў маленькага баравічка і толькі, як ставіў на зямлю кош, каб узяць яго, тагды ўглядаў другога, большага. Хлапцы сьмяяліся і бралі наўперад „бацьку", як называлі яны самага большага баравіка, потым меншых.

Яшчэ сонца было нізка, чуць толькі пасьпела падняцца над лесам, а ў хлапцоў, ужо былі поўныя кошы баравікоў. І яны, вясёлыя і шчасьлівыя, панясьлі грыбы дамоў.

## Жніўныя ночы.

Жніўныя ночы ў нас дужа прыгожыя, асабліва, як дзе дрэвы лісточкамі ў цемні варушаць. Цёпла, ціха, там-сям зорачка блісьнець... З поля, дзе жыта пажатае, прыемны супакой так і плывець у душу. І антонаўкамі з саду ароматна пахнець.

М. Гарэцкі.



## Дажынкі.

> Ніўка, ніўка, аддай маю сілку на другую ніўку!
>
> Усё лета спарня на ніўцы была, а сяньня спарня дамоў пашла.
>
> *Прыказкі.*

На дажынкі гаспадыня гатуець багатую вячэру, каб пачаставаць жнеяк за іхную працу. Яна прыбіраець чысьценька ў хаце. Гаспадар прыпасе на пачастунак жнейкам мёду ці цукерак.

Жнеі, дажынаючы ніву, пакідаюць нязжаты кусток жыта — столькі, як зьвязаць у вадну жменю. Гэты кусток называецца спарышом, або спарнёю (ад слова спор, запас). Дзяўчына, якой усе жнейкі прысудзяць гэтае права, завіваець спарышу бараду, значыцца — аднэй саломінкаю зьвязвае тую жменю ля самага калосься, а тады ўскладае на галаву зьвіты жнеямі з жыта вянок. Абступіўшы яе, жнеі йдуць дамоў, пяючы песьні аж да самае хаты. Тут дзяўчына зьнімае вянок і ўскладае на галаву гаспадару. Гаспадар вядзець усіх за сабою ў хату. Гаспадыня вешаець вянок у кут за сталом. Тады ўсе садзяцца за багатую вячэру, пасьля якой часам бывае музыка й скокі. На дажынкі выбіраюць вальнейшы ад цяжкой працы дзень або дзень перад сьвятам і згукаюць гасьцей.



## Спарышовая песьня.

(Народная песьня).

Хадзіў спарыш па вуліцы,
Ды ніхто-ж яго ў хату ня просіць.
Проша, спарыш, у маю хату,
У маёй хатцы ўсё ў парадку,
Сталы накрыты, кубкі наліты!

# Дажынкі.

(Народная песьня).

У нас сяньня вайна была:
Усё жыта зваявалі,
Усё жыта пажалі!
Ды мы жалі — ня рубалі,
Як мяцёлкай падмяталі,
Пажалі, павязалі,
У копачкі пастаўлялі,
У торбачкі паскладалі!

# Канец лета.

Ці давадзілася вам праяжджаць па вёсцы ў канцы лета, калі нітачкі прыгожага засмучэньня ўжо снуюцца нявідна і незлавіма ў цёплым паветры паўдня, ужо вяшчуюць восень?

Ціха ўсё, бязмоўна і бязьлюдна. Шэрым ціхамірным пылам пасьцелена пустая вуліца. На гародз 'эза абціснутым плятнём, схіліў на сонца махратую жоўтую кружэлачку высокі сланешнік. Абсыпаець чорна-чырвоныя ляпёстачкі добры мак, ужо запозны, з дасьпелымі мачынкамі ў зубчатых карунках, буйнейшымі і дробнымі, на тонкіх шызых сьцебялінках.



Пакуль хлеб у руках, патуль хлеб у зубах.

Дзеці за доўгі дзень насеклі з крапівы і макрыцы сечанкі сьвіньням; споўзалі ў рэпу і схадзілі ў яблыкі; пакачалі кацелку і пабілі ёю шыбу; паскрыгаталі, аглушаючы, калёскамі па вуліцы, возячы малога; пабіліся, улашчыліся; дапалі да паніклага сланешніка і неўзнаку выскублі паўкружэлачкі; накапалі ў ямачцы гліны, у чарапочку замясілі і на ўслончыку наляпілі „пірагоў“, конікаў і бязхвосгых цюцек і пакінулі на сонейку сохнуць.

Цяпер зрабілі яны з паловак мачын лыжачкі і будуць гуляць „у госьці“. Натрусяць у падалы кашулёнак маку, будуць браць яго патрошку тымі лыжачкамі і паднасіць „гасьцём“, частуючы: — „Сваточак! зрабі ласку“... — „Кумачка! ня грэбуй нашым хлебам-сольлю“... І ўсе перабудуць гасьцямі і гаспадарамі па чародзе і бяз крыўды. Пасьля маку, калі яшчэ не дакучыць, пачастуюцца „перапечкамі“; дзеля таго ёсьць семя праскурак, несамавітай травіцы, якая затое густа і ў дастатку расьцець на вуліцы пад плотам і пад сьцяною, разам з сабачаю мятаю. Ды лепей нагуляцца добра ў мак, калі яго ёсьць даволі, бо смак у „перапечках“ не вялікі.

Мляўкім і войстрым нечым пояць каноплі паветра. Уссунуў дзед-дамасед, што нічога няварты ні ў касе, ні навет у граблях, а пільнуець хаты, дзяцей і пчол, уссунуў даўгую плашку на худыя, сагнутыя жыцьцём плечы ў старэнькім кажусе і панёс яе сярод тых канапеляк на гумно — сушыць асець жыта: заўтра-ж у іх першая малацьба сёлетняга ўраджаю.

М. Гарэцкі.

# Лісьцейка.

(Народная песьня).

Белая бяроза
Усё лета шумела,
З лісьцейкам гаварыла:
„А вой, лісьцейка,
А вой, жоўтае,
Ты мяне пакінеш!“
— Ня бойся, бяроза,
Ня бойся, белая, —
Я цябе не пакіну!
У восень адсыплюся,
Вясною ўзноў буду,
Шумела-шумець буду
Да веку не забуду!

## Мой сад.

Люблю мой сад у позну восень,
Як плод зьвісае да зямлі,
Як голкі сыплюцца ад сосен,
Як залацяцца сьліў лісткі.

Цётка.

## Бура ў лесе.

Пачынаюцца грымоты. Зашумеў лес, загуў, загаманіў рознымі галасамі. Але ось бліснула маланка й загрымела ды так, што аж зямля задрыжала. Наляцеў вецер. Раве лес, стогне. Дубы трашчаць, хвоі стогнуць, а яліны схіляюцца чуць не да зямлі. А маланка блісьне, блісьне чуць ня цераз усё неба, асьвеціць цёмны лес, і ўзноў цёмна, як пад зямлёю. Але ось пачаў і пярун палыскаць, трэсьне ў хвою, дык і распаласуе ад самага верху аж да карэньня, трэсьне ў дуба—расколе дуба, як цэўку. Лінуў дождж...

**Загадка.** Крыкнуў вол на сто гор, на сто рэчак, на сто печак, на сто камяноў. (Гром).

## Восень.

„Прышоў Пятрок — апаў лісток: прышоў Ільля — апала два“. Так кажуць людзі, убачыўшы чуць відны паварот ад лета к восені.

Луг ужо скошаны. Дзе яшчэ тыдзень таму назад калыхаліся высокія, зялёныя травы, блішчалі краскі, над каторымі з такімі вясёлымі песьнямі лёталі работніцы-пчолкі, зьбіраючы мядок,—там цяпер пуста. Адны толькі дзябёлыя стагі параскідаліся то тут, то там. Буслы даўно пазьляталі з гнёздаў і ходзяць стадамі па лузе, або кружацца высока-высока ў небе, усё роўна, як радзяцца яны перад далёкай дарогай.

Жыта на полі зжата і зьвезена, авёс і ячмень сабраны. Толькі дзе-ня-дзе жаўцее чыя-небудзь палоска познага аўсу ці ячменю, ды пачарнеўшыся лапінкі сьпелае грэчкі чакаюць сярпа.

Глуха і нудна на полі. Ужо ня чутна спакойнае гаворкі ціхога ветру з каласкамі збожжа. Толькі ржышча, кароткія пянёчкі жыта, аўсу, ячменю і пшаніцы гавораць, што тут яшчэ нядаўна красаваліся пасевы.

Усюды, куды ні глянь, накладае восень свой сьлед, сваю руку. Сонца ня грэе так ярка, як улетку. Кожны дзень яно ўсё ніжэй і ніжэй ходзіць па небе. Неба часьцей і часьцей засьцілаецца хмарамі. Невясёла пазірае яно. Туманы закрываюць ад вачэй Божы сьвет. Дробны дождж сеецца, як скрозь сіта. Нудна і няпрытульна выглядае ўсё ўвосень.

## Восень.

Восень халодная, чорная, хмурая
Сунецца ціха, нячутна, што дзень,
Хварбы наўкола паклала панурыя,
Сонца хавае за чорны свой цень.



Збожжа пажатае з ніваў пазвожана, –
Голыя гоні самотна ляжаць,
Неба дажджліваю хмарай абложана,
Траўкай ня грае сваёй сенажаць.
Кветкі ня сьвецяць галоўкамі яснымі;
Дрэвы бяз лісту, бяз красак стаяць;
З гэтымі восені днямі бяскраснымі
Цяжкія думкі у сэрца ляцяць.
Вольхі, рабіны, асіны з бярозамі,
Лістам пажоўклым тужліва шумяць:
„Хутка надыйдуць завеі з марозамі,
Ветры з сьнягамі ізноў наляцяць“.
Толькі высокія хвоі іглістыя
Вечна зялёны свой кажуць убор,
Днямі зімовымі, цёмна-імглістыя
Будуць чарнець навакол, наузгор.
Зіму пачуўшы, мядзьведзь непакоіцца,
Ходзіць па лесе, шукае бярлог,
Хмурны і злосны, пакуль супакоіцца,
Горш на скацінку, на людзі налёг.
Гусі і качкі гуртамі зьбіраюцца;
Хутка на поўдзень зусім паляцяць,
Хэўра за хэўрай на рэчцы зьмяняецца;
Уранку крычаць на вадзе, лапацяць.

А. Гарун.



Крыльлем махаець, махаець, а паляцець ня можаць.

# Адлёт птушак.

Яшчэ не пасьпее агаліцца зямля, асыпацца ліст на дрэве, яшчэ ярка грэе сонца, а ўжо ня чутна галасоў птушак, і самых іх мала відаць.

Ужо з жніўня пачынаюць птушкі пакідаць наш край і вылятаюць у цёплую старану.

Першыя падымаюць трывогу буслы. Незадоўга да адлёту зьбіраюцца яны ў кучы дзе-небудзь на лузе, ходзяць цэлы дзень чарадамі, або стаяць па цэлых гадзінах, усё роўна, як радзяцца яны перад далёкай дарогаї, ці круцяцца высока ў небе. Праз некалькі дзён яны прападаюць, выбіраюцца ў вырай.

Нахмурылася неба, веюць сьцюдзёныя ветры, сыпецца дробны дожджык. Вясёлыя спрытныя ластаўкі нізка лётаюць над зямлёю і ловяць мошак. Час праходзіць, на дварэ сьцюдзянее, прападаюць мошкі; няма чаго есьці ластавачкам. Вось і яны выбіраюцца ў дарогу. У палавіне верасьня іх ужо ня ўгледзіш.



Поле ўжо апусьцела. Кончана работа сярпа, пачынаюць капаць бульбу. Далёка ў небе плаўна нясецца крык жураўлёў. Прыслухаваешся, падымаеш вочы ўгару, шукаеш чародку жураўлёў. Вось марскнула ў небе чорная палоска. Высока, высока ляцяць жураўлі, пастроіўшыся вуглом у два няроўныя радочкі, і кідаюць на зямлю свой звонкі, працяжны і нудны крык.

І памалу ўсе птушкі, каторыя прылятаді к нам увясну, узноў пакінулі нас на ўсю зіму. Але ня ўсе птушкі, што пакідаюць нас на зіму, зьлятаюцца ў адно месца. Некаторыя з іх, зерняедныя, астаюцца ў паўднёвых губэрнях, дзе яны могуць знайсьці сабе корм, і жывуць там, пакуль у нас стаіць зіма. Другія, кузулькаедныя, каторыя кормяцца кузулькамі (усякімі мошкамі, мухамі, камарамі), лятуць надта далёка, дзе зімы ніколі ня бывае.

Многа бяды і гора прыходзіцца выцярпець нашым мілым птушкам у далёкай дарозе, пакуль залятуць яны

на зімовыя кватэры. Некаторым прыходзіцца пералятаць моры, і многа іх прападае ў дарозе ад буры і ўсякіх небясьпечнасьцей, як ад чалавека, так і ад мясаедных птушак.

У выраі нашыя птушкі гнёздаў ня віюць і песьняў не пяюць. Віць свае гнёзды і вывадзіць дзетак яны прылятаюць на сваю радзіму. А радзіма-бацькаўшчына іх тут у нас.

# Гусі.

Гусі, гусі, вырай вольны!
Сумен крык ваш, гусі!
Ляціцё вы ў сьвет раздольны
З нашай Беларусі.

Што-ж? ляцеце — для свабоды
Вам і крыльле служыць...
Толькі шкода чагось, шкода —
Па вас далі тужаць,

І гаруе сіратлівы,
Ў чырвань лес адзеты...
Ой вы, гусі! панясьлі вы
За сабою лета!

Я. Колас.

# Позная восень.

Час падходзіў за Пакровы,
Вецер ліст з лясоў атрос,
І на полі свае ковы
Кінуў зьлёгенька мароз.

*Я. Колас.*

Неба, закрытае сівымі хмарамі, так хмарна і няпрытульна глядзіць на зямлю.

Чорны лес шуміць без перастанку, калыша сваімі голымі верхавінамі, размахівае лапамі і сьцёбае галінаю

галіну. Несупакойны сярдзіты вецер падымае жоўтае лісьце, разносіць яго па полі, усьцілае ім дарогу і гоніць хмары за хмарамі і заліваецца нуднымі песьнямі ў коміне мужычае хаты. Глуха шуміць голая вярба над страхою і вокнамі. Глуха і пуста на дварэ; хоць-бы дзе голас чалавечы, хоць-бы крык птушкі... Адны вароны і галкі жаласна крычаць і круцяцца над апусьцеўшым полем.

## Мінулася тая пара.

А полудні мутнага, шэрага, нуднага й кароткага дня самай познай восені ўсё як-бы заснула ці задрамала. Калюжынкі з вадою пры дарозе пазамярзалі крохкімі, быццам, засохлымі ільдзінкамі. Пад лесам там-сям хадзілі яшчэ коні. Цяпер іх ніхто ня пасьвіў, не даглядаў.

Толькі надвечар хлопчыкі, прыбегшы са школы, хапалі аброці і беглі пад лес шукаць іх, каб далёка не зайшлі, каб да цёмнага ўпільнаваць іх і нанач прывесьці ў пуню.

Мінулася тая пара, калі хлопчыкі вадзілі іх на пашу, набраўшы ў кішэню бульбы. Раскладалі цяпло, па чародзе хадзілі ў дровы і паглядзець коні, напалівалі жару і выразалі добрыя важахі засыпаць бульбу прыскам. А к вечару яны падганялі коні бліжэй, валілі ў цяпло ўвесь запас дроў адразу, сушылі аброці, падсушваліся самі, набіралі цяплыні пад разгорнутыя полы жупаноў і казалі тады пра што самае страшное: ваўкоў, чараўнікоў і мерцьвяцоў. Выдумвалі, што чуваць ваўчыны дух, што ў балоце нехта ходзіць і сумна дыхаець. Так даводзілі малых аж да плаку. Тады з наўмысным гоманам, каб не баяцца, забрытавалі коні; садзіліся на іх — хто з поваду, а хто са пня, а большыя з падскоку. Адзін за другім ехалі ў сьцямнелым полі даўгім, рухлівым, чорным гужам і пялі песьні голасна і ядрана аж да самых хат.

Мінулася тая пара.

Ня сяньня-заўтра, з вечара ці по начы, вываліць сьнег і белым пахаваець поле і траву, і пачнецца зіма.

М. Гарэцкі.

# З і м а.

Мягкі сьнег лятае пухам,
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.

*Я. Колас.*

Крэпка скаваў мароз голую зямлю, зрабіў яе цьвёрдай, як камень. Вымерзьлі лужынкі, высахла гразь; халодная кара лёду крэпка лягла на рэкі і азёры. Цьвёрдую пасьцельку прыгатаваў мароз для мягкага белага сьнегу, каб закрыцца хоць гэтай халоднай коўдрай ад пякучага марозу.

Вось задзьмуў сівер, і папаўзьлі па небе сьнегавыя хмары, сівыя, лёгкія, як дым, сьцюдзёныя, няпрыветныя і завалаклі ўсё неба. Вось, ціха лётаючы па ветру, закруціўся белы, лёгкі пушок, камячок сьнегу, перавярнуўся некалькі разоў, памкнуўся з аднае стараны ў другую, як-бы выглядаючы лепшае месца, і нячутно лёг на мерзлую зямлю. За ім паказаўся другі, трэці, і ўсё часьцей, усё гусьцей залёталі гэтыя белыя сьцюдзёныя матылёчкі зімы і пасыпаліся на зямлю. І як-жа многа іх закруцілася ў небе! Аж пабялела паветра і белая сетка сплятаецца з іх. Валяць і валяць белыя сьняжынкі. Борзда бялее зямля. Сьнег роўнаю плянёнкаю кладзецца на хаты, на гумны, на парканы, на платы, на шулы, на ўсё, што ня сустрэне перад сабою.

Назаўтрае, праз ноч, выходзіш на двор. І пазнаць трудна божы сьвет: так адмяніў яго сьнег! На стрэхах ляжыць цэлы слой сьнегу, як хто палотны парасьцілаў. Куды ні кінь вокам, усюды бела і бела, аж вочы адбірае. Вун стары лес. Адзеўся, прыбраўся, як у сьвята, і глядзіць, як няма ведама хто. Прыціхла рэчка, і закрыў яе зусім сьнег, так што і берагоў ня відаць. Усюды, куды ні глянь—адна белая плянёнка сьнегу. І луг, і поле, і горкі — усё засыпана белым сьцюдзёным пухам.

Вясёла выскачылі на вуліцу з хаты дзеці. Рады яны з першага сьнегу. Бегаюць, крычаць, пхаюць адзін аднаго ў гурбы, кідаюцца сьнегам. Але з зімою малыя

жарты: шчыпне яна іх за нос, за вушы, і бягуць дзеці з панадворку ў хату.

**Прыказка.** **Зімняя ночка — бацьку сарочка (у зімнія ночы прадуць).**

## Досьвіткі.

Сьветач вісіць на шосьце ля полу. Лучына гарыць невясёла, як заўсёды. Угару йдзець палавы дым, чорнае вугальле валіцца ўніз, і ад сьвятла цягнець цяплом у сьцюдзёнай хаце. Ціха. Не гамоняць. Матка сядзіць на палу і маўкліва прадзець, толькі верацяно трынкаець. На калодцы, сярод хаты, сядзіць бацька. Ён дастае з цугуна, з вады, кружкі лыкаў, раскручваець іх на руцэ ў другі бок і кроіць нагостраным ножыкам, адкідаючы тонкія, даўгія акрайкі. З гэтых акрайкаў Хомка, як вылежыцца пад цёплаю дзяругаю, будзе плесьці лапці.—„Кату лапці“, — жартаўліва скажаць бацька аб яго няўмельстве. Вось паправіла матка лучыніну, адбіла вугаль, каб ня дыміў, і ўзноў прадзець сваім роўным вагам. Узяўшы верацяно ў складзеныя далонямі рукі, раптам цыркаець імі адна аб адну... Верацяно павісаець на нітцы, тады доўга-многа круціцца ў другі бок, аж пакуль матка не падхопіць яго, шыбка-шыбка наматваючы нітку: спачатку з большага на руку, а потым зараз на вераценца, як ужо мае быць. І скубець, і скубець яна леваю рукою мычку, часам насьліньваючы аб язык, дужа скоранька, самы працавіты палец. І цягнець, і цягнець яна праваю рукою нітку ад сябе, круцячы верацяно, цягнець далёка наадмах, колькі дастанець тая рука. Ад яе працы (любая мамачка!) — веець ласкаю і сумам. Ад яе верацяна іньлецца нудны, зьвінячы, як камар, і бязупынны гук — даўгі і жаласьлівы, як гэтая даўгая, сумная ноч, з познымі вечарамі і раньнімі досьвіткамі.

— Трынь-трынь-трынь...

Добра ляжаць Хомцы ў цёплым, ведаючы, што ўсе справы ў парадку: анучкі на печы высахлі, кніжку чытаў учора ўвечары і дошчачка на скрыпку, пеўна, ужо вы-

сахла на траме. Зусім ня хочацца ўставаць, як шугне-шугне за сьцяною зьлюшчы вецер і сыплець у вакно сьцюдзёнымі крупкамі.

Сьціх вецер. Курачка адгукнулася пад печчу. Трэба ўставаць. Э! толькі раптам падхапіцца, і ня будзе шкода цёплае дзяругі,.. Раней устаць — можна прыгожанька, не хапаючысь, абуцца. А тады матка папросіць прачытаць ёй з бацькам што-небудзь цікаўнае, і Хомка прачытаець ім „Бабіны валы“.

М. Гарэцкі.

Трам — бэлька пад стольлю.

## З і м а.

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Інеем убралі.



Мягкая пярына
Вочы адбірае;
Белая раўніна —
Ні канца, ні краю!

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі,
Поле анямела,
Змоўклі ручаёчкі.
І схіліліcь лозы,
Чуць гальлём хістаюць,
А ў палёх марозы
Ды вятры гуляюць.

Я. Колас.

## Што кажух, то ня вата.

Давялося раз зімой панічу паехаць у двор на імяніны. Прыехаўшы па чыгунцы на станцыю, ён пайшоў у сяло, што ад станцыі на паўвярсты было, каб хурманку наняць, бо яшчэ трэба было вёрст з чатырнаццаць канём ехаць. Вось, зайшоў ён у вадну хату, а там якраз абедаць садзіліся. Ён зьняў шапку і кажа:

— Добры дзень!

— Добры дзень! — адказаваюць.

— Ці не завязьлі-б мяне туды й туды?

— Чаму-ж не, можна, — кажа гаспадар, падумаўшы.

— А колькі-ж хочаце за хурманку?

— Аб цану то мы зьмяркуемся, а цяпер сядзьце капусты сербаніце, бо да таго двара ня блізка.

— Дзякую! — я ўжо гарбату піў.

— Ну, як воля ваша.

Гаспадар, пад'еўшы, не сьпяшаючыся, закурыў люльку, сказаў цану, каторая панічу проці мескіх здалася зусім малой, але ён тым не пахваліўся; і яму грош, знаць, не дарма даецца. Пасьля гаспадар апрануў кажух, надзеў шапку і пайшоў запрагаць. Запрогшы каня, прыйшоў у хату і, зьняўшы з жэрдзі кажух, дае яго падпрануць панічу; але паніч не адважыўся апрануць мужыцкага кажуха і кажа:

— Дзякуй! у мяне пальто на ваце.

— Ну, як воля ваша, — кажа гаспадар. Аднак-жа, як ішлі садзіцца ехаць, то гаспадар узяў з сабой кажух у запас.

Вось яны едуць. Спачатку панічу цёпла здалося, але, праехаўшы вярстоў пяць, бачыць гаспадар, што паніч стаў корчыцца, каўнер настаўляць, шапку на вушы нацягаць.

Гаспадар і пытаецца:

— А можа кажух, паніч, надзенеш?

— Не! дзякую. — І едуць далей. Праехалі яшчэ вярсты са дзьве, бачыць гаспадар, што паніча сталі дрыжыкі прабіраць, і пытаецца:

— А можа кажух, паніч, надзенеш?

— А добра, бо штось халаднавата.

Даў яму кажуха апрануць і едуць далей. Ужо і да двара блізка, адно бачыць гаспадар, што паніч неяк белаваты, дык пытаецца ў яго:

— А што, панічу, ня сьцюдзена цяпер?

— О, не! цяпер цёпла.

— А можа, паніч, есьці хочаш?

— О, і дужа хачу.

— А што, панічу: што кажух, то ня вата, а што капуста, то не гарбата? Але пацярпі, панічу, часіну, неўзабаве прыедзем! — і паказаў яму пугаўём на той двор, каторы ўжо відаць было.

К. Каганец.

**Прыказкі.** Пытаецца люты, ці добра абуты.

Другі жупан ня варт сьвіткі.

Што кажух, то ня вата, а капуста не гарбата.

## Два маразы.

Гулялі па полю два маразы, два родныя браты: мароз Сіні-нос і мароз Чырвоны-нос. Свабодна гулялі яны на волі, нікога не баючыся, на ўсіх наганяючы страх. Вось і задумалі маразы, Сіні-нос і Чырвоны-нос, пагуляць, распрастаць халодныя плечы, пажартаваць і задаць страху сьмельчаком, што не пабаяліся на мароз свой нос паказаць.

І пабег адзін мароз, Сіні-нос, даганяць панскі вазок, а другі за мужыком пагнаўся. Цёпла апрануўся пан, за-

круціўся ў футру, схаваў ногі ў вайлакі ды накрыў іх яшчэ зьверху мядзьведжаю скураю. Дагнаў яго мароз Сіні-нос, хоць і доўга гнаўся за ім, залез пану пад футру і давай шчыпаць панскую асобу. Мерзнуць панскія ногі, абрастае каўнер футры белым сьнегам, пабялелі і вусы і барада. Ледзь даехаў пан у свае цёплыя пакоі.

Ня так шчасьціла марозу Чырвонаму-носу. Дагнаў мароз мужыка скора, вярсту за ім бег, ня болей, і давай сьціскаць мужыцкія косьці.

— Ось, каб ты згарэла! — сказаў мужык і зьлез з ваза.

Крыкнуў ён, сьвіснуў на коніка, бяжыць рысьсю дробнаю конік, а мужык за ім бяжыць, тупае нагамі, падскакавае, лупіць рукамі аб плечы. Аж у пот кінула мароза, ледзь уцёк ён з мужыцкага лапця. Угрэўся мужык, узьлез на воз, накладвае ў люльку тытун і забыўся, што і мароз ёсьць на сьвеце.

— Стой, браце, дабяруся-ж такі я да цябе ў лесе, —думае мароз Чырвоны-нос. Кінуў ён мужыка, выперадзіў яго, забег у лес, сеў там пад елку і чакае мужыка. Вось і мужык прыехаў. Спыніў ён каня, павесіў яму на галаву торбу з сечкаю. Пакуль мужык вешаў каню торбу і прыбіраў сані, мароз асьмеліўся, вылез з-пад елкі і ўжо памкнуўся да мужыка, а як убачыў у руках яго сякеру — назад бегам пад елку. Сядзіць пад елкаю мароз Чырвоны-нос, сядзіць ды думае, як да мужыка прыступіцца. А мужык, узяўшы сякеру, давай гальлё церабіць. Аж горача яму зрабілася; скінуў ён армяк і кажух, і шапку ссунуў з лобу на патыліцу. Мароза злосьць пачынала разьбіраць: мужык проста-такі сьмяяўся з яго!

І вось шчасьлівая думка прышла ў галаву марозу, аж павесялеў ён. Скраўся ён і сеў на цёмны мужыцкі кажух, залез у рукавы і за каўнер, сядзіць і сьмяецца з мужыка.

— Вось, браце, будзе табе гасьцінец, — думае сам сабе мароз, разьлёгся на кажусе, як у сваёй хаце, і давай затыкаць шэрсьць на кажусе белымі ніцьмі. І скора кажух зрабіўся белы, як сьнег. Скончыў мужык сваю работу, сабраўся ўжо да дому ехаць. Ідзе ён браць кажух.

— Эх, браце, як ты прымайстраваўся тут, — сказаў мужык, глянуўшы на пабялеўшы кажух, — ці ня думаеш ты зімаваць тут?

Узяў мужык кажух у вадну руку, пугаўё—ў другую, і давай палоць белыя ніці марозу.

Аж у жар кінула мароза. Кідаўся ён і туды, і сюды. А мужык яго трэпле ды прыгаваравае:

— Ось як у мяне! ось як у мяне!

Выскачыў мароз ды наўцекі.

## Завіруха.

Завіруха скача ноччу
Патарочай, плача, вые;
Пухавыя сыпе ў вочы
Сьнегавінкі мне; рагоча.
Йду на вобмацк; ледзь жывы я,
Няжывыя суну ногі
Без дарогі. Цела ные,
Камянее; верставы я
Прамінаю слуп убогі,
Траярогі крыж збуцьвелы,
Пасівелы, цёмны, срогі.
Не чакаю дапамогі...
Завіруха,
Рагатуха сыпе сьнегу
І ў прабегу шэпча ў вуха:
„Заначуеш — не пачуеш:
„Я завею, я угрэю,
„Зараз ляжаш, дзякуй скажаш,
„Мне ты скажаш“. Завіруха,
Рагатуха шэпча ў вуха.

А. Гарун.



## Калядная песьня.

Го-го-го, каза! го-го, шэрая!
Паварачайся, не забывайся,
То на рожанькі, то на ножанькі,
На капыцікі залаценькія.
Павярніся ладна, пакланіся складна,
Скажы, дзе хадзіла, дзе ты што рабіла?
Дзе каза паходзіць, там жыта зародзіць,
А дзе пагайсае, там павылягае.
Дзе каза топ-топ! — там жыта сем коп.
Дзе каза нагой, там жыта капой.
Дзе каза хвастом, там жыта кустом;
А дзе каза рогам, то там жыта стогам,
Дзе каза бывае, там шчасьце вітае,
А дзе ня бывае, там яно мінае.
Ну, каза, сагніся, нізка пакланіся
Усяму двару і гаспадару
І гаспадыні, каб надарылі.
Хай будуць здаровы, як рыжкі баровы,
Жывуць у раскошы, маюць торбу грошы,
Збожжа поўны клеці, павагу на сьвеце,
І ўсяго даволі, а бяды ніколі.

## Мой сад.

Люблю мой сад у крэпку зіму,
Як у крышталах ўвесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галіну,
Зімову песьню загудзіць.

Цётка.



# Сьнежны дзед.

— А ведаеш што, Жучка-Зьлючка, — казаў малы Сымонка да свайго адзінага таварыша, сабачкі, — ідзём у лес сьнежнага дзеда ляпіць.

— Гр-р-р! — узрадаваўся Жучка-Зьлючка, — чаму не, ідзём! — і радасна сабака завіляў хвастом.

Выляпіў Сымонка дзеда з сьнегу. Замест воч—яловыя шышкі ўсадзіў яму ў твар пад лабаціну й замест барады — яловую лапку ўткнуў. Даў яму кій у рукі, і дзед выйшаў на славу.

Стаяў дзед паміж хвояк на пагорачку, як асэсар, і ўсьміхаўся ў вус, пазіраючы на Сымонку й Жучку, якія скакалі вакол яго радыя й давольныя.

Абмацаў дзеда Сымонка з усіх бакоў — добра!

Абнюхаў дзеда сабака з галавы да ног—лепей ня трэба!

Міргнуў Сымонка да Жучкі, Жучка да Сымонкі, і разам зарагаталі.

— Гі-га-го! — пасыпаліся ім у вадказ рогаты з усіх глухіх куткоў сівога лесу.

Зарагатаў і сьнежны дзед. Жучка й Сымонка ня зьдзіваліся: калі дзед, дык чаму яму не рагатаць? А дзед так моцна рагатаў, ажно яго вочы, яловыя шышкі, блішчэлі, як вугольлі, а барада, яловая лапка, траслася.

Дзед навет загаварыў-бы, але рот яму Сымонка зрабіў няўдалы: крывы й разяўлены. Калі-б гэтак, як дзед, разьзявіўся Сымонка, дык так сама ня мог-бы гаварыць. А калі-б сабака так разьзявіўся-б, дык і гаўкаць не патрапіў-бы.

Гульні-забавы ў лесе адбываліся што дня. Гуляла ўся тройка — дзед сьнежны, Жучка й Сымонка. Дзед паважна камандаваў імі, стоячы на адным месцы, а хлопец з сабачкам бегалі вакол.



То Сымонка гнаўся за Жучкам, то Жучка за Сымонкам, то яны разам качаліся па сьнягу й рабілі гэткі гармідар, ажно ўвесь лес зьвінеў, як жывы, і гулка трос ад дзіва сваімі вершалінамі.

Прыскочыў зайчык-Грайчык на шум.

— Вазьміце мяне ў кампанію!—прасіўся ён у дзеда, Жучкі й Сымона.

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца.

Прыляцелі дзятлы-кавалі на шум.

— Вазьміце нас у кампанію!

— Рабіце ласку, сям'я павялічыцца,

Прыляцелі сарокі-вароны на шум.

— Вазьміце нас у кампанію!

— Рабіце ласку, сям'я павялічыцца.

Наведалася лісічка-сястрычка на шум.

— Вазьміце мяне ў кампанію!

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца

Прывалокся мядзьведзь-крывалапы на шум.

— Вазьміце мяне ў кампанію!

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца.

І праўда, сям'я зрабіліся вялікая,

Цешыўся дзед сваёй сям'ёй і нацешыцца ня мог. Бліпчэў ён пад сонцам у розных колерах, нібы у дарагіх вопратках, шытых залатымі ніткамі.

Весела было ў лесе.

— Гі-га-га! — сьмяяўся Сымонка.

— Гаў-гаў-гаў! — радаваўся Жучка.

— Тук-тук-тук! — скакаў Зайчык.

— Стук-стук-стук! — цешыліся дзятлы.

— Кра-кра-кра! — весяліліся сарокі-вароны.

— Ха-ха-ха! — рагатала лісічка.

— Во-во-во! — тупаўся ваўчок.

— Гу-гу-гу! — равеў мядзьведзь.

Раптам шура-бура паднялася ўва ўсім лесе. Застагналі-закракталі дрэвы векавыя, паднялася мяцеліца, і вялікая сям'я, хто куды, разьляцелася.

Паляцелі да хаты і Сымонка з Жучкам.

Назаўтрае раненька Жучка ўзбудзіў Сымонку.

— Уставай! Ідзём у лес да дзеда!

Усхапіўся Сымонка, глянуў у ваконца—адліга. З стрэхаў капае. Каля хаты лужыны стаяць.

Пабег ён з сабакам у лес да дзеда. Адзін-адзінюткі стаіць дзед і плача. Сьлёзы так і капаюць з воч сьляпых, бо шышкі выпалі. Адпала барада й кійываліўся

з рук. Ад дзеда астаўся адзін ледзяны шкілет. І эткага няшчасьця дзед ніколі не спадзяваўся ў сваім жыцьці.

Ліў дзед сьлёзы ў тры ручаі, а Сымонка яго цешыў.

— Ціха, ня плач, дзядок! Як настане мароз, як выпадзе новы сьнег, дык мы цябе вылечым, падробім. Мы з Жучкам вялікія майстры й яшчэ ня гэткія штукі ўмеем рабіць!

З. Бядуля.

---



# Жыцьцё слаўных беларусаў.

Ёсьць народы, што ўславіліся сваімі войнамі і заваяваньнямі чужых зямель. Але такая слава, якую народы здабывалі, праліваючы рэкі крыві сваей і чужой, — благая слава.

Ня бітвамі, не ваеннымі перамогамі славіліся нашы дзяды і прадзеды. Народ Беларускі ня любіў вайны, не сягаў ніколі па чужое, а толькі бараніўся ад чужынцаў, калі тыя хацелі пажывіцца яго дабром. О, тады беларусы грудзьмі станавіліся за сваю Бацькаўшчыну, тады не шкадавалі ні свайго жыцьця, ні свайго шчасьця, каб толькі ўвесь народ быў вольны і шчасьлівы! Калі-ж таго не вымагала патрэба бараніць сваю зямлю ад варожае напасьці, беларусы самі вайны не пачыналі. Дык і слава нашых дзядоў здабыта іх мірнай працай дзеля шчасьця свайго народу.

З даўных часоў было ў нас гэтак. І многа слаўных імяньняў запісала гісторыя нашага народу, але слаўных не вайной і праліцьцем крыві, а мірнай працай для агульнае карысьці.

Гэтыя імёны — наша слава і наша гордасьць. Іх трэба ўспамінаць з пашанай і любоўю.

## Прадслава.

У старадаўныя часы — каля тысячы гадоў таму назад — на Беларускай зямлі вялікую славу прыдбала сабе места Полацак, што стаіць над ракой Дзьвінай. Многа вучоных людзей было тутака, якія і мовы чужыя ведалі, і навукі ўсе пазналі ня горш за заграні́чнікаў. Многа тут школ было і многа кніг пісалася, якія ішлі на патрэбу людзям. Многа пекных харамаў і царкваў будавалася, а іншыя з іх і да нашых дзён ператрывалі.

У гэтым-то месьце ўзгадавалася дзяўчынка, аб якой народ Беларускі не забыўся ў працягу васьмісот гадоў. Імя яе было Прадслава, а была яна дачкой полацкага князя.

У нядобры час для роднага места радзілася Прадслава. Між полацкімі князямі йшла тады хатняя барацьба, родныя браты і блізкія сваякі ваявалі між сабой за панаваньне над местамі Полацкае зямлі, кроў братняя лілася дарэмна ад тых сварак князёўскіх, а вёскі пусьцелі і народ бяднеў. Многа благога бачылі вочкі маленькай Прадславы, і ня вытрывала яна ў княжых хара-

мах, не захацела глядзець на тое зло, якое рабілася ўсей роднай зямлі. Дванаццацёх гадоў кінула Прадслава дом і ўцякла ў манастыр.

Балела сэрца дзяўчынцы ад тае крыўды людзкое, што запанавала на зямлі Полацкай. І думала яна, што шчырай малітвай, пастом і суровым жыцьцём манашкі ўмоліць яна Бога, каб вярнуў спакой і шчасьце народу.

А як падрасла, дык зразумела, што аднэй малітвай бядзе не паможаш. Зразумела Прадслава (манашскае імя яе было Афрасіньня), што трэба многа працаваць для свайго народу, каб ён перш за ўсё ня быў цёмны, ды каб мог пазнаць, што добра і што блага.

Трудна было ў тыя далёкія часы вучыць народ грамаце. Друкаваць кніжак, як цяпер, людзі йшчэ ня ўмелі. Кнігі былі толькі пісаныя рукой — гусінымі пер'ямі. Доўга, доўга трэба было працаваць, каб напісаць кнігу. І цяжка было бяднейшым людзям такую кнігу купіць, бо каштавала яна вельмі дорага.

Многа разважала Прадслава, пакуль надумалася, як ей свае сілы на служэньне свайму народу аддаць. А надумалася яна вось на што.

У біскупа полацкага Ільлі выпрасіла яна двор Сяльцо, недалёка ад Полацку, каб залажыць тамака манастыр. Ды ня просты гэта быў манастыр, не такі, дзе манашкі толькі малітвамі думаюць заслужыць для сябе ласку Бога. Прадслава ўзяла сабе ў дапамогу сваю родную сястру Гарыславу і зродную Зьвяніславу, якія былі добра граматныя, прыняла йшчэ некалькі граматных манашак, ды ўсе разам дружна пачалі работу, што надумала Прадслава. Яны перапісывалі кнігі, залажылі школу, у якой вучылі дзетак чытаць і пісаць, залажылі прытулак, дзе гадавалі бедных сіротак. І з розных канцоў краю ішлі ў Сяльцо ўсё новыя і новыя працаўніцы, каб аддаць свае сілы на сьвятое дзела.

Усе свае лепшыя гады, усю сваю моладасьць аддала Прадслава на служэньне свайму народу. Толькі пад старасьць кінула яна свой манастыр, каб адбыць падарожу ў Сьвятую Зямлю. Ды ўжо назад да роднага Полацку не вярнулася: яна памерла ў Ерусаліме. Цела яе было перавезена ў Кіеў і праляжала там семсот пяцьдзесят лет, ажно пакуль яго не перанесьлі ў Полацак у 1910 годзе.

## Францішк Скарына.

### (Першы беларускі друкар).

Гадоў пяцьсот таму назад у Полацку жыла сям'я заможных купцоў Скарынаў. Былі яны беларусы, як і ўвесь народ на Беларускай зямлі. Вазілі яны тавары свае і ў Вільню, і ў Рыгу.

У гэтай сям'і і радзіўся Францішк Скарына, якому доля судзіла вельмі ўславіцца сваей працай на славу і карысьць Бацькаўшчыны.

Малы Францішк ня меў нахілу да гандлю, як яго бацька. Яго вабіла больш навука. Грамаце яго навучалі дома, але больш ніякае навукі бацькі самі даць не маглі. Жывы і здольны да вучэньня хлопчык ня ўседзіў доўга дома. Трынаццацёх гадоў яму давялося неяк папасьці ў Вільню. Тутака было многа багатых мяшчанаў і паноў-беларусаў. Нехта з іх зацікавіўся гэтым хлопчыкам, што так ірваўся да навукі, і вось некалькі беларускіх магнатаў далі грошы, каб ня даць змарнавацца ягоным здольнасьцям. Яго выправілі ў Кракаў вучыцца ў унівэрсытэце.



Сумна і цяжка жылося маладому Скарыне ў чужым месьце, сярод чужога народу. Але ахвота да навукі пераважыла ўсё другое. Мала паказалася Скарыне тае навукі, якую здабыў у Кракаве, — вось ён выбраўся далей—ажно ў Італію, да места Падуі. Тамака быў слаўны на ўсенькі сьвет унівэрсытэт, да якога і рваўся Скарына. У Падуі Скарына вучыўся на доктара. Але і гэтае навукі яму усё йшчэ было мала, дык паехаў у падарожу ў землі Нямецкія і Чэскія.

У Празе, сталічным месьце Чэхаў, Скарына затрымаўся на даўжэйшы час. Тутака ён пільна прыглядаўся, як жыве і працуе братні нам Чэскі народ, каб нешта карыснае прывезьці ў родную Беларусь.

Незадоўга перад тым Ян Гутэнбэрг у нямецкім месьце Нюрэнбэргу выдумаў спосаб друкаваць кніжкі (у 1445 годзе). Спосаб гэты першыя спаміж славянаў пераанялі чэхі. Калі Скарына прыехаў у Прагу, тамака ўжо былі чэскія друкарні і была надрукавана Біблія ў чэскай мове. А ў роднай Беларусі йшчэ кніжак друкаваць ня ўмелі: у нас іх або пастарому пісалі гусінымі пёрамі, або заказывалі заграніцай.

Скарына бачыў, як трудна беларускаму народу бяз кніг у роднай мове. І вось наважыўся ён памагчы яму ў гэтай бядзе. З вялікім трудам навучыўся ён у Празе друкарскае штукі, сам

рабіў узоры літараў беларускіх і выразаў іх сваімі рукамі, ды гэтак стварыў у Празе першую беларускую друкарню (ў 1517 годзе).

Але гэта была толькі частка задуманага Скарынай вялікага дзела. Ён пераклаў Біблію на беларускую мову, — такую, якое ўжываў наш народ у штадзеннай гутарцы. І гэту работу зрабіў сам-жа Скарына.

Цяпер асталося толькі літара па літары злажыць перакладзенае дзеля надрукаваньня. І ізноў Скарына сваімі рукамі робіць гэта, ды сам адбівае Біблію на паперы.

Хаця багацейшыя беларусы падсылалі Скарыне ў Прагу патрэбныя грошы, хаця яму памагаў і бургомістр (галава) места Вільні, Якуб Бабіч, і другія, але вечна сядзець на чужыне Скарына ня мог. Яго вабіла Бацькаўшчына, ён хацеў сваю друкарню перавезьці ў Вільню і навучыць сваіх братоў-беларусаў друкаваць кнігі. Але прайшло некалькі гадоў, пакуль яму ўдалося споўніць, чаго жадаў. Толькі ў 1525 годзе ён здалеў заложыць у Вільні першую друкарню.

Ня лёгка жылося Скарыне ў так любай яму Вільні. Друкарства вымагала вялікіх грошы, і Скарына лез у даўгі. А як ня было чым выплачываць, дык яму прадалі за доўг дом і забралі ўсё, што меў. І гэты вялікі сын свайго народу, навучыўшы беларусаў друкарства, памер у бядзе, чуць-што ня з голаду...

Затое цяпер, праз чатырыста гадоў пасьля сьмерці Скарыны, яго з пашанай памінае ўвесь наш народ, і памяць аб ім будзе жыць вечна.

# Паўлюк Бахрым.

Сто гадоў мінула ад таго часу, калі тое дзеялася.

Цяжка тады жылося беларускаму сялянскаму народу. Сяляне былі нявольнікамі сваіх паноў, якія імі таргавалі, мянялі на другіх ці на некую рэч, прымушалі цяжка працаваць бяз ніякае заплаты за гэта.

Школы ў роднай мове даўно былі пазакрываны. Паны зусім забыліся беларускай мовы. Ніхто не клапаціўся, каб вучыць вясковых дзетак.

У гэтым часе ў Слуцкім павеце быў такі куток, дзе і да сялянскіх дзяцей даходзіў сьвет навукі. У мястэчку Крошыне жыў ксёндз Магнушэўскі, вельмі сьветлы і добры чалавек. Зжыўся ён з сваім народам, звыкся з ім, пераняў яго мову; „спрасьцеў", казалі аб ім паны, дзіўлючыся, што ён любіў гаварыць „мужыцкімі" прыказкамі і пагаворкамі. Каб-жа народ ня быў цёмны, Магнушэўскі адчыніў школу для сялянскіх дзетак, ды ў гэнай школе іх навучалі ўсяго таго, чаго звычайна вучылі па другіх школах панскіх дзяцей.

Прасьвятлеўшымі вачыма глядзелі на сьвет божы гадунцы Магнушэўскага. Яны ўжо ведалі, чаму блага жывецца народу і як трэба дабівацца паляпшэньня жыцьця. З Крошынскай школы выйшла нямала добрых працаўнікоў дзеля карысьці сваей вёскі і свайго народу.

У гэтай-то школе сто гадоў таму назад вучыўся вясковы хлопчык, Паўлюк Бахрым. Радзіўся ён у 1814 годзе. Калі яму было 14 гадоў, ён пачаў пісаць пабеларуску вельмі добрыя вершыкі, у якіх апісываў, як блага жывецца вясковаму беларусу. Кс. Магнушэўскі ня мог нахваліцца сваім вучнем-паэтам. І пэўне-ж стаўся-бы Бахрым слаўным на ўсю Беларусь, калі-б мог далей вучыцца і калі-б не спаткала яго благая доля.

Нейк між крошынскімі сялянамі і панам тамтэйшым узьнялася спорка. Начальства заступілася не за сялян, а за пана, ды рассудзіла справу, пакрыўдзіўшы сялян Тыя збунтаваліся. Тады прыехаў у Крошын сам губэрнатар з войскам. Шмат каго з сялян цяжка пакаралі. Пры гэтым пан пажаліўся, што сяляне гэтак асьмялелі праз віну Магнушэўскага, які іх падтрымлівае і ў школе вучыць не таго, што трэба. Дык пайшлі ў школу глядзець, як там ідзе навука.

Дзеці ня думалі, што нешта пагражае іх школе і іх старэнькаму настаўніку. Пачалі ахвотна казаць, што ўмелі, а Бахрым ня ўстрымаўся, каб не сказаць свайго вершыку. Вось гэты вершык:

Заграй, заграй, хлопча малы,
І ў скрыпачкі і ў цымбалы.
А я заграю ў дуду,
Бо ў Крошыне жыць ня буду.

Бо ў Крошыне пан сярзіты,—
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача...
Гдзе-ж ты пойдзеш, небарача?

Гдзе я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў сьвет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
Сьлёзна на вас азірнуся

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасьліўшая ты-бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я-бы без паноў абыўся:
У паншчыну-б не пагналі,
І ў маскалі не аддалі.

Мне пастушком век ня быці
І ў маскалях трудна жыці,
А я і расьці баюся,
Гдзе-ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Што-ж ня сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс

Абурыўся губэрнатар на гэткія думкі хлопчыка і засудзіў яго на благую долю: загадаў ён здаць малога Паўлючка ў салдаты. А школу тую зачынілі.

Што сталося з Бахрымам, напэўна невядома. Адні казалі, што ён нядоўга перажыў свайго вучыцеля і памер недзе на чужыне. Другія ж даводзілі, быццам праз доўгія гады, зусім састарэўшыся, Паўлюк-такі вярнуўся ў родную старонку, напісаў многа вершаў і сваім розумам і добрай радай у кожнай прыгодзе заслужыў вялікую пашану тамтэйшых сялян.

# Францішк Багушэвіч.

У мястэчку Жупранах, Ашмянскага павету, на невялікім могільніку, дзе ўлетку шумяць белыя бярозы, зелянеець бэз, парасла высокая густая трава, — ёсьць магіла. Крыж там стаіць звычайны драўляны, просты, ды колькі вянкоў вісіць на ім. У магіле гэтай пахаваны Францішк Багушэвіч.

Па вёсках Заходняй Беларусі скрозь можна пачуць, як народ кажа напамяць вершы: „Здарэньне“, „Хрэсьбіны Мацюка“, „Кепска будзе“ і іншыя. Аднак народ ня ведаець, хто гэтыя вершы напісаў. Народ наш ня ведаець імя вялікага песьняра Беларускае Зямлі, — Францішка Багушэвіча. Толькі за астатнія гады, калі кніжка беларуская вальней пашыраецца ў народнай гушчы, пісьменныя сяляне маюць магчымасьць купіць і прачытаць „Дудку Беларускую“ Мацея Бурачка або „Смык Беларускі“ Сымона Рэўкі з-пад Барысава, дзе сабраны вершы Францішка Багушэвіча пад гэтымі псэўданімамі (вымышленымі іменьнямі).



Радзіўся Францішк Багушэвіч у 1840 годзе і памёр у 1900 годзе. Пахадзіў ён з Ашмяншчыны, са шляхоцкай сям'і. Вучыўся ў Вільні і ў Пецябургу, жыў доўгі час на Украіне, а канец жыцьця правёў у Вільні і ў сваім дворку Кушляны ў Ашмяншчыне. Поэт наш быў адвакатам і ўсе свае сілы аддаў на абарону правоў сярмяжнага люду. У песьнях сваіх ён пяець аб долі-нядолі свайго народу, стогнець разам з ім ад уціску чужынцаў, сваіх паноў і гандляроў. І глыбокая любоў чуецца ў яго песьнях да роднай стараны і просіць ён сваю дудку ў адным вершы: „Што дзень і што ночы плач, як мае вочы над народу доляй“.

У 1920 годзе, у ясную пагожую раніцу траўня, вучні Бела-

рускай Барунскай Вучыцельскай Сэмінарыі *) усклалі на магілу паэта прыгожы, багаты вянок з надпісам на шырокіх шаўковых нацыянальнага колеру йстужках: „Францішку Багушэвічу—бацьку беларускага адраджэньня“.

## МАЯ ХАТКА.

Бедна-ж мая хатка, расьселася з краю,
Між пяскоў, каменьняў, ля самага гаю,
Ля самага бору, на беражку лесу:
Ніхто тут ня трапіць, хоць-бы з інтарэсу.
Кепска-ж мая хатка, падваліна згніла,
І дымна і зімна, а мне яна міла;
Ня буду мяняцца хоць-бы і на замкі, —
Калок свой мілейшы, як чужыя клямкі.
На страсе мох вырас, на імху бярозка, —
Мілей свая хатка, як чужая вёска.

М. Бурачок.

## НЯ ЧУРАЙСЯ.

Ня чурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі;
Мазоль — працавітых значок,
Не заразіць цябе ён ніколі.

То мэдаль за труды і за мукі,
Не хвароба якая з заразы.
Ня стыдайся падаць ты мне руку,
Бо на гэтай руцэ няма сказы!

На кашулю глядзіш крывым вокам,
Што у хаце мне бабы пашылі,
Прапацела яна маім сокам, —
Цэлы тыдзень яе не памылі.

А твая-ж? як той сьнег, як папер,
І пацеў — хто і ткаў і бяліў,
І хто шыў і хто праў, а цяпер
Ты той пот на сябе узваліў,

Каб умеў кіраваць я пяром, —
Я-бы кніжку счыркаў, як папар,
І аб тым, як мы сеем, аром,
І як косім і жнём божы дар.

---

*) Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя ў Барунах была арганізавана п. Сымонам Рак-Міхайлоўскім у 1920 г., і ў восень гэтага-ж году была зачынена ўладай Сярэдняе Літвы.

Можа-б ты прачытаў той грымзол
І да працы набраў бы ахвоты,
Шанаваў бы мужыцкі мазоль,
Ня чураўся-б мужыцкай бядоты,

І падаў бы руку мне, сьляпому,
І давёў бы мяне да дарогі:
Ня блудзіў бы і я сярод лому
І калючак, што раняць мне ногі.

М. Бурачок.

# Іван Луцкевіч.

Гадоў дваццаць пяць назад палажэньне Беларускага Народу было йшчэ вельмі цяжкое.

Мала хто думаў аб нашай вёсцы і яе долі-нядолі. Хто з сялянскіх сыноў „выходзіў у людзі“ — значыцца, хто даставаў прасьвету і займаў вышэйшае становішча — той выракаўся роднае мовы і ўсяго роднага і запісываўся „да паноў“, называючы сябе ці то расейцам, ці палякам.



Бывала, што той ці іншы з адукаваных беларусаў схамянуўся, уразумеў, як блага ён аддзякаваў сваей вёсцы, што яго ўзгадавала, ды пачынаў сякую-такую работу на карысьць беларускага народу. Але працаваць было вельмі трудна: расейская ўлада не пазваляла ні школы ў роднай мове адкрыць, ні кніжкі беларускай надрукаваць, ні якую карысную ўстанову для вёскі залажыць. Дык і такія нашы інтэлігенты, у якіх загаварыла сумленьне, зьнеахвочваліся да працы, гублялі веру ў тое, што народ беларускі збудзіцца ад свайго сну.

Ды знайшоўся чалавек, каторы так крэпка верыў у прабуджэньне беларусаў, так шчыра ўзяўся за работу, што заслужыў імя запраўднага бацькі беларускага адраджэньня. Гэта быў Іван Луцкевіч.

Радзіўся ён 28 мая (ст. ст.) 1881 году ў літоўскім горадзе Шаўлях, куды закінула сям'ю Луцкевічаў шуканьне хлеба. Бацька яго служыў тамака на чыгунцы, але хутка перабраўся ў Лібаву (у Латвіі). Малы Іван Луцкевіч набіраўся дома шчырага дэмакратычнага духу, вучыўся паважаць „просты“ народ, што сваей працай корміць усенькі сьвет, чуў гутаркі аб волі, роўнасьці і брацтве ўсіх людзей і народаў. Паступіўшы ў лібаўскую гімназію, ён здружыўся з вучнямі-літвінамі, дзяцьмі літоўскіх сялян, якія ўжо пачалі будзіцца да самастойнага жыцьця і не забываліся ні сваей вёскі, ні роднай мовы.

Ад малых гадоў Іван Луцкевіч меў нахіл да пазнаньня гісторыі, да зьбіраньня памятак старасьвеччыны. З вялікай пашанай адносіліся і вучыцялі, і вучні-таварышы да гэтага дзіўнога хлопчыка, які на вялікай пераменцы, заместісьці да хаты пасьнедаць, бег на „Стары Рынак“ і капаўся ў крамах гандляроў рознымі старымі рэчамі, шукаючы нечага старасьвецкага. А веданьне гісторыі адкрыла яму, што народ наш быў некалі слаўны, культурны, вольны, ні ад кога незалежны.

Падрастаючы, і ведаючы слаўную мінуўшчыну беларусаў, Іван Луцкевіч стаўся гарачым патрыотам. Пасьля сьмерці бацькі, ён у 1897 годзе перабраўся ў родны Менск і там паступіў ў 5 клясу гімназіі, якую і скончыў у 1902 годзе.

У старшых клясах гімназіі Іван Луцкевіч пачаў працаваць, каб і сваіх таварышаў-беларусаў пазнаёміць з мінуўшчынай Беларусі, каб і яны палюбілі свой бяздольны, шэры, сярмяжны народ. Кружок беларусаў, што гуртаваліся каля яго, не распаўся, калі вучні перайшлі з гімназіі ў унівэрсытэт у Пецярбурзе. Тамака Іван Луцкевіч знайшоў ужо больш беларускай моладзі, якая ехала ў Пецярбург з усіх канцоў Беларусі. Вучыўся ён адначасна і права ў унівэрсытэце і архэалёгіі ў архэалягічным інстытуце, ды яшчэ меў час і для працы сярод таварышаў-студэнтаў.

Арганізацыя моладзі расла. Да яе далучаліся і сяляне, і работнікі. А ўсей гэтай працай кіраваў Іван Луцкевіч.

У 1905 годзе пачалася першая расейская рэвалюцыя. Заварушыліся і беларусы. І ізноў вядзе іх на барацьбу за волю Іван Луцкевіч. Дарма, што расейскія жандары арыштовываюць яго, садзяць у вастрог, мучаць тамака голадам: ніякія праследаваньні і пагрозы ня могуць яго зьвясьці з абабранае дарогі!

Рэвалюцыя адваявала для беларусаў свабоду друкаваць кніжкі і газэты ў роднай мове. Іван Луцкевіч, перабраўшыся ў Вільню, прадае часьць сваіх збораў старасьвеччыны і за гэтыя грошы закладае тут першую баларускую газэту „Нашу Долю“, а пасьля „Нашу Ніву“. І дзесяць гадоў кіруе ён газэтай, друкуе кніжкі, зьбірае памяткі беларускае мінуўшчыны, зарабляючы кожную капейку на гэта сваей працай, ходзячы заўсёды абарваны, у дзіравых ботах, часта-густа галадаючы, абы толькі былі грошы на друкаваньне газэты і беларускіх кніжак. А перад

усім—прыцягівае да працы для Беларусі ўсё больш людзей, перадае ім усю сваю веру ў пабеду беларусаў і прымушае працаваць.

Калі прыйшлі ў Вільню немцы, Іван Луцкевіч быў ужо хворы і слабы. Але мала хто з беларусаў астаўся тут тады: большая частка уцякла з Вільні разам з расейскім войскам, баючыся страшэнств вайны. Дык Іван Луцкевіч ізноў бярэцца за работу. Ізноў пануе ў хаце яго голад, за абедам часта зьяўляецца „бонда“ — бабка з бульбяных лупін. Але работа ідзе. Адкрываюцца першыя беларускія школы ў Вільні і па вёсцах, пачынаюць выхадзіць новыя беларускія газэты, закладаецца Беларуская Рада, Беларускае Навуковае Таварыства, Беларускі Клюб, — і ўсюды мы бачым Івана Луцкевіча, усё робіцца па яго думцы.

У 1918 годзе ў Менску заснавалася Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Пачалі беларусы думаць аб тым, як ім наладзіць сваё жыцьцё самым, бяз чужое апекі. Але йшчэ не знайшлі праўдзівае дарогі. Хутка пасьля гэтага немцы забралі Менск, куды і адкрылася дарога з Вільні. Іван Луцкевіч, зусім ужо хворы (на сухоты), заўсёды ў гарачцы, едзе ў нятопленым вагоне ў Менск на сход Рады і там заклікае да незалежнасьці Беларусі. І Рада слухае яго голасу, аб'яўляе Беларусь незалежнай, вольнай дзяржавай. Гэтак Іван Луцкевіч убачыў спаўненьне свайго найвялікшага жаданьня. Едучы назад у Вільню, ён сказаў: „Цяпер мы, старыя працаўнікі, можам ужо паміраць і ёсьць каму замяніць нас!“

І як-быццам напрарочыў сабе сьмерць. У Вільні яшчэ больш году папрацаваў, заснаваўшы тут беларускую гімназію, якая становіць цяпер гордасьць беларусаў. Гэты год блізка ўвесь ляжаў ужо ў пасьцелі, але і хвароба не зламала сілы яго духа. І далей усе беларусы звярачаліся да яго, як да павадыра, за радай і падмогай.

У 1919 годзе, зусім саслабеўшы, паехаў ён, урэшце, лячыцца ў горы, ў Закапанае (ў Польшчы): раней усё казаў, што на гэта часу шкада. І нядоўга палячыўся: за два месяцы прыйшоў канец яго жыцьцю і працы.

Памер Іван Луцкевіч 20 жніўня 1919 году і пахован у Закапаным. Апрача памяці аб сваей працы для адраджэньня народу, ён пакінуў і відочную багатую памятку: свой музэй старасьвеччыны. Зьбіраў яго ад трэцяе клясы гімназіі і сабраў вялізарнае багацьце: музэй — гэта найлепшы доказ таго, якім культурным і слаўным быў Беларускі Народ.

## „Цётка“.

Калі яна радзілася — нікому і дагэтуль напэўна невядома. Вядома толькі, што родам была з Лідчыны, з-пад мястэчка Васілішак, дзе бацькі яе, Пашкевічы, мелі даволі вялікі фальварак Новы Двор.

Хоць Пашкевічы і былі заможнымі гаспадарамі, але, як гэта часта бывала і ў нашых сялян, і ў дробнай шляхты, на навуку дачкі грошы шкадавалі. Сыноў ахвотна вучылі. Але дачка, Аляізія, толькі з вялікім трудам дабілася таго, што бацькі згадзіліся вучыць і яе.

А да вучэньня Аляізія Пашкевічанка рвалася ўсей сваей душой. Здольная ад прыроды, яна добра прайшла навукі ў гімназіі і ўжо сваімі ўласнымі сіламі, часта-густа недаядаючы, паступіла ў пецярбурскі унівэрсытэт.

Узросшы сярод сярмяжнага беларускага люду, яна сваей чуткай душой вельмі горача адчувала ўвесь зьдзек над сваім народам, усю цяжкую крыўду і пакуту народную. І горача жадала памагчы сваім працоўным братом.

Якраз падышоў 1904 год, калі Расея ваявала з Японіяй. Народ увесь быў проці гэтае вайны і пачаў бурыцца па ўсіх краінах вялізарнага Расейскага гаспадарства. Асабліва заварушыліся работнікі па мястох.

Пачаўся рух проці вайны і проці царскае ўлады і на Беларускай зямлі. У той час Пашкевічанка жыла ў Вільні або пад Вільняй — у Новавілейску, дзе зарабляла хлеб, служачы ў бальніцы для вар'ятаў. Работніцкі рэвалюцыйны рух крэпка захапіў і яе.

Але вось яна неяк сустрэлася з „бацькам беларускага адраджэньня“ — Іванам Луцкевічам, які часта заглядаў з Менску ў Вільню. І новыя кругазоры адкрыліся перад Пашкевічанкай. Яна зразумела, што яе роднаму беларускаму народу прыходзіцца ваяваць ня толькі за кусок буднага хлеба, але і за страву для душы — за сваю мову, сваю культуру, за самую душу сваю, якую чужынцы стараліся ў нас забіць.

І сьледам за Іванам Луцкевічам ідзе яна пад беларускім штандарам праз усё сваё далейшае жыцьцё, аддае ўсе свае сілы на служэньне роднай Беларусі. Яна першая асьмеліваецца публічна, на ўсенародных сходах (мітынгах) у Вільні і Новавілейску выступаць з гарачымі рэвалюцыйнымі прамовамі ў беларускай мове. І чуючы роднае слова, не адзін работнік, не адзін інтэлігент, што выйшаў з беларускай вёскі, ды ў месьце забыўся аб ёй, пачынае гарнуцца ізноў да сваіх, прылучаецца да маленачкага йшчэ тады гуртка беларускіх адраджэнцаў.

Царская паліцыя і жандары доўга шукалі Пашкевічанку, але надарэмна. Дый мала хто ведаў яе праўдзівае імя: усе называлі яе проста „Цёткай“. Урэшце, бачачы, што даўжэй хавацца ня ўдасца, яна ў восені 1906 году патайна перабралася заграніцу — у Львоў (у Галічыне). Там яе прыязна спаткалі браты-украінцы, і яна нейкі час вучылася ў унівэрсытэце ў Львове і пасьля ў Кракаве.

Хоць і добра ей тамака жылося, спакойна і бясьпечна, ды рвалася душа да роднай Беларусі, дзе йшла далей беларуская

работа. Яшчэ перад самым выездам „Цёткі“ з Вільні тут пачалі выхадзіць беларускія газэты—„Наша Доля“ і „Наша Ніва“. „Цётка“, якая пачала пісаць беларускія вершы ў часе рэвалюцыі 1905 году, прыкладала сваю руку і да закладзін гэных газэт, — дык і з-заграніцы слала туды вестачкі і вершы, поўныя жалю па ўтрачанай Бацькаўшчыне.

Урэшце-такі ўдалося „Цётцы“ вярнуцца на Беларусь. Яна заграніцай выйшла замуж за літоўскага дзеяча, Кейрыса, ды гетак зьмяніла сваё прозьвішча, а пад новым прозьвішчам улада ўжо не дагадалася яе шукаць. Пажыла „Цётка“ нейкі час у Пецярбурзе, рыхтавала там кружкі моладзі, беларускі тэатр, хор. Стуль перабралася перш у Вільню, а пасьля ў Менск.

„Цётка“ вельмі любіла дзяцей і аб іх найбольш рупілася. Пісала для іх кніжачкі да чытаньня і да навукі і выдавала дзіцячую газэтку „Лучынка“ ў Менску.

Так жыла і працавала „Цётка“, хоць ужо цяжка хворая на сухоты, ажно да пачатку вялікай сусьветнай вайны. Калі палілася кроў, яна не магла глядзець спакойна, як гінулі людзі, і хацела хоць чым-колечы памагчы ім. Дзеля гэтага яна паступіла за сястру міласэрдзя, пад кулямі падыймала раненых салдатаў і перавязывала ім раны, а пасьля цэлы год даглядала хворых у тыфусовым бараку ў Вільні.

Многа сіл і здароўя аддала яна гэтак сваім церпячым братом...

Калі ў 1915 годзе ў Вільню прыйшлі немцы, „Цётка“ і не падумала некуды ўцякаць з другімі палахлівымі людзьмі. Яна асталася на мейсцы разам з малой жменяй беларускіх дзеячоў, на чале каторых стаяў Іван Луцкевіч. А працы на долю яе выпала тут многа!

Пачуўшы, што старая забарона вучыць дзяцей пабеларуску і закладаць беларускія школы счэзла з адходам маскоўскіх войск, віленскія беларусы кінуліся ладзіць свае школы ў месьце і па вёсках. Тут-то і паказала сябе „Цётка“, — ды апошні ўжо раз. Яна ў сьцюжу і мароз абходзіла на акраінах Вільні хаты беларускай беднаты, стукалася да кожных дзьвярэй, дзе спадзявалася знайсьці беларусаў, і запісывала дзяцей ў беларускія школы. І школы расьлі, як грыбы, — на Лукішках, на Антокалі, на Сьніпішках, у Зьвярынцы і т. д.

Ажно ў пачатку 1916 году дайшла да „Цёткі“ вестка з роднае вёскі, што яе старэнькі бацька памер. Яна паехала хаваць бацьку, ды ўжо назад у Вільню не вярнулася. Там, дома, у акалічных вёсках панаваў тыфус; помачы ніскуль ня было, і часта хаты зусім пуставалі, бо выміралі цэлыя сем'і. „Цётка“ і тут пасьпяшыла на ратунак сваім сярмяжным братом, хадзіла ад хаты да хаты, даглядала хворых, памагала, чым і як магла. Ды тут, за работай, і сьмерць сваю сустрэла: заразілася сама тыфусам і памерла ў ноч з 4 на 5 лютага 1916 году.

Пахавалі яе ў роднай старонцы — на вясковых могілках, сярод тых шэрых гаротнікаў, для якіх яна працавала ўсё свае жыцьцё

## Вялікая душа.

Дзеялася гэта даўно, даўно. Жыў у м. Новы Пагост, Дзісенскага павету, добры чалавек — Пранук Летахіцкі.

Новы Пагост быў тады яшчэ маленькім сялом. З усіх бакоў былі вялікія лясы. У лясох вадзілася многа ваўкоў. Злавіў воўк шалёнага сабаку, зьеў і ашалеў. Пакусаў воўк другіх ваўкоў, разьбегліся яны і пачалі кусаць людзей і жывёлу.

Вёз нешта раз Пранук з лесу воз дроў. Хата яго была з краю мястэчка. Пад'яждаў ужо к хаце, аж ляціць з лесу ў мястэчка шалёны воўк. Спужаўся Пранук, а як зірнуў на вуліцу, дзе гуляла чалавек дзесяць дзяцей, дык і сэрца яго абамлела...

Воўк мог бы пакусаць дзяцей і многа людзей, якіх сустрэў бы ў сяле.

І хоць сам мог-бы неяк абараніцца, шкода стала Пануку дзетак, — кінуўся ён на ваўка, каб ня пусьціць яго і крыкам падняць людзей. А воўк на яго!

Воўк дужа абкусаў Пранука і мог-бы загрызьці, але чалавек засунуў руку ў воўчую ляпу, схапіўшыся за язык, і гукаў на ўсю сілу людзей.

Прыбеглі сяляне з каламі, з сякерамі і забілі ваўка.

Пранук прасіў, каб забілі і яго разам з ваўком, бо ведаў, што ад воўчых зубоў трапіў яму ў кроў шал, і што ён ашалеець. Тады яшчэ ня ўмелі лячыць ад шалу.

Але не маглі сяляне забіць свайго добрага суседа, які ўратаваў іхных дзяцей ад шалёнага ваўка. Яны прынясьлі яго дамоў, абвязалі яму пакусаную руку і другія раны, сказалі яму найласкавейшыя, як маглі, словы і сумныя разыйшліся па хатах.

Пранук, калі пачуў, што надходзіць шал, папрасіў, каб запёрлі яго ў хлеў. Яго запёрлі, і ён там біўся, бедны, у страшнай хваробе аб сьцены, ірваў на сабе валасы, драпаў цела і так мучыўся колькі дзён узапар. Потым на пэўны час пераставаў.

Жудасная хвароба зусім змучыла чалавека, і ён захацеў лепей памерці. Ні разу не пашкадаваў ён аб сваім велікадушным учынку, толькі прасіў людзей аблегчыць яму сьмерць. Сабраў сваіх дзетак, жонку, родных і ўсіх суседзяў, разьвітаўся з імі. Усе плакалі ад жалю.

Нагрэлі вады, налілі ў вялікае карыта, палажылі туды Пранука і пусьцілі яму кроў з жылаў. Сям'ю яго вывелі. Калі цераз нейкі час вярнуліся, Пранук ужо быў мёртвы.

Цяпер толькі адна бабулька, Караліха Капыт, якой ўжо 80 гадоў, помніць Пранука Летахіцкага, але ўсё мястэчка ўспамінае аб чалавеку, ахвяраваўшым сваё жыцьцё, каб ўратаваць людзей; бацькі кажуць аб ім сваім дзяцём і ўсе шануюць сьветлую памяць Пранука Летахіцкага.

Запісаў вучань 4 клясы Сэмінарыі
Мікола Багаткевіч.

---

# ЗЬМЕСТ.

---

# Памылкі ў друку.

| *Стар.* | *Радок* | *Надрукована* | *Павінна быць* |
|---|---|---|---|
| 9 | 6 зьнізу | дадайце | аддайце |
| 90 | Пад рысункам | возёра | возера |
| 104 | 18 згары | Узноў | Ўзноў |
| 114 | 2 „ | у садочку | ў садочку |
| 121 | 10 „ | У торбачкі | У торпачкі |
| 121 | 17 „ | гародз 'эза | гародзе, за |
| 121 | Пад рысункам | Пакуль хлеб | Пакуль цэп |
| 125 | 2 зьнізу | Уранку | Ўранку |
| 131 | 2 згары | сыплець | сыпнець |
| 133 | 13 „ | адно | ажно |
| 145 | 1 „ | Адні | Адны |

**L. Harecka. „RODNY KRAJ“, cz. II.**


Drukarnia „Wydawnictwo Wileńskie“, B. Kleckina. M.-Stefańska, 23.